ГА “Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны”

# ПАЛАНЭЗ

## Слонімскі літаратурны альманах № 1

Гродна
«ЮрСаПрынт»
2019

# Шчодры пасеў

Прапанаванае выданне – першы нумар Слонімскага літаратурнага альманаха “Паланэз” – не вычэрпвае ўсе літаратурныя набыткі Слонімшчыны. І мне здаецца, што іх вычарпаць немагчыма. Гэта датычыць і мінулых стагоддзяў, і XXI стагоддзя, бо Слонімшчына – адзін з найбагацейшых раёнаў Беларусі на літаратурныя таленты. Тут нарадзіліся ці часова жылі пісьменнікі, якія пісалі не толькі па-беларуску, але і на расійскай, польскай, ідыш, нямецкай, французскай, латыні, украінскай мовах.

Таму, каб шырока пазнаёміць чытачоў з усёй літаратурнай Слонімшчынай, магчыма, хапіла б толькі штомесячнага часопіса “Паланэз”. Але мы задаволены і тым, што, дзякуючы ГА “Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны”, сёння з’явілася такая мажлівасць распачаць наш шчодры творчы пасеў – выданне штогадовага альманаха “Паланэз” і вынесці яго творы на суд чытачоў.

Старажытны Слонім і яго ваколіцы маюць даволі багатыя літаратурныя традыцыі. Яшчэ са школы мы памятаем “Прамову” Івана Мялешкі (XVII ст.), з якою ён выступаў на Варшаўскім сейме ў прысутнасці караля Жыгімонта III Вазы. “Прамова” Мялешкі стала пачаткам своеасаблівага жанру палітычнай сатыры ў беларускай літаратуры. Гэты арыгінальны і глыбока самабытны мастацкі твор, напісаны тры стагоддзі таму, адлюстраваў настроі нашага народа. А яго аўтар — Іван Мялешка, нарадзіўся на слонімскай зямлі.

Калі слонімскім старостам быў Леў Сапега, як мяркуюць некаторыя даследчыкі, у Слоніме набіраўся вядомы на ўсю Еўропу Статут Вялікага Княства Літоўскага.

У XVIII стагоддзі ў Слоніме пры двары Міхала Казіміра Агінскага працавала друкарня, існавала вялікая бібліятэка, быў тэатр і капэла. У друкарні выдаваліся кнігі на самыя розныя тэмы, нават сам Агінскі пісаў вершы і надрукаваў іх у 2-х тамах пад псеўданімам “Слонімскі грамадзянін”.

У гэты час пры двары гетмана жылі і працавалі на літаратурнай ніве пісьменнікі Францішак Хамінскі і Ігнат Ляхніцкі. Жыў тады ў Слоніме і пісьменнік Юзэф Каблянскі, а крыху пазней нарадзіўся ў горадзе над Шчарай Юліян Корсак (1806-1885), які перакладаў Дантэ, Шэкспіра, Шылера. У Жыровічах жыў і працаваў вельмі таленавіты пісьменнік Плакід Янкоўскі (1810-1872). З Жыровічаў родам былі браты Уладзімір і Яўген Хлябцэвічы, апошні з іх шчыра сябраваў з Янкам Купалам. У 1983 годзе Адам Мальдзіс і Іван Крамко апублікавалі створаныя ў 1622 годзе творы жыровіцкага манаха Феадосія Баравіка, напісаныя на ўзорнай беларускай літаратурнай мове XVII стагоддзя.

У вёсцы Чамяры нарадзіліся празаікі, паэты, літаратуразнаўцы Максім Бурсевіч, Анатоль Іверс, Якуб Міско, Міхась Міско, Іван Чыгрын, Сцяпан Міско, Уладзімір Іскрык, Ігар Бурсевіч…

Слонімшчына з'яўляецца радзімай беларускага паэта, празаіка, драматурга пачатку XX стагоддзя Кандрата Лейкі. У вёсцы Рудаўка прайшлі дзіцячыя гады Валянціна Таўлая. На вялікі жаль, даўно пакінулі гэты свет слонімскія літаратары Алесь Сучок, Валянціна Ададурава, Янка Карповіч, Іван Сяргейчык, Рудольф Пастухоў, Мікола Арочка, Алег Лойка, Уладзімір Сакалоўскі, Янка Саламевіч. Няма ў жывых вязняў сталінскіх лагераў — паэтаў Сяргея Дарожнага і Васіля Супруна, а таксама яўрэйскага паэта Хацкеля Дунца. У Слоніме некалі жыў добры паэт, калекцыянер, мастак, музыкант, сябар Янкі Купалы Гальяш Леўчык.

Калі вам не надакучыў спіс літаратараў Слонімшчыны, дык скажу яшчэ, што наша зямля з'яўляецца радзімай Уладзіміра Ягоўдзіка, Уладзіміра Цвяткова, Надзеі Дземідовіч, Ганны Шарамецьевай, Святланы Варонік, Сяргея Ярша, Васіля Герасімчыка, Міколы Канановіча, Святланы Адамовіч і іншых даўно вядомых літаратараў і даследчыкаў нашай творчай спадчыны.

Сёння ў Слоніме і раёне жывуць тры сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў — Зьніч, Мікола Кананович і аўтар гэтых радкоў, а таксама два сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі – Ірына Войтка і Аляксей Якімовіч. Яны шмат пішуць, друкуюцца ў розных літаратурных выданнях.

Побач з намі, у адным горадзе, спрабуюць свае сілы маладзейшыя празаікі і паэты, якія не маюць сваіх уласных кніг, але гэта ў іх яшчэ наперадзе. Чытаючы паэзію і прозу, драматычныя творы і даследчыя артыкулы слонімскіх літаратараў, міжволі прыгадваюцца радкі Гальяша Леўчыка:

Ідзі і сей!
Праўдзіва зерне сей —
Зярнятак добрай мудрай думкі
На полі родным шмат развей —
Ідзі і сей!

Кліч паэта даўно пачуты на слонімскай зямлі. Таму да сённяшніх дзён нашы творцы шчодра сеюць свае літаратурныя зярняты. І яны прарастаюць, каб чытачы паверылі ў шчырасць пачуццяў аўтараў, у іх любоў да сваёй Бацькаўшчыны.

**Сяргей ЧЫГРЫН,**
**сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў**



# Гальяш ЛЕЎЧЫК
# (1880-1944)





*Нарадзіўся 20 ліпеня 1880 года ў Слоніме. Скончыў Слонімскае павятовае вучылішча. Займаўся літаратурнай творчасцю, калекцыяніраваннем, добра маляваў, іграў на многіх музычных інструментах. Выступапаць у друку пачаў з 1908 года ў віленскай газеце "Наша Ніва". У 1912 годзе выйшаў з друку зборнік вершаў "Чыжык беларускі". Друкаваўся таксама ў многіх заходнебеларускіх выданнях. У 1980 годзе ў Мінску Янка Саламевіч падрыхтаваў і выдаў зборнік твораў "Доля і хлеб".*

*Памёр у верасні ў 1944 годзе ў Варшаве.*

## Ніхто маіх не знае слёз

Ніхто маіх не знае слёз,
Што ў сэрцы схованы глыбока,
Проч роднай хаты там – далёка,
Дзе я радзіўся, бегаў, рос;
Дзе йшоў касцоў праз горы, долы
Зык-звон вясёлы.

Ніхто маіх не знае слёз,
Ніхто маёй не знае долі,
Апроч крыніцы той – у полі,
І вербаў сумных, і бяроз,
Старэнькай грушы у садочку,
Старых кляночкаў.

Ніхто маіх не бачыў слёз,
Ніхто не знаў мяне ў нядолі,
Апроч той пасекі пры полі,
Апроч ракі, плытоў і лоз,
І той дарожкі, што пры рэчцы
Шнурком пляцецца.

Ніхто не знае... проч магіл,
Што траўкай-мохам зарастаюць,
Што столькі сумных дум хаваюць,
Нязбытых дум, прапаўшых сіл...
Дзе жджэ мяне дзярна ўзгор чысты
На сон вячысты...

*Варшава, 1909 г.*

* * *

Хто адрокся сваіх,
Хто стыдацца нас стаў
І прыліп да чужых, –
Каб ён свету не знаў!

Мову родную хто
Пазабыў, асмяяў,
Загубіў за нішто, –
Каб ён свету не знаў!

Сваю родну зямлю
Хто чужынцам прадаў,
Скрыўдзіў вёску сваю, –
Каб ён свету не знаў!

Хто з народам не жыў
І карысці не даў,
Хто сваіх не любіў, –
Каб ён свету не знаў!



## Следам за дзедам

(Беларуская прыказка)

Родны наш краю, Русь Бела старэнька:
У лугох і вазёрах красуешся ўсенька,
У рэчках, абросшых трасцінай, аерам,
Лясамі атуляна, поўнымі зверам,
У кветках даліны, курганы і горы —
Ты, чыста — як поясаў слуцкіх узоры!

Грыміць у дзяцей тваіх родная мова
І песня — як ліра, як дудка вярбова
Разносіцца рэхам пры захадзе сонца:
Дзе сівы дзед грае ля хаты ваконца,
А ўнукі і ўнучкі ад кожнае хаты —
Ўсе слухаюць культ твой чароўны, багаты!

Ты, матухна нашая, родная, міла!
Жыве і жыць будзе нязнішчана сіла
Ў грудзёх тваіх дзетак і ўнукаў сярмяжных —
І так, як дзяды, неадменных, адважных,
Як прадзеды беглі дзядоў сваіх следам,
Так праўнукі пойдуць іх следам за дзедам!
Так следам за дзедам — нароўні з людзямі,
Як роўныя з роўнымі, пойдзем мы самі
Сваёю дарогай к Бужышчу навукі!
Ніхто не прыпыніць: ні крыўда, ні мукі
Дарогі да сонца Свабоды тым следам —
Якім йшлі заўсёды ўнукі за дзедам!

*Слонім, 1922 г.*



## Браце, беларусе!

Браце, беларусе, вер, што не пакіне
Із-за хмараў цёмных сонейка свяціці!
Ўсю бяду і гора, што да нас ўсё хлыне,
Мусім цярпяліва, як-нібудзь, пражыці!
Браце, беларусе, не бядуй, што хмары
Сонейка закрылі — час прыдзе, настане,
Што засвеціць сонца ў нашыя паперы,
Залатым праменням ў вокны нам загляне!

*1922 г.*

## Беларускі народ роднаму краю

З цёплаю вясною,
З радасці слязою
Птушкай заспяваю
Для роднага краю!
Сонейкам агрэю,
Ветрыкам павею,
Зажурчу крынічкай
Чыстай-халадзічкай.
Як рунь зазелянею,
Кветкай запахнею,
Дожджыкам пальюся,
Цветам расцвітуся,
Ягадкай, грыбкамі
Сяду між кустамі,
Гарэшкамі завісну,
Матылькамі заблысну,
Пчолкай разжывуся,
Венічкам злучуся,
Збожжам зажаўцею,
Каласком паспею,
Сонцам заяснею,
Ведай збагацею!..

*Слонім, 1924 г.*

## Вясна ідзе!

Вясна ідзе, грымот гудзе,
Дый будзіць ўсю прыроду:
Жыццё ды радасць ўсім нясе —
Ўсяму жывому роду.
Вясновы дождж ужо паліў
На землю скасцянелу,
Дый цёплы вецер растапіў
Сняжную плахту белу.
Шчабечуць птушкі у гаёх
Дый гнёздачкі будуюць,
Ў кустах, у лесі, на палёх —
Усе вясну ўжо чуюць.
Збудзілась траўка ўжо ад сну,
Дый кветкі падняліся,
А пчолкі, чуючы вясну,
На волю панясліся...
Вясна ідзе, жыццё нясе —
Дый будзіць ўсю прыроду...
Калі ж да нас вясна прыдзе —
Да нашага НАРОДУ?

*1924 г.*



# Сяргей ДАРОЖНЫ (1909-1943)





*Нарадзіўся 25 лютага 1909 года ў Слоніме. Скончыў Белдзяржуніверсітэт. Быў сябрам літаратурных арганізацый “Маладняк” і “Узвышша”. Працаваў у рэдакцыях газет і часопісаў. З вершамі пачаў выступаць у друку з 1925 года. Выдаў зборнікі паэзіі “Звон вясны” (1926, у сааўтарстве з І.Плаўнікам), “Васільковы россып” (1929), “Пракосы на памяць” (1932). У 1966 годзе з друку выйшлі “Выбраныя вершы”. З’яўляўся сябрам Саюза беларускіх пісьменнікаў.*

*У 1936 годзе быў рэпрэсіраваны. Памёр у Камсамольску-на-Амуры (Расія) у 1943 годзе. Рэабілітаваны ў 1957 годзе.*

## У строях белых...

Ў строях белых над берагам сонным і стромкім
Ты стаіш, нахіліўшы свой стан,
І ў вачох — у блакітных палонках —
Каляруецца белая рань.
Ружавее вада, як зара на палёх,
Ціха хвалі да берагу ймкнуцца,
Вецер песьціць бялявы паркаль на грудзёх, —
Ты ня знаеш каму усьміхнуцца: Задумёна стаіш, пазіраючы ўніз,
Пахваляецца поле жытамі...
І да берагу чар падплываюць чаўны
Дзён асеньніх, трывожачы «тайны.
Ой на беразе тым, у зялёнай вадзе
Часта бачыў я постаць дзяўчыніну...
І хацелася мне, як яна, маладзець
Раніцою у хвалях сініх...
Ды ня ведаў тады, як зара расьцьвіла —
Ці то сон, ці бялявы росквіт:
Па-над берагам тым ў сонньш звоне гальля
Не дзяўчына стаяла — бярозка...
Разышоўся туман, зацьвілі берагі,
Пахам сонца павеялі далі...
І дасюль я зьбярог вобраз мне дарагі,
На чаўнох адплываючы далей.

*1927 г.*

# Дадому

Як станіўся і як зморан,
Адпачыць бы ля ракі.
На сінеючых вазёрах
Запяваюць трыснікі.
Вее сінь туманам свежым,
Стома ўлеглася ля ног...
Пескавыя узбярэжжы
Мне прыпомніліся зноў.
Да сяла ужо недалёка,
Легкі дым ляціць з садоў,
Млын стары ўсё так жа бокам
Пахіліўся над вадой.
Дзеравяная званіца
Ды разбітыя званы
(Ім пара ўжо разваліцца)
Стогнуць нудна ў цішыні.
Вось і нашыя вароты.
Адчыняю. Як даўно!..
З брэхам «бобік» наш дваровы
Зноўку лашчыцца ля ног.
Вось ён добры мой прытулак!
Колькі год і колькі зім..
— Добры дзень, мая матуля!
Гэта я... Сяргей, твой сын.
— Ты, сыночак?.. Дагарае
Колер макавы зары,
І ўжо з радасці старая
Больш не можа гаварыць.
І ў расчыненую хату
Я іду, як новы госць.
Як змянілася багата,
А ў старых — звычайна пост.
— Ну, расказвай жа, матуля,
Ці здаровы сёстры, брат.
Ува мне ‘шчэ не заснула
Юных год мая пара.
Я ‘шчэ помню, добра помню
Тую ростань і той дзень .
Асыпала сонца промні
На зямлю і на людзей.
Я ішоў наўгад сцягою
Пад абозны скрып калёс
— Маці, маці, што з табою?
Не шкадуй... Я перанёс...
Не шкадуй: такіх багата.
Хай ляціць, няхай яно...
На страсе і каля хаты
Вераб’і ўзнялі садом.
І звычайная бяседа
Палілася за сталом:
— Заўтра трэба йсці на сена,
А сягоння жыта жном.
Ураджай хоць невялікі,
Але ўсё ж, ты знаеш сам...
І ад ветру ў садзе ліпы
Галаву схілялі к нам.
Маці змоўкла, спахмурнела,
Я панік ад звыклых дум,
Толькі слухаў, як звінелі
Песні звонкія сялу.
А назаўтра, ‘шчэ паляны
Не ссыпалі росных слёз,
Пабудзілі мяне рана:
— Ў добры час.
На сенакос!



# Вячорныя песні

1.
Ноч стамлёна махае крылом;
За ваколіцай юныя песні
Залатым адшумелі аўсом
Над бядою лазовай Палесся.
О, краіна, лясная мая!
Цішыня ды туманы над долам...
Я прышоў, як бяздомны баян,
На тваё сіратлівае поле.
Я прышоў яго песняй уславіць,
Сын сяла у плашчы гарадскім...
Родны кут! не пазнаць яго нават
Дзе свае тут, а дзе чужакі.
Вось бялее пасёлак далінай,
Шызы дым над пагоркамі стрэх.
А калісь тут шумелі асіны,
І гарэлі кастры у начлег.
Ой заві ж, вецер, песню маю
Тут я толькі сягонняшні госць:
Тут інакшыя песні пяюць,
Тут не смутак ужо — весялосць.
І нявольна я ў гэтакі вечар
Успамінаю, чым некалі жыў:
Стройны стан і вячорныя стрэчы,
І палын ля старое мяжы.
Вось прашла яна ціхай хадою,
Нібы толькі прыгожы ўспамін,
І вось, вось зацвіло ўсё вясною,
Запалаў беласнежны язмін.
Ці лятункі, ці мары над ім,
Толькі помню, тады, на вясне,
Яна ў белым убранні сваім
Першы раз усміхнулася мне.
Дні ішлі ў неразгаданым сне.
Я у горад паехаў і вось,
На радзімай сваёй старане
Я цяпер толькі сённяшні госць.
Мне цяпер не пазнаць сваёй хаты:
Ўсё змянілася тут, нават лес
Кожнай хвояй аплаквае страту —
Апусцелых дуброў жоўты плес.
Жорсткі век наш, узбуджаны век!
Гнеў жалезны над полем навіс,
Хаты, нібыта сотні калек,
У маленьні акурваюць высь.
Што ж тут я на узмежку дзіўлюся?
Тут не тыя ўжо песні да слёз.
Тут не колішні сум Беларусі
Па узгорках рассыпаў авёс.
О, краіна, лясная мая!
Усё, што сэрцам і песняй люблю.
Прыдзе скора ён—новы баян
Славіць край і другую зямлю.
Ён з сабою інакшую песню
Прынясе на сталёвым плячы.
Мо' з таго так надрыўна, Палессе.
Заўжды плачуць начныя сычы.
Жорсткі век наш, узбуджаны век!
Гнеў жалезны над полем навіс,
Хаты, нібыта сотні калек,
У маленьні акурваюць высь.

2.
Вечар маўклівы.
Над сонным залівам
Залочаны човен плыве.
Вясковыя песні,
Вячорныя песні
Купаюцца ў роснай траве.
І смутак, і радасць
У песнях, у гэтых
Адчуў я ўсёю душою.
Мне сніцца, нібыта
Зусім я падлетак
Стаю над шырокай мяжою.
Мне сніцца вясёлы
Хлапчук, год сямі,
Кудравы і чорнавалосы,
З далёкай сялянскае
Беднай сям'і,
З вясны і да восені босы.
Калісьці так дзіўным
Здаваўся яму

Кудравы над полем авёс
І гэта маўклівая дальняя муць,
Дзе некалі жыў ён і рос.
Дзе некалі быдла
На пасту ганяў,
Начлежыў ў асеннія ночы,
Дзе некалі марыў да самага дня
Пра дзеўчыны сінія вочы.
Далёкія былі, Асеннія дні!
Я ніколі дагэтуль не знаў,
Што гэта былі толькі мары І сны,
Гадоў адзвінеўшых мана.
Не тое жыццё тут,
І песні не тыя,
Старое на злом аддалі.
Тут толькі таполі лісты залатыя
Усё так жа страсаюць ў палі.
Ўжо больш не сустрэць мне
Таго, што калісьці...
Таго, чым я некалі жыў.
І думы,
Як з клёну пажоўклае лісце
Лятуць да забытай мяжы.

*1927 г.*

## Каля прыстані

І такою вячорнай парой
Развіталіся мы каля прыстані.
Усміхаўся за дальняй гарой
Беразак залатымі маністамі.
І відно было, толькі дзве постаці
Калыхаліся ў цмянай вадзе...
Мы глядзелі з вячорнаю простасцю
На адплаканы зорамі дзень.
Вечар сыпаў сігналы-агні,
Параходы зніmаліся з якараў.
Я адплыў, як асеннія дні,
Залатымі лістамі аплаканы.
Я адплыў да другіх берагоў
Адвячорнымі ўсплёскамі Прыпяці,
І з вакна дзіваваўся табой,
Дзіваваўся асенняй іскрыстасці.
І так доўга глядзеў на маяк,
Мне ніхто не ўсміхаўся так ветліва,
Толькі водаль хусцінка твая
Мільганула за сумнымі ветламі.
Ты ізноў засталася аднэй.
Адышла... але знаю на ростані,
Ты успомніш з другім аба мне,
Як аб хлопчыку мілым і простым,
Ты успомніш, абняўшы яго,
Што калісьці было толькі мараю,
І пад песню з вячорнай тугой
Адыграеш апошнюю арыю,
Што калісьці вячорнай парой
Развіталіся мы каля прыстані.
Усміхаўся за дальняй гарой
Беразак залатымі маністамі.

*1928 г.*



# Рыбакі

Вецер стамлёна прылёг на траве,
Месяц блішчыць над ракою.
Мрок задумённа на бераг плыве
Ў цмяных адценях спакою.
У соннай вадзе задрамалі чаўны,
Вербы схіліліся ў ценях.
Срэбныя сеці раскінулі сны
Між трыснікоў і каменняў.
Спяць берагі у начной цішыні,
Завадзі ў месячным веццi...
Там рыбакі з ледзяной глыбіні
Цягнуць стамлёныя сеці.
Там устрывожанай хваляй вада
Б’ецца ў нахмураны бераг,
І адплываючы ў цмяную даль
Сполахам крыецца шэрым.
Ціха і моўчкі ідуць рыбакі,
Месяц люстэркаю свеціць:
Што прынясуць на ўзбярэжжы ракі —
З завадзей цяжкія сеці.
Думкі, як хвалі у звыклай хадзе.
Повень дакурвае люльку
І туманы нібы дым на вадзе
Чэзнуць ў далёкім затулку.
Ноч. У надзеях нацяты канат
К берагу бліжыць удачу:
Свежая рыба на жоўты пакат
Срэбрам зіяючы, скача.
Дальнія хвалі вітаюць пачын.
Раніца сеці збірае.
Недзе ў досвітку певень крычыць,
Месяц блішчыць за гарамі.
Човен яго ля сінеючых вод
Дзесьці бярэцца на прывязь.
Днее. І ноч пакідае усход
У ценях на чорным абрыве.
І як заўсёды, пад звон асакі
Дзень усміхнецца на рэчцы —
Ў чорных чаўнах адплывуць рыбакі
К дальнім кастрам
Абагрэцца.

*1928 г.*

# Анатоль ІВЕРС (1912-1999)





*Нарадзіўся 15 мая 1912 года ў вёсцы Чамяры Слонімскага раёна. Вучыўся ў Віленскай, Клецкай і Навагрудскай гімназіях. Удзельнік Другой сусветнай вайны.*

*З друку выйшлі зборнікі паэзіі "Песні на загонах" (1912), "З пройдзеных дарог" (1970), "Жыву ў бацькоўскім краі" (1982), "Я пайшоў бы ўслед за летам... "(1987), "Прыдарожныя сосны" (1995), "Травень" (1997). Да 100-годдзя паэта Сяргей Чыгрын падрыхтаваў і выдаў трохтомнік "Аўсяныя росы" (2011), "З глыбінь жыцця" (2012) і кнігу "Жыццё і творчасць Анатоля Іверса" (2012).*

*Жыў і памёр у Слоніме 26 кастрычніка 1999 года.*

## Лясны паклон

Вятры сняжынкі ў полі гналі,
Працяжна вылі, бы знарок.
Навокал ноч. І мы не зналі,
Што здарыцца, як ступім крок.
Засады ў полі не чакалі -
У полі змерзне подлы гад.
Мароз мацнее, шчокі паліць,
Дранцвее, курчыцца нага.
Уперліся ў чыгункі насып -
Ці то ісці, ці то чакаць?
З фашыстам стрэліся сам-насам,
Ды нам не трэба языка...
Перамахнулі цераз рэйкі,
Як збоку кулямёт ажыў.
І працялі намомант нейкі
Хмызняк чырвоныя нажы.
І нібы свет згарнуў хтось жменяй
І сціснуў скроні да крыві.
Мы папаўзлі паміж каменняў
(Прымі падзяку, ледавік!).
І клікаў лес: хутчэй пад сховы,
Тут - цішыня, жывіцы пах...
Ізноў я той хлапчук вясковы,
Што быў запутаўся ў снапах.
Дзяцінства ўсё, як на экране,
Пратупацела басанож
І цеплынёй далёкіх раніц
Змякчае жудасную ноч.
Нарэшце лес - бярозы, елкі.
Пападалі мы зноў у снег.
На гэты раз спачыць каб толькі
На гэтай яве, нібы ў сне.
Але мароз даймае крута.
І нас разведчык вёў далей:
- Зманліва зайсці на хутар,
Ды штосьці голасна ў сяле.
Ішлі сцяжынкамі па лесе.
Асіннік голы, беразняк...
Высока вецер куралесіў,
Бы падаваў умоўны знак.
І мы ішлі на знак той светлы,
Яліну ўбачылі якраз,
Яна махала нам прыветна,
Бы запрашала ў госці насю
І, расхіліўшы тое голле,
Што дасягала да зямлі,
Нібыта ў дом, зайшлі павольна.
Душа, ад радасці замры!
Нас чатырох. А можа сорак
І пяцьдзесят змясціцца тут.
У завіруху тут не сорам
Адчуць лясную дабрату.
Трава пажухлая пад кронай,
Паклаў хтось сена ля ствала.

І ў гэтай хаце, век зялёнай,
Нібы зіма і не была.
Тут снег не сыпаўся на голаў
І дождж не капаў за каўнер.
Мог дакучаць часамі голад,
Ды ён не вечны - праміне.
Лічы, шанцуе партызану,
Бо пад рукамі дровы ёсць.
І хоць сюды ён трапіў нанач,
Ўсё ж гаспадар ён, а не госць.
І ўміг агеньчык дзіўнай кветкай
Расцвіў на вогнішчы старым.
Спакойнай ночы вам, палеткі!
Спакойнай ночы, хутары!..
Да першае вайны, як пушча,
Тут красаваўся стройны лес.
Алень выходзіў з гэтай гушчы,
Ліса вадзілася, але
Пусціў пілу ў жывое цела -
Спраўляў грабежнік «новы лад».
І толькі елачка ўцалела,
Бо невялікая была.
Расла яна тут на прыволлі,
Увысь расла, расла ўшыркі.
І птушанят гайдалі ў голлі
Вясной і летам вецяркі.
І вось цяпер у час суровы
Народных мсціцаў, як дзяцей,
Прымае шчыра ў свае сховы,
Пакуль фашыстаў згіне цень...
Прайшло нямала мірных вёснаў,
Калі дакладна, - трыццаць пяць.
Жывём у краі мы дзівосным:
Спакойна людзі нашы спяць.
Але нічога не забыта,
Ні тыя зверствы, ні разбой.
Усё запісана, нібыта
Застыла жудаснай разьбой.
І хоць гады ляцяць імгненна,
Бацькамі сталі ўжо сыны,
Мы знаем кожнага паіменна,
Хто не вярнуўся з той вайны.
Як бура снежная завые
І замятае ўсе сляды,
Перад вачамі, як жывыя,
Ішлі таварышы туды.
Дзе некалі стаяла елка -
Гасцінны дом для партызан,
Дым лезе ў нос сасновай смолкай,
Як трыццаць год таму назад.
Дыміць касцёр, як кепскі бровар
Ці смалакурня за сялом.
Стаіць Валодзя, хмурыць бровы,
Збірае Міця буралом...
Зрывала ліст апошні восень
З асін прыглушаных, з бяроз,
Калі ізноў мне давялося
Прыпомніць тое, што збярог.
Даўно няма ўжо той яліны.
Мо скрыпкай стала ў скрыпача,
Каб граць «Па ўзгорках і далінах»,
Каб жар душэўны не зачах.
Стаю на гэтым самым месцы,
І нешта сэрца запякло...
Я не магу на пень той сесці.
Паклон табе, лясны паклон!

## Гром веснавы

Промнямі ярка-чырвонымі
Дзень свой паход завяршыў.
Цені зліваюцца з кронамі,
Водбліск – з парвыам душы.
Мой жа паход незавершаны
Па акупанцкіх тылах.
Скажуць бярозы, алешыны,
Дзе наша помста была.
Дойдзем з баямі і гімнамі
Да пераможнага дня!
Будуць страчаць неабдымныя
Поле, густы маладняк.
Дзень Перамогі загрукае
Гулка, як гром веснавы.
Гэта і будзе зарукаю
Вечнага шчасця жывых.

## Салаўіныя ночы

Пераліўна звіняць, як рака,
Салаўіныя ночы.
Маці гладзіць мяне, хлапчука:
«Ўстань, паслухай, сыночак».
Новы май па краіне ішоў
З прабуджэннем і гулам.
Салаўі... Слухаў сэрцам, душой:
Маладосць прамільгнула.
Не забыць, хоць было і даўно,
Не агонь з мінамётаў,
А вясновую срэбную ноч,
Перасвіст над балотам.
Мы на Шчару спускалі чаўны,
Нас таўклі, як цапамі.
Ды не выбухі мін, а яны –
Салаўі будзяць памяць.

## Прадзедава мова

І вось зіма стаіць над краем,
Накрыла сцежкі і шляхі.
А наша мова не ўмірае,
Пераступае рэзкі схіл.
Мы – людзі прадзедавай мовы –
Не пусцім шэльмаў на фасад...
У летні час і ў час вясновы
Каб зіхацела як раса.

## У дзень перапісу

Сказаць, што мне сумна, – не тое,
Пражыў весялосць я і сум.
Ды сэрца ніяк не затоіць
Таго, што з маленства нясу.
Ламаў перашкоды і крочыў
Да праўды па роднай зямлі.
Пяском зацярушвалі вочы,
Змаглі каб – і след замялі б.
Кажу пра сябе, ды не толькі,
Усіх я ў кагорту бяру.
Даказваць прыходзіцца толкам,
Што ты не вярблюд – беларус.

## Роднаму краю

Усё тут пеража́та:
Вайна і звон акоў.
На полі – жыта, жыта
З вачамі васількоў.
О, край бацькоў, пацеш ты,
Дай кропель дажджавых,
Дазволь па роднай сцежцы
Ісці, пакуль жывы.
Кастрычнікам ці маем,
Як сонца, грэй, свяці.
А ўсё, што ў сэрцы маю,
Табе я прысвяціў.

*1977*



# Васіль СУПРУН (1926-2007)





*Нарадзіўся 10 сакавіка 1926 года ў вёсцы Глоўсевічы Слонімскага раёна. Скончыў Ганцавіцкае педвучылішча і гістарычны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Працаваў настаўнікам, будаўніком, супрацоўнікам музея. У 1947 годзе быў рэпрэсаваны, знаходзіўся ў сталінскіх лагерах у Інце і Варкуце. Выйшаў на волю ў 1956 годзе.*

*Займаўся археалагічнай разведкай і раскопкамі на Гродзеншчыне і Брэстчыне. Выдаў кнігі вершаў і краязнаўчых даследаванняў "Крык" (1993), "Рэха абуджаных дзён" (1994), "За смугою часу" (1994), "Жыць для Беларусі" (1998) і іншыя. З'яўляўся сябрам Саюза беларускіх пісьменнікаў.*

*Жыў і памёр у Слоніме 30 красавіка 2007 года.*

## З незабыўных "ксіваў"

* * *

Зноў зашумела калоссе з-над Нёмана, —
Вечар чаканую вестку прынёс.
Вершы чытаю, іх цешуся гоманам
шчырым і родным да слёз.

* * *

З падзякай успрымаю маланак агні
З тваіх усхвалёваных вершаў
І імі гартаю супольнасці дні,
І шчырасцю цешуся першым.
Тут кожнае слова звініць, як булат, —
Ні стогну, ні енку, ні плачу.
Таму праз ашчэрыны дроту і крат,
Цябе нескаронаю бачу.

* * *

Людзі як птушкі: адных вабіць неба.
Там — з высі блакітнай зямлёю жывуць;
Другіх клічуць гоні ўзараная глеба,—
Тут песні свае між загонаў пяюць.

* * *

Вершы мае — жураўлі дзікаватыя —
Крыкам жалобным кранаюць душу.
Можа за смутак яны вінаватыя,
Не папракай мяне, вельмі прашу.
Знаю, што звонкія рытмы юначыя
Больш падабаюцца, больш у хаду.
Але пад маты і зыкі сабачыя,
Радасці словы ніяк не знайду.
Нельга зрабіць з жураўля шызакрылага
Сціплага голуба ці салаўя.
Так і ў душы з праклінання нямілага
Оду злажыць не адолею я.

## Зязюля

Як і ўсе, я вясной крык зязюлі вітаў
І з надзеяй на шчасце загадваў:
У зязюлі прарочай пра долю пытаў
І прароцтвы на пальцах адкладваў.
Ды чамусьці, калі б не пытаўся пра лёс
Колькі год будзе шчасце са мною,
Замаўкала варожка. Задуманы лес
Не суцешваў ніводнай вясною.
Не хацела зязюля чамусь варажыць,
Ці мо горкую праўду казала,
Замаўкаючы раптам. І трэ было жыць
Наўздагад, як быццё навязала.
Толькі з часам я ўсё разгадаў, зразумеў,
Чаму птушка маніць не хацела.
І ад шчасця майго, што з юнацтва не меў,
Замаўкаючы, у гушчы ляцела.

## Мая малітва

Дай жа сілы мне, Божа!
                    Каб змог устаяць
Супраць здзекаў, маны і прымусаў
І каб талент, старанні і праца мая
Сталі плёнам святой Беларусі.
Умацуй маю веру, малітвы мае,
Падкажы праз цярпенні дарогу
Да дабра, усеабдымнай любові Твае
І да роднай хаціны парога.
Сумна-цяжкаю сталася ноша мая
Па нявольных крывых пуцявінах
У чужых і заклятых прыродай краях,
Між магілак ахвяраў нявінных.
Умацуй мае сілы і веру маю.
Божа мілы, заступнік адзіны!
І надзеі, і лёс свой Табе аддаю.
Жыць хачу толькі доляй Айчыны.



## Мікола АРОЧКА (1930-2013)





*Нарадзіўся 10 снежня 1930 года ў вёсцы Вецявічы Слонімскага раёна. Вучыўся ў Азярніцкай сярэдняй школе. Скончыў Белдзяржуніверсітэт і аспірантуру Інстытута літаратуры Нацыянальнай Акадэміі Навук Беларусі. Працаваў у рэдакцыях газет і часопісаў, а таксама ў Інстытуце літаратуры. Доктар філалагічных навук. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.*

*Напісаў і выдаў дзясяткі кніг паэзіі, прозы, перакладаў і літаратурна-даследчых артыкулаў, сярод якіх – "Не ўсе лугі пакошаны" (1958), "Ветраломная паласа" (1962), "Матчына жыта" (1978), "Падземныя замкі" (1986), "Хай расце маладая таполя" (1964), "Галоўная служба паэзіі" (1974), "Саюз часу і майстэрства" (1981) і іншыя.*

*У апошнія дваццаць гадоў жыў у роднай вёсцы Вецявічы, дзе і памёр у 2013 годзе.*

### Інструкцыя Каліноўскага

*У патронніку паўстанца, забітага 28 ліпеня 1863 года ў бітве пад Ваўкавыскам, была знойдзена "Інструкцыя" К. Каліноўскага.*
*(З матэрыялаў паўстання)*

Канае касінер...
Больш – ні набоя!
А без набоя стрэльба – больш не зброя.
Адкінуць – і ў балеснасці сканаць?
Пакінуць пад аплыўшаю крывёю
Надзел у марах?
Ніўку-сенажаць?

Нарэзаная ўчора камісарам,
Зямелька – тут, за пазухай!
Надзел!
Ох, як яна пячэ, гарыць пажарам,
Паперына – на вогнішчы грудзей!

Ён світку рве –
Каб вокам дакрануцца,
На хвілю распагодзіць мутны зрок.
Агніста скачуць літары:
Ін-стру-кцыя...

Загад – нібыта ўзведзены курок!
Загад:
На тых нарэзаных загонах
Не дапускаць старога здзеку ўлад,
Пабораў непамысных,
гвалтаў, згонаў...
Ну, словам, дзельна пісаны загад!

Аж выдыхнуўся стогн:
Зя-мля... Зя-мель-ка!
Дэкрэт аб надзяленні... Камісар...
І подпіс... І пячатка!..
Сцята, з енкам
Ён згортвае у трубку гэты дар.

Чаму ж ты грозна пасміхнуўся,
Рольнік?
Зяхае твая стрэльба руляй злой.
Паперына заходзіць у патроннік,
Як спрасаваны гнеўнасцю
набой!
Ты цэлішся ў гарачцы...
Зрок імглісты...
Ды шэрыя шарэнгі засцяць свет!
Тваю зямельку топчучы, царысты
Ідуць... Пажадна рукі цягнуць –
Па дэкрэт!
Паперадзе валюхае пачвара,
Мярзотная, заплямленая ў кроў…
Ты цэлішся — рукамі, зрокам, тварам…
Палохайся набою
Мураўёў!
Бліжэй, бліжэй…
Ды спушчаны курок!
З патронніка зарад б’е
карай боскай!
У палымненні грозным Каліноўскі
Дае захопнай набрыдзі урок!



## Каронная балада Вітаўта

Адчуўшы блізкі скон, вялікі Вітаўт
Сабраў да ложа ўдатных ваяроў,
З рассечанай кароны выцер кроў,
Змачыў яе гаючай акавітай.
Перахапіць хіба маглі магнаты?
Асвечаную Рымам – ды на злом?!
Яна ўцякла параненай ад здрады
На нашае дзяржаўнае чало!
На раны яе Вітаўт самавіта
Усклаў далоні – з пошаптам бароў,
З расстайным рыкам збуджаных зуброў –
І ажыла карона з мараў літая!
Цяпер з чала не дайце яе зрынуць,
 Зноў мечам ці маной распалавініць
Пасеч зямлю, нябёс блакітны дах.
Зямля сябе ўзгадуе ўласным коштам,
Хоць шлях Айчыны будзе і не простым,
Ды ў бок Свабоды выкіруе Шлях!

## Сапёрная лапата

Яе ніхто не вешаў, нібы зброю,
Начысціўшы да бляску, на сцяну.
Хоць і насіў пры поясе з сабою
З кінжалам і набоямі ў вайну.
Сапёрная лапата – не кінжал,
Няма ў яе такога піетэту.
Ды не таму, што менш яна апета,
Я сёння пра яе пішу, на жаль.
Хоць у яе заслуг было нямала,
Акопам прыкрывала на вайне,
Укопвалася ўглыб і ратавала
А колькі пахавала там, на дне!
Ды ўнучка той лапаты – о, няслава!—
Крывава паласнула і па мне.
Яна паўстала не ў суглінку глеўкім,
Не ў рэштках жвіру, дзёрану, травы.
Я не магу ўявіць цябе, рыдлёўка,
У свежа змочанай людской крыві.
Як мне ўявіць цябе ў руцэ салдата,

Што з похвы выхапіў –
сячэ, сячэ!
Кроў па табе, па чэране цячэ
На карнікаў, спецвывучаных катаў.
Сціскаючы кальцо смяротнай пасткі,
Ты вышкалена сееш жах і стогн.
Хто ўпаў, паўзе –
крыжуеш іх на часткі.
Шалее па кустах і хруст, і звон…
О, ганьбішча палпотаўцаў, дыктату!
Кроў пыршча на каменне, на лісты,
На веру, на сумленне…
Колькі стратаў!
Хто злічыць тыя страты?!
Цяміш ты,
Што ты ўчыніла, брудная лапата?
Сцюдзёнаю вадою не адмыцца
Табе і безгалоўую ўладароў.
Бо кроў людская – гэта не вадзіца,
Яна ў зямлі не чэзне!
І злачынцам
Напомніць пра сябе святая кроў!

## Вяртанне ў поўдню

Хацеў сабе зрабіць прыемнасць:
Пацвердзіць свой трыццаты год,
Сысці ў мазольны свет турбот –
Да вілаў, кос у пад'ярэмнасць.
Але спазнаў я ўсю дарэмнасць,
Бо попел вогненных нягод
Даўно пусціў мяне ў расход,
Ды засталася з краем крэўнасць!
Пакуль у свет твой павяртаю,
Акраса краю – я ўтрываю!
Пад абразамі на куце,
У вечнай поўні роднай мовы.
Не згіне поўня: вунь расце
З яе ўжо рог маладзіковы!

*1990*

# Горкі лубін

На полі панскім спела навіна.
Не краў мой бацька зроду, але, кажа,
Гаспадара зманула тая кража,
Ды бокам выйшла, клятая, яна. . .
Любіў зямельку бацька мой, любіў!
Пеленгаваў, карміў, баяўся скрыўдзіць.
Дзеля яе пачаў ён кражай трызніць,
Яшчэ на грэх і родзіча падбіў.
Начнымі сцежкамі, праз хмызнякі
Два мужыкі падкраліся да поля,
Не чуючы, як пальцы іх калолі
Даспелыя жаўтлявыя струкі
Ад іх тугіх бакоў шарахаватых
Струменіў росны гаркаваты пах.
Краналі пальцы, занядбаўшы страх,
Пад шкарлупой пукатыя зярняты. . .
Напакавалі торбы са струкамі –
Ды ходу!.. У двары спазніўся брэх...
Але калоўся і праз торбы грэх!
Пляліся з ацяжэлымі рукамі...
Праз колькі год – я помню – паркай коней
Прыворваў бацька лубін той плужком,
Сцябліны пад лямех клаў ланцужком...
Ах, што за жыта ўстала на загоне!
Духмяны колас пад сцяблом не зляжа!
Салома – ў куль.
Страха на сотку год!
Радзіла бульба сопкая... А пража!
Ды лубін наш пайшоў не на развод...
На звод пайшоў!
А разам – Гаспадар.
Яго турботы выйшлі яму бокам...
Ах, горкі лубін, зерні даўніх мар –
Мяне жывілі доўга горкім сокам!



# Алег ЛОЙКА (1931-2008)





*Нарадзіўся 1 траўня 1931 года ў Слоніме. Скончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта і аспірантуру. З 1956 года працаваў у Белдзяржуніверсітэце. Быў дэканам філалагічнага факультэта ўніверсітэта, кіраваў універсітэцкім літаб'яднаннем "Узлёт". Доктар філалагічных навук, прафесар. Член-карэспандэнт Нацыянальнай Акадэміі Навук Беларусі. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.*

*Пры жыцці напісаў і выдаў 101 кнігу паэзіі, перакладаў, падручнікаў і літаратуразнаўчых кніг. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа за раман-эсэ "Францыск Скарына, або Сонца маладзіковае" (1990).*

*У апошнія гады жыў у Слоніме, дзе і памёр 19 лістапада 2008 года.*

## Балада Белай Русі

Плылі туманы бялёсыя —
Малочныя туманы
Над Нарачанскімі плёсамі,
З-над Нёмна, Дняпра, Дзвіны.
Да сонца ў сонцы скляпеніліся
Белаю вапнай муры.
У звонкіх даёнках пеніліся
Рэчак малочных віры.
Ручво да ручва, як гонейкі,
Скрозь па лугах вясной
Палотны, слепячы сонейка,
Слаліся белізной.
Белых бяроз Вежы Белыя
Ў сакавіцкіх палях
Падпярэзваў з'інелы сам
Вечны Млечны Шлях.
Ды не паспявалі сняжыначкі
Далані арасіць,
Чаромхавы квет на сцяжыначкі
Збівалі рагамі ласі;
Ды не паспявалі чаромухі
Долу асыпаць квет,
Грэчкі — унучкі сёмухі —
Духмянілі ўвесь сусвет;
Вярталіся з выраю птушачкі:
"Долу кінь перыйка, птах!
На белыя на падушачкі —
Дачушачкам на пасаг!.."
Мілая, любая, родная
Зямля абяцаная,
Белая — значыць свабодная,
Незваяваная.
Вечная над нязванымі,
Няпрошанымі гасцьмі —
Над немымі іх курганамі,
Над белымі іх касцьмі,
Пад сонцам, што добрым Ярылаю
Спрадвеку сváточна гарыць,
Пад парай буслоў белакрылаю,
Што кружыць на шчасце ўгары.

## Ружа вятроў

Ружа вятроў —
Некалючая ружа
Кружыць з вятрамі,
Пагрозліва кружыць,
Кружыць, як помста...
За што, за якое
Белую Русь ты,
Не колючы, колеш?!
Як цябе вырваць,
Здрадлівы квеце,
Каб гэткіх руж
Не было больш на свеце?!
Ружа вятроў!..
Сонца ў воблаках тужыць:
Горам чарнеюць
Сапраўдныя ружы!..

## Каторы ўжо раз закаханы

Каторы ўжо раз закаханы
Ў цябе я — дзесяты, соты?..
Перахоплівае дыханне,
Як ты парушаеш самоту.
Праменем сонца ласкавым,
Цёплым, як ён, і няўлоўным
Прыходзіш у сон светлай явай,
Яву — сном робіш чароўным.
З поля прыходзіш, сэрца
Пяе жаўруком нестрымана.
З бору прыходзіш, рвецца
Да сонца сасонкай з туману.
З лугу прыходзіш, вочы,
Як подых атавы надрэчнай, —
Бусел клякоча-прарочыць
Атаве расці нашай вечна...
Ці позніх зарніц калыханне,
Ці ліўняў ліпнёвых грымоты,
Перахоплівае дыханне...
Дзень добры, шчасце маё ты!..

## Дарагая

Пазірні, паглядзі, дарагая:
Ціха ў небе зара дагарае.
Хоць зязюля куе звонка ў гаі,
Дагарае зара, дагарае.
Золь, нягоды я перамагаю,
Бо на свеце ёсць ты, дарагая;
Можа, дзе хто каго больш кахае,
Ды не гэтак, як ты, дарагая;
Можа, дзе хто да зорак сягае,
Ты ярчэй, чым яны, дарагая;
А ці ёсць дзе туга больш тутая,
Чым мая па табе, дарагая?!
Палынам хай зара дагарае,
А не мне, не табе, дарагая!..

## Клён за туманамі ціха растане...

Клён за туманамі ціха растане,
Ясны твой воблік далеччу стане –
Што гэта творыцца толькі са мною?!.
Бліжай становішся ты – у растанні!..
Як неспазананай, нябачанай госці,
Не пазнаю зноў, нібы ў маладосці,
І не ўяўляю бязмежнасці іншае
Ласкі, і шчырасці, і прыгажосці!..
Імі да сэрца глыбінь прасвятлёны,
Змогла каўтаю скіпелую горыч,
Каб не вяртацца ніколі пад клёны
Той слепаты, што была з табой поруч!..



## Іван ЧЫГРЫН
## (1931-2006)





*Нарадзіўся 10 красавіка 1931 года ў вёсцы Чамяры Слонімскага райна ў сялянскай сям'і. Скончыў філалагічны факультэт БДУ, працаваў настаўнікам у Дзераўноўскай сярэдняй школе Слонімскага раёна, завучам у Яварскай сярэдняй школе Дзятлаўскага раёна Гродзенскай вобласці, настаўнікам у Кракоцкай сярэдняй школе Слонімскага раёна. Вучыўся ў аспірантуры пры Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР (1958—1961). З 1961 года быў навуковым супрацоўнікам Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН Беларусі. Кандыдат філалагічных навук.*

*У друку выступаў з літаратурна-крытычнымі артыкуламі і рэцэнзіямі з 1959 г. Аўтар кніжак "Станаўленне беларускай прозы і фальклор: Дакастрычніцкі перыяд" (1971), "Проза „Маладняка": Дарогамі сцвярджэння" (1985), «Крокі: Проза "Узвышша" (1989). У апошнія гады пісаў вершы. Выдаў зборнікі "Капеж" (1992), "Трыба" (1998), "Бераг" (1998), "Люблю вясну"(2000), "Вынікі падсумоўваліся ў панядзелак" (2001) і іншыя.*

*Памёр 28 жніўня 2006 года. Пахаваны ў Мінску.*

### Беларус

...Разрэз папярэчны ідэй...
Глядзеў ён на мозг свой, глядзеў
І раптам прызнаўся, уголас сказаў,
Што мозгу ў яго галаве – сляза.
Шчаслівы таму і таму нешчаслівы,
Што век націскае ў асноўным на жылы.

*1985 г.*

* * *

Чалавеку трэба бачыць,
А яго асляпілі.

Чалавеку трэба чуць,
А яго аглушылі.

Чалавеку трэба дыхаць,
А дыхаць няма чым.

Як быць чалавеку?

*1978 г.*

* * *

Ёсць і ў мяне зямля пад небам,
То больш нічога мне й не трэба, –
Каб толькі не лезлі на стол наш з нагамі,
Каб запрашалі ў хату сваю мы самі.

*1984 г.*

## Эцюд

Па-вясноваму юны ранак
Перакрэсліў крылом крумкач.
Маці ў рукі ўзяла дзяркач,
Абмятае парог старанна.
На калочку сарока скача,
Вераб'іны ў шпакоўні гнеў,
Узнімаецца сонца. Няйначай
Будзе плавіць апошні снег.

*1976 г.*

* * *

Сігналы дакладнага часу: піп, піп!
А я, нібы блазен, да крэсла прыліп.
Чытаю, смакую, хоць з хаты пара,
Хоць праца чакае і гоніць з двара.
Каток забаўляецца ўласным хвастом.
І жонка сняданак не ставіць на стол.
Туману за вокнамі белы разліў.
Я нешта, здаецца, у кнізе злавіў.
Асенняя раніца. Ціша. Імжака.
Сяджу сабе ў крэсле. Мне цёпла і мякка.

*1982 г.*

* * *

Іх не стала?!
Засталася зіма.
Засталася восень.
Засталося лета.
Вясна засталася.

*1983 г.*

* * *

Яны рагаталі. Ад шчасця шалелі…
Смыляць сінякі. На душы і на целе.
Але – не здаюся. Але – не здаюся.
Быць – вучуся. Жыць – вучуся.

*1992 г.*

* * *

Каму ніз. Каму верх.
А каму – сярэдзіна.
Каму плач. Каму смех.
А маё паедзена.

*1976 г.*

* * *

Палаем святлом адбітым,
Як месяц над хатай забытай.
І песні чужыя спяваем,
І мова у нас – чужая.

*1984 г.*



# Алесь СУЧОК (1916-1993)





*Нарадзіўся 7 кастрычніка 1916 года ў Чувашыі, калі бацькі знаходзіліся ў бежанстве. У 1922 годзе вярнуўся з сям'ёй у родную вёску Какошчыцы на Слонімшчыну. Працаваў у райгазеце, старшынёй сельскага Савета, на чыгуначнай станцыі Азярніца. Удзельнік Другой сусветнай вайны.*

*Друкаваўся ў заходнебеларускім друку, у рэспубліканскіх газетах, часопісах і калектыўных зборніках. У 2012 годзе Сяргей Чыгрын сабраў і выдаў паэтычную спадчыну Алеся Сучка – зборнік "Захацелася шчасця".*

*Жыў і памёр 27 жніўня 1993 года ў вёсцы Азярніца Слонімскага раёна. Там і пахаваны.*

## Мне ахвота

Мне ахвота пяяць і смяяцца,
Мне ахвота званамі звінець.
Мне ахвота і з рыфмай злівацца,
Мне ахвота агнём палымнець.
Мне ахвота ў тонах працяжных
Песні пець, каб ляцець у прастор.
І ў рыфмах вясёлых, адважных,
Выліць сілу, юнацкі задор.
Мне ахвота, каб дрэвы шумелі,
А іх шум разгадаць і паняць.
І, каб громы магутна грымелі,
Цемру ночы маглі разагнаць.
Мне ахвота, каб наша краіна,
Дарагая ўставала ад сну,
Каб яна свае песні спявала
Аратаю — сваайму гаруну.
Гаруну, што аратым завецца,
Што на полі працуе, як вол.
У сярмягу-рызман адзяецца,
Род выводзіць свой з вёсак і сёл.

*1938 г.*

## Вясна

Вясна, вясна, прыйдзі хутчэй!
Сагрэй ты сонцам зямлі гладзь,
Яму пара свяціць ярчэй
І мілы кінуць скрозь пагляд.
Пара табе, красуня-цуд,
Прыроду убіраць.
І над зімой, зрабіўшы суд,
Яе далей ад нас прагнаць.
Ўжо птушкі з выраю лятуць
Здалёк да нас у родны край,
І па-вясноваму пяюць,
Зірні, вясна, іх прывітай.
Укрась сады у белы цвет,
Накрый зялёнасцю лугі,
Няхай смяецца цэлы свет,
Скідае чар зімы, тугі.

*1938 г.*

## У Картуз-Бярозе

Закрылася цяжкая брама,
Закрыўся за ёю і свет.
Бывай, мая любая мама,
І ты, Лёня, лепшы сусед.
Адсюль, мабыць, выйду не скора,
Каб з вамі сустрэчу гуляць.
Няволю, катаргай зморацъ
І буду яшчэ катаваць.
Не плачце, што цяжкая доля
Мяне напаткала ў жыцці.
Не страшны мне мукі і болі,
Іх з гонарам буду нясці.
І выстаяць хопіць мне сілы
Ў грудзях маіх маладых.
Хай каты загоняць ў магілу —
Ідэй не зракуся сваіх...

*1939 г.*

## Жаўрук

Глыбока ў сіняй вышыні
Дрыжыць, разняўшы крылы,
А галасок яго звініць,
І радасны, і мілы.
Вяснянка-песня цэлы дзень
Ў чароўных пераліваx,
Плыве над нівамі, плыве
Пад гоман рэк шумлівых.
Як жаўрука пачую спеў,
У захапленні стану:
Так прывітацца б з ім хацеў —
Рукою не дастану.

*1960 г.*



# Уладзімір ВЕСЯЛУХА (1948-2004)





*Нарадзіўся 2 студзеня 1948 года з вёсцы Старыя Дзявяткавічы Слонімскага раёна. Пасля мясцовай дзесяцігодкі паступіў на філфак БДУ. З сям'ёй жыў у Вілейцы на Мінишчыне.*

*З вершамі пачаў выступаць у Слонімскай раённай газеце. Потым паэтычныя творы і артыкулы на педагагічныя тэмы друкавалі ў розных рэспубліканскіх газетах і часопісах.*

*Памёр 1 жніўня 2004 года ў Вілейцы, дзе і пахаваны.*

## Хлеб

Хлеб – са стомы і поту,
Бяссонных начэй і трывог,
З мазалёў ад работы,
З бясконцых жыццёвых дарог.
Хлеб – з расы і туманаў,
І з сонечных промняў, зары...
Хлебу ўвесь я адданы,
З ім усё змагу я тварыць...

## Не зайздрошчу

Не зайздрошчу,
Каму лёгка жывецца,
Каму у жыцці
Усё проста даецца.
Хто не зведаў
Ні стомы, ні поту,
Хто не меў
Мазалёў ад работы,
Хто сапраўднага
Шчасця не знае –
Быць такім
Я ніяк не жадаю.

* * *

Чаго жадаю ў жыцці?
На месцы не стаяць, ісці...
Чаго жадаю ў жыцці?
Не вянуць у спёку – цвісці...
Да самай старасці расці...

## Максіму Багдановічу

Паэта лёс не песціў:
Гадаваўся ў розных месцах
Далёка ад роднай Беларусі,
Хоць душой юнак сюды імкнуўся,
Каб голас чуць народа,
Адкуль ён выйшаў родам,
Удыхаць мядовы водар кветак
І любавацца хараством палеткаў.
Ды лёс яго не песціў:
Ён рос у розных месцах
Далёка ад роднай Беларусі,
Хоць сустрэцца з ёю так імкнуўся.
Свой смутак па Радзіме
(Што было ў яго адзіным)
Ён у вершах найчасцей выказваў,
Мо, таму і не даваў ім назвы.
А лёс яго не песціў:
Ён жыў у розных месцах
Далёка ад роднай Беларусі,
Да якой настойліва імкнуўся.
І вось здзяйсненне мар паэта:
Ён – на Радзіме, і гэта,
Здаецца, збавіцельная ява...
Ды хутка росстань зноў –
Наперадзе Ялта.

## Не ведаю большага шчасця

Не ведаю стомы прыемней,
Чым стома, аблітая потам.
Я лепшай не ведаю песні,
Чым спетая пасля работы.
Дзівосней не знаю часіны
За ранак, туманам спавіты.
Не ведаю лепшага смаку
За хлеб, мазалямі здабыты.
І мары не знаю жаданей –
Сям'ёй на зямлі жыць адзінай.
Не ведаю большага шчасця –
Сваёй быць патрэбным Радзіме.

* * *

Ізноў надыходзіць зіма,
Закружацца пухам сняжынкі...
Я ведаў, што сёння сама
Прыдзеш ты на тыя сцяжынкі.
І будзеш цярпліва чакаць
І зорак, і цёплага ветру.
І толькі хусцінка ў руках
Здрыгнецца, як злоўлены ветразь.

* * *

Жыла у Жодзіне жанчына...
Сыны пайшлі у гром баёў.
Жыве у Жодзіне жанчына
Ў геройскім подзвігу сыноў,
Ў граніце і вянку падзячных слоў...
Жыве у Жодзіне жанчына.

## Нястомнасць

*Ганне Новік*

Жыццё пражыць — не поле перайсці.
Ваш шлях жыццёвы сведчанне таму:
Спазнаўшы наймічкі нялёгкі лёс,
Прайшлі праз дэфензіву і турму.
Калі шугала полымя вайны,
Настаў нялёгкі ліхалецця час,
Вы на пярэднім краі зноў былі,
Бо думалі не пра сябе, пра нас..
І ў мірны час нялёгка Вам было
(Ды Вы не зналі, як магло б інакш):
Зноў там, дзе больш за ўсё недастае,
Дзе больш за ўсё патрэбен вопыт Ваш.
...І сёння Вы таксама ў страі,
У гушчыні жыцця, сярод людзей –
Дарадчык і нястомны працаўнік,
І праваднік найноўшых усіх ідэй.
Жыццё пражыць – не поле перайсці.
І цяжкасці, і радасці былі.
Калі б прыйшлося зноўку ўсё пачаць,
Упэўнены: інакш Вы не змаглі...

## Валянціна АДАДУРАВА (1941-1995)





*Нарадзілася 9 студзеня 1941 года ў вёсцы Хадзявічы Слонімскага раёна. Скончыла філфак Белдзяржуніверсітэта. Працавала настаўніцай на Зэльвеншчыне. Друкавалася ў розных рэспубліканскіх выданнях. Пры жыцці паспела выдаць толькі адзін зборнік паэзіі "Глыбінка" (1994).*

*Памерла ў 1995 годзе. Пахавана на Зэльвеншчыне.*

### Беларусачка

— Скажы, дзяўчына, мне, адкуль
Вачэй тваіх блакітны колер?
— Я наглядзелася ў раку
І на блакітны лён у полі.
— Скажы, а дзе ты узяла
Касы тугое перавясла?
— З палеткаў жытніх ля сяла
І з промняў сонейка нязгасных.
— А ці не можаш падказаць,
Чаму твой стан павеўна-тонкі?
— Ён ад бярозак у лясах,
А можа, ад струны-сасонкі.
— Яшчэ скажы ты мне тады,
Адкуль пагляд адкрыты, чысты?
— Ён ад крынічнае вады,
Ад росаў, лугавых маністаў.
— А дзе твой родны дом-жыллё?
— Яно ў зялёнай Беларусі.
— А як, скажы, імя тваё?
— Я беларускаю завуся.

### Вучыла маці...

Вучыла маці ў роднай хаце,
Вучыла мудрасці народнай:
— Жыві, сынок, з людзьмі у ладзе
І не рабі нікому шкоды.
Другая маці ў роднай хаце
Інакшай мудрасці вучыла:
— Старайся быць, сынок, пры ўладзе,
Павагу будзеш мець і сілу!
Адзін сябрамі стаў багаты,
Надзелены людской любоўю.
Бо чалавека меў за брата,
Да сэрца браў чужыя болі.
— Каб гэткіх маці не радзіла! —
Праклёны чуў другі і скаргі.
Уладу меў, была і сіла,
Ды толькі не было павагі...
І я прашу: вучыце, маці,
Сыноў і сёння, як спрадвеку,
Каб і пры славе, і ў багацці
Рос сын спачатку Чалавекам.

## З думай пра музей Ларысы Геніюш

Ад родных ніў ішло да Вас натхненне,
Ад ваўкавыскіх, зэльвенскіх сцяжын.
І за мяжой — пра Беларусь трызненне,
І белы сон пра родны край адзін.
Нахлынуць успаміны, думы, мроі —
І дапазна агеньчык у акне.
Чай для гасцей на чабары настоены,
А ўласны шлях — на горкім палыне.
Але ніхто не бачыў Вашы слёзы,
І песню задушыць не змог надзор.
Бо па-над шэрай буднічнаю прозай
Ваш позірк быў скіраваны да зор.
То гаманілі ветліва з сялянкай,
То басаНож хадзілі па траве,
То невадам і з Нёмана, з Зальвянкі
Лавілі залатую рыбку — верш.
Вас помняць людзі, помняць сад і кветкі,
Што грэліся ля Вашага цяпла,
Заступніца за Беларусь, паэтка,
Што побач з намі па зямлі ішла.
Не зарастаюць да магілы сцежкі,
На помніку — букеты т вянкі,
Бо помняць воблік Ваш і Вашу ўсмешку,
Бо просяць прабачэння землякі.
І скажа праўнук мовай сакавітай,
Прыехаўшы з далёкага сяла:
—О! Зэльва ў белым свеце знакаміта,
Бо тут Ларыса Геніюш жыла!

## Восень

У чырвані асінкі,
У пазалоце клёны.
Толькі у ялінкі
Вечны ўбор зялёны.
Беспрытульнік-вецер
Гойсае па свеце
І трасе з бярозы
Лісцейка, як слёзы.
Восень – гаспадынька,
Восень залатая,
Па лясных сцяжынках
Лісце замятае.

# Іван СЯРГЕЙЧЫК (1949-2006)





*Нарадзіўся ў 1949 годзе ў вёсцы Пустаборы на Зэльвеншчыне. Вучыўся ў Пустаборскай пачатковай і Галынкаўскай СШ. Скончыў Слонімскае СПТВ. З 1968 па 1990 гады служыў у Савецкай Арміі. Двойчы пабываў у Афганістане, быў узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі і медалямі.*

*У 1991 годзе выдаў кніжку прозы "Горкі пыл Гіндукуша" (бібліятэчка часопіса "Маладосць"), а ў 2005 годзе — кніжку нарысаў "Сцяжынка школьная мая..." (Слонім) і іншыя. Апавяданні і аповесці друкаваліся ў часопісах "Маладосць", "Акно", проза і вершы ў калектыўных зборніках "Карані" (1994г.), "Галасы" (1994), "Золак над Шчарай" (2003).*

*Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў. Кіраваў літаратурным аб'яднаннем імя Анатоля Іверса пры газеце "Слонімскі веснік".*

*Жыў і памёр у Слоніме.*

## На хутары

*Анатолю Іверсу*

Не кладзецца радок —
Разбягаюцца словы.
Не магу іх, як жыта,
У снапочкі звязаць.
Запалоніў душу
Даўкі пах палыновы, —
Ні развеяць яго,
Ні глынуць, ні прадаць.
А над лугам саткаў
Вечар коўдру з туману.
Спавівае яна
Ў ціхім прыцемку сад...
Тут фашысцкім абцасам
Лёс сям'і растаптаны...
Стогн і сёння чуцён
Між ссівелых прысад.
Лекар-час мохам шэрам
Меціць сведкам галіны.
Травень раны бінтуе
Белай квеценню ім.
У журбе ля чыгункі
Знямелі яліны...
Я кранаюся долу
Каленам сваім.

## Пошукі

Сам сабе я патрапіць ніяк не магу-
Не стасуюцца ява з жаданнем:
То ад лета ў восень ашалела бягу,
То зіме прызначаю спатканне.

Маладосць адшугалі на арэлях гады,
Сталасць скроні фарбуе рашуча.
Паглынае сумленне спакусаў сляды,
Роздум ветліва мудрасці вучыць.

Я вясну сустракаю ў віхурах надзей.
Сэрца прагне кахання, пяшчоты...
Спадзяюся, што лецейка з імі звядзе,
А трапляю пад дах адзіноты.

Аздабляе шчадротамі восені дар –
Душа просіцца ў вырай манлівы.
Толькі крылы не даў мне
Магутны ўладар...
Мары чахнуць прадзімкам санлівым.

Тры эцюды сыграла на арфе зіма –
Зноў на старце нязбытныя страсці.
Зацугляць іх напорыстасць-сілы няма...
Дзе ж ты ў мроях узнёслае шчасце?..

## Сэрца малой радзімы

Месяцам мечаны вечар
Песціцца ў дымцы лагоднай.
Горад мяне на сустрэчу
Кліча пасля паходні.
Дзе б я не быў, у час ростані,
Прагну з табою спаткання.
Ты – сэрца малой радзімы маёй –
Калыска майго кахання.
Ад шчасця плыву я між ліпкамі,
Ног пад сабою не чую.
Квеценнем шчодра асыпаны
Горад мяне чаруе.
Туліцца ясень з бярозкаю,
Нібы ў іх час спаткання.
Явіцца мне, нібы чую я
У шэпце лістковым прызнаннем.
Рэчка, як маці, пяшчотная,
Зорачкі ў зыбе купае.
Нібы рукою дзявочаю,
Стужкай цябе абвівае.
Скарб маіх сноў юнацкіх,
Іду да цябе на спатканне.
Сэрца малой радзімы маёй –
Горад майго кахання.
Уздоўж плёсаў рачных каране мае.
Бруіцца жыццё крынічкай.
Мне шчасця заўжды без цябе не стае,
Нібы ў спякотню вадзічкі.
Бор гоіць водарам раны мае.
Пасля чарговых растанняў.
Ты – сэрца маёй радзімы малой –
Арэлі майго кахання.

## Паклон

*Надзеі маёй –*
*унучцы Анюце*

Мой кудзелькавы край –
Ільняная радзіма!...
Тут ступіў я ў жыццё
Па світальнай расе.
Плаваў у морах чужых,
Як адшчэпак ільдзіны,
Пакуль зноў
На зямельцы бацькоў не асеў.
У ёй мая пупавіна
На падворку схавана, –
Божы дар на жыццё
Ад матулі маёй.
Тут усіх прашчураў сіла
Пад крыжамі сабрана.
Каб і ў сотым калені
Маліліся ёй.
Яна можа падставіць
Плячо аслабелым.
Хто са шляху саб'ецца –
На шлях навядзе.

У час галодны - на полі
Узыйдзе коласам спелым.
У час ліхі – раць згуртуе
І на бой павядзе.
Я народжаны
Прашчураў сілу памножыць...
У збудаванай хаціне –
Шчасце гнёзды там ўе.
Я калодзеж крынічны
Змайстраваў пры дарозе –
Няхай людзям
Жыццёвыя сілы дае.
Усё гэта я ладзіў
Рукамі сумлення –
Кожны год белым квеценем
Лашчыцца сад...
Ды наступствы жыцця
Рояць думак спляценні –
Часта памяць вяртаюць
На паўвека назад.
У кудзелькавы ранак,
У ільняное раздолле,
У цнатлівы, манлівы,
З пахам хлеба, блакіт.
Да буслоў, што прасілі
Дзіцянятка ў поля...
У бацькоўскі прытулак,
Што ля ціхіх ракіт.
Да зямліцы, з якое
Жыццё пачалося.
Да зямлі, як да маці,
Што сілы дала.
Да зямелькі, якая
Праз роскіды восень,
Прах бацькоў маіх
Целам сваім абняла.
Няхай нітачкай зрэбнай
Уецца кудзелька.
Што дарогай жыцця
Стала ў долі маёй.
Няхай сніцца часцей мне
Смалістая бэлька,
І калыска з лазін,
Што вісела на ёй.
У той калысцы
Гайдалі мяне з немаўляці
Незаможнасць сям'і
І надзея бацькоў.
За пярынку мякчэй
Пад бачком у дзіцяці
Быў са зрэб'я сяннік –
Падарунак вякоў.
Мо таму і калола
У жыцці ва ўсе бокі,
Каб яно не здавалася
Дораным мёдам.
Каб не здрадзіў
Сваім запаветным вытокам.
Каб да смерці пранёс
Да яго асалоду.
Бег гадоў на зямлі
Не разладзіць нікому.
Два жыцці не пражыць,
Як бы хто не жадаў.
Я нашчадкам сваім
Смак працоўнае стомы
Дарам Божым, як святасць,
На вякі перадаў.
Мілы лён мой –
Радзімы квяцістае сэрца.
Няхай з моцай тваёй
Яе сілы растуць!..
Я яшчэ пастаю
У жыцця на паверцы –
У вачанятах унучкі
Твае кветкі цвітуць...



# Аляксей КУМЕЙША (1915-1977)





*Пасля вайны жыў у Слоніме. Працаваў у Слонімскай нарыхтоўчай канторы. А ў вольны час пісаў вершы на роднай мове і друкаваў іх у Слонімскай раённай газеце. Пісаў ён не толькі вершы, але дасылаў і прыносіў у рэдакцыю розныя інфармацыі з прадпрыемстваў і арганізацый Слонімшчыны.*

*Мясцовы паэт-франтавік пісаў пра тое, чым у 1940-1960-я гады жыў наш народ, што яго хвалявала, што радавала. Найбольш адлюстроўваў у сваіх паэтычных радках мірнае жыццё і працу беларусаў, часам прыгадваючы і свае франтавыя будні.*

*Памёр у 1970 годзе, пахаваны ў Слоніме.*

## Да новых спраў

Сотні вёрст салдат ішоў
Сцюжай, непагодай –
Па балотах, між лясоў
Славу нёс народа.
І калі-нібудзь ужо
Змора з ног валіла,
Адпачыўшы, зноў ішоў
Ён з трайною сілай.
Так прайшоў вялікі шлях
З мужнаю адвагай,
І узняў чырвоны сцяг
Над дахам Рэйхстага.
І пад сцягам, што узняў
Наш салдат высока,
Мы ідзем да новых спраў,
Новых пяцігодак...

*1948 г.*

## Мы стрымалі Радзімы наказ

Не кажы, не кажы ты мне болей:
Я і так разумею усё,
Бачыш, вось без граніцы прыволле,
Сэрца ў ім і маё, і тваё.
Нарадзіліся тут, тутраслі мы,
Тут трывогу пазналі вайны,
Калі вораг пайшоў на Радзіму,
Каб навек нам адзець кайданы.
Але росшых у гэтым прыволлі
Сэрцаў нельга было пакарыць,
Як было пакарыцца няволі,
Калі мы пачалі толькі жыць?!
Сотні мелі жаданняў у сэрцы,
Бо юнацтва, як кветкі, цвіло,
І ў такую хвіліну памерці
Нам ніяк немагчыма было.
Не кажы, бо мы разам бывалі,
Мы стрымалі Радзімы наказ!
Лепш зірні на блакітныя хвалі –
Яны зноў залацяцца для нас.

*1948 г.*

## Аб краі любімым...

Далёка, далёка
Ад роднае хаты,
На сінім Дунаі
На склонах Карпатаў
Аб краі любімым
Спяваюць салдаты –
З-пад Слоніма двое,
Ды трое з Палесся...
І рэха далёка
Імчыць па узлессі
Матыў беларускай
Працоўнае песні.

*1948 г.*

## Песня хлебаробаў

Ледзь сонца рассыпле праменні,
Загушкаюць голлем бары, --
Выходзяць брыгады і звенні
У поле багацце тварыць.
І песню зацягнуць пад вечар,
Хай льецца бадзёры матыў
Аб справах працоўных Прырэчча
Над золатам спеючых ніў.
Мы марна не страцім хвіліны,
Багаты збяром ураджай,
Каб край наш цудоўны і сіні
Яшчэ багацейшым быў край.
Калгасу ёсць чым ганарыцца,
Ніхто не хаваецца ў цень...
Таму на балотах пшаніца
У рост чалавека расце.

*1968 г.*

## Я іду да тых хат

Адыходзіла ноч, праясняўся блакіт,
Затаіў недзе вецер дыханне.
Падымаўся туман з прыдарожных ракіт,
Усміхалася новае ранне.
І блішчалі як сталь за чаротам густым
Ледзь рухомыя возера хвалі,
І зялёны альшэўнік, маліны кусты
У люстэрка вады пазіралі.
Я іду па траве, што зраслася з лазой,
І гляджу на льняныя разлівы,
Асыпае хмызняк мяне дробнай расой,
Быццам маці слязою шчаслівай.
Поўны радасці, сіл, я спяшу да тых хат,
Дзе хвалюецца музыка звонаў,
Дзе мой сябра-танкіст, учарашні салдат
Завіхаецца з трактарам сёння.

*1968 г.*

## Мой горад

Над Шчарай зялёнай
Да ўзлесся і вёсак
Разросся мой Слонім
Шырока, высока.
І люба, і ветла
Прайсці кожны дзень
Па вуліцах светлых,
Дзе праца гудзе.
Ва ўбранні вясновым
Глядзіць маладзей,
На вуліцах новых
Багата людзей.
І працы іх плёнам
Штодзень ганарыцца,
Уборам зялёным
У Шчару глядзіцца.
Ляцяць павуцінкай
Над горадам гусі,
Мой Слонім – часцінка
Маёй Беларусі!.

*1977 г.*

# Рудольф ПАСТУХОЎ (1936-1997)





*Нарадзіўся ў Рыбінску Яраслаўскай вобласці (Расія). Рос і выхоўваўся ў ГУЛАГу і там пачаў пісаць вершы. У Слоніме жыў з 1970 года. Працаваў электраманцёрам на Слонімскай камвольна-прадзільнай фабрыцы. Вершы друкаваліся на старонках СМІ Расіі, Казахстана і Беларусі. Пісаў на рускай мове, спрабаваў пісаць і па-беларуску.*

*Пры жыцці выдаў адзіны зборнік вершаў “Судьба” (Слонім, 1994).*

*Жыў і памёр у Слоніме. Пахаваны ў вёсцы Заверша Слонімскага раёна.*

## Курапаты

Не Бухенвальд тут,
Не Хатынь,
А Курапаты.
Замшэлы лес -
Куды ні кінь,
Ды скрып лапаты.
І сэрдца стук
На кожны гук
Смяротна раніць,
Жалобна б’е
Паклон зямлі
Людская памяць.
Галлё трашчыць -
Ужо вядуць
Пад крык зацяты.
Птушыны крык
Не змоўкне тут
Тут Курапаты.
Ніхто не змог адсюль ўцячы.
Тут цемра суму.
Усяго сто крокаў уначы.
А колькі думак?...
Тут мора выліта крыві.
Тут -
Сосны ў неба.
Пясок чырвоны,
Ржавы жвір.
Тут - быль і небыль.
Куды ні кінешся - правал.
Вадаварот пясчаны.
Час расстраляны напавал,
І кліч адчайны,
І гістарычны той правал -
Чарней за ночы.
А можа, ён,
Як люты шквал,
Фашызм прарочыў?!
Тут сталінізм
Шалёна раў -
Як вецер века,
Хрыбет гісторыі ламаў
І чалавека...
Пляўком свінцовым са ствала -
Ва ўпор ахвярам...
Крыж накрыж целы,
Пах крыві
І жах на тварах.
Свідруюць кулі чарапы
Ўначы без свісту:
І камсамольца,
Й мужыка,
І камуніста...
І лёсы новыя шумацяць
Ў сталі Цанавы -
А целы зноў і зноў ляцяць

На дно канавы.
І на грудзях у Курапат -
На латцы лата,
А смерці, што да новых страт?
Не вінавата...
Яе не клікалі сюды,
Тут ўсё іначай.
Сцірае памяці сляды
Дажджлівым плачам.
І ні крыжоў,
Ні зорак тут -
Гамоняць сосны,
І песні над табой пяюць
Дразды галосна,
Ды цемра вышчарана п'е
Світальны золак...
Вось сведка інтэрв'ю дае.
На твары - сполах...
Фасфарыцыруюць ствалы
Гарой шкілетаў.
Як дзіркі ў чарапах
Ад пісталетаў...
...Ці не маёй матулі крык
Слух рэжа з-пад лапаты?
Павінен нехта адказаць
За Курапаты!

*Пераклаў з рускай мовы*
*Іван Сяргейчык,*
*1988 г.*



# Надзея
# ДЗЕМІДОВІЧ





*Нарадзілася 24 лютага 1927 года на хутары Макейкі на Слонімшчыне. З восені 1941 года вучылася ў Слонімскай беларускай прагімназіі. Падчас вайны была сяброўкай Саюза Беларускай Моладзі (СБМ). У снежні 1944 года, падчас масавых арыштаў дзяўчат і юнакоў СБМ у Слоніме, перайшла на нелегальнае становішча. Хавалася да 1949 года, а потым яе арыштавалі. У баранавіцкай турме яе жорстка катавалі. Была асуджаная на 25 гадоў сталінскіх лагераў. Удзельніца Кенгірскага паўстання вязняў у 1954 годзе.*

*З друку выйшлі кнігі “ Век так не будзе” (2002), “Успаміны майго сэрца” (2006), “Мы марылі дома спаткацца” (2010).*

*Жыве ў Калодзішчах пад Мінскам.*

## Дзякуй Богу

Дзякуй Богу за наша жыццё,
Наш паварот на Радзіму,
Што мы можам да родных прыйсці,
Адведаць продкаў магілы.

Звон царкоўны кліча у храм,
Ачысціць душу ён благая.
Многа ліхога думалі там,
Дзе скуголіла воўчая зграя.

У храме душу ўталіш сваю,
Забудзеш пра ўсё, што мінула.
Уздыхнеш, як у святым раю,
Быццам з намі бяды не было.

Заспеваюць усе верую там,
Без таго не было б і вяртання,
Не хадзілі б па родных палях
Галодныя ішлі б на работу.

Дзякуй Богу, што выжылі мы,
Можам свечку ў царкве паставіць.
У сваёй хаце запалім вагні,
Як калісці палілі пры маме.

## Калыханка

Ночка асенняя, зорачкі скрыліся,
Спіць пажаўцелы ля выгана клён.
Маці сядзіць над калыскай з дзяцінкаю,
Свеціць, як воўчае вока, агонь.
Спі, мая мілая, спі, мая родная,
Спі смачным сном ды хутчэй падрастай.
Скончыцца восень і зімка халодная,
Спі, мой анёлачак, спі, засынай.
Спі, мая родная, спі, мая зорачка,
Люба дзяцінaчка, люлі, люляй.
Хутка засвеціць у наша ваконца
Сонца праменьчык – рассее туман.







*Нарадзіўся 16 снежня 1939 года ў Мінску. Скончыў Мінскую кансерваторыю, аспірантуру Інстытута філасофіі і права АН Беларусі. Працаваў на Беларускім тэлебачанні, у Акадэміі Навук Беларусі, Нацыянальным навукова-даследчым цэнтры імя Ф.Скарыны.*

*З 1996 года жыве ў Жыровічах, рэдагуе рэлігійна-культурны часопіс “Жыровіцкая абіцель”.*

*Выдаў шэраг кніг паэзіі і гутарак – “ Рэха малітвы” (1988), “Саната ростані” (1988), “ Малітвы за Беларусь” (1989), “Крэсіва” (2012) і іншыя.*

*Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.*

## Саната полымя
(урыўкі)

+++
...такое – даецца аднойчы...
і шанец – няможна ўпусціць...
...ірвецца танюткая ніць...
...і дзякуй за ўсё Табе, Ойча!..
...дыханне ўтрапёнае ночы
аблокамі мусім хаваць...
...даводзяць і шчокі... і вочы... –
агонь не спыніць, не стрымаць...

\+ + +
...таго, хто цябе ўбачыў
хоць аднойчы, –
тайніца ззяння туліць неадольна:
і лініі... і галасок... і вочы...
...і сэрцайкам нябога ўжо нявольны...

\+ + +
...натхненнямі – йзноў акрыяў...
у вершах шукаю прытулак...
...а змрочная рэўнасць мая
пяшчоту тваю – не кранула...

\+ + +
...ды што там – “...грашы...”
“...не грашы...”
кахаць – аніколі не марна...
кахаць можна й не ў шалашы:
ў эфіры... у марах... у фарбах...

\+ + +
...маланка – бляскам
сведчыць аб сабе...
каханне – полымем,
што сэрца поўніць...
т у г а , калі кахаюць н е ц я б е , –
паўней ад хмары у мігценні поўні...

\+ + +
...душа б яе ўвек не хацела...
бо рэўнасці вастрыё
джаліць не тым, што не цела... –
што п о л ы м я –
н е т в а ё ...
...апальвае й губы...
і скронь... –
і мне ўжо нікуды не дзецца... –
з тайніцаў балеснага сэрца
мой белы і цёмны агонь...

\+ + +
…ты галаском шчыруеш –
у э ф і р ы … –
не трэба ні хаціна… ні шалаш… –
і ф а р б а й твой прыручаны
Бульбаш
кранае струны запаветнай ліры…
…хай атуляюць… –
вёрсты… і муры…
і рэўнасць
паліць полымем каханне…
…крыніца геніяльнасці, сябры,
адвеку – ў неспатоленым жаданні…
…ўзгадай: калісь красунь сваіх зямель
уславілі – … Урубель… …Рафаэль…
…сусветны пэндзаль
покуль ломкі ў хрумскі–
перад красой і сілай Б е л а р у с к і …

\+ + +
**т ы** – можаш зноў
пакінуць берагі… –
і ў верхавінах хваляў і адхланнях
ш а л ё н а е – да подыху тугі…
да сэрцавіны хмараў… –
п і ц ь к а х а н н е …
…**я**– край асенні пальцамі крануў…
мелодыю гаркавую гукаю…
тамленні не хаваю у труну –
А у раллю рыфмараў засяваю…

\+ + +
…нібы пялёстак хустачкам,
падкінула вясна
красуням-Беларусачкам
с у п е р-прыгажуна…
…вятрыска той пялёстачак –
на хустку зор узнёс…
…а след яго – да костачак –
пяшчотаю прарос…
…і грэшнаму самотніку
нізрынуць свет памог…
…так некалі – і с о т н і к у
адкрыўся ў сэрцы Б о г …

\+ + +
…не плоцкі, а Боскі Эрас
распальваю ў сэрцы сваім…
…і Першы, і Трэці Рым
п а к р ы ў в а с і л ё к … і в е р а с …

## Беларусу пра Скарыну

…Каму б ён долю ні аддаў –
Каталікам ці пратэстантам, –
Ён паспалітым праваслаўным
Святое Слова пераклаў.

Калі ты хочаш на зямлі
Працягваць зорны шлях Скарыны –
Свае шурпатыя сцяжыны
Да Праваслаўя прытулі…



# Вячаслаў КАРАНЮК





*Нарадзіўся 14 кастрычніка 1933 года ў вёсцы Храпянёва Навагрудскага раёна. Скончыў Навагрудскае педвучылішча і Мінскі педагагічны інстытут імя М. Горкага. Працаваў настаўнікам пачатковых класаў і настаўнікам гісторыі ў школах Слонімскага раёна.*

*Вершы Вячаслава Каранюка друкаваліся ў шэрагу рэспубліканскіх перыядычных выданняў.*

*Жыве на Слонімшчыне.*

## Да вясны

У сіняй касынцы,
З далёкага краю
Вясна маладая,
Цябе зноў чакаю.
Спаткаць цябе выйду
На золку, уранні.
Ты сэрцам адчуеш
Маё хваляванне.
"Дзень добры!" – скажу,
Як сяброўцы знаёмай,
На чай запрашу
І ў госці, вядома.
А ты не саромся –
Прашу цябе шчыра…
Вясна маладая,
Красуня-жанчына!

## Я хачу жыць у Беларусі

Дзе б я ні быў, якім ні быў,
У суме, радасці ці ў скрусе,
Пяю адвечны свой матыў:
Я жыць хачу у Беларусі!
Калі цвіце чаромха, бэз,
Не сплю я, нават не кладуся –
Шыбую шпарка ў майскі лес,
Бо так прыгожа ў Беларусі!
Зямлю ахутвае туман,
І пакідаюць лета гусі,
Я ж не паддамся на падман,
Бо мне цяплей у Беларусі!
Гудуць заводы і станкі
(За справу зноў і я бяруся),
А як будуем – на вякі:
Руплівы люд у Беларусі.
Мяне пакінуць любы край
Ніхто ніколі не прымусіць…
Я не люблю заморскі "рай" –
Я жыць хачу у Беларусі!
Калі ж праб'е смяротны час
(А ён прыйсці, напэўна, мусіць),
Скажу тады ў апошні раз:
"Мой вечны дом – у Беларусі!"



## Галіна КАВАЛЬЧУК





*Нарадзілася 14 снежня 1946 года на Міншчыне. Скончыла Мінскае культурна-асветніцкае вучылішча. Працавала на Рудзенскім заводзе пластмасавых вырабаў ў канструктарскім аддзеле. Стварыла пры Рудзенскім ДК народны фальклорны ансамбль "Крынічанька" і была яго кіраўніком на працягу 15 гадоў. Піша вершы, спявае.*

*З 1996 года жыве ў Жыровічах на Слонімшчыне.*

### Родныя гнёзды

Як любы мне прасторы роднай Беларусі,
Яе лясы, палі ды скошаная сенажаць.
І сумна мне, калі я бачу, як шнурочкам гусі
Зноў з крыкам ў цёплыя краіны паляцяць.
Пад іх крыламі так павольна праплываюць
І вёскі ціхія і шумныя грамады-гарады,
Кірунак свой яны на поўдзень напраўляюць
Ў краіны тыя, што не ведаюць зімы.
Дзяцей сваіх яны выводзяць на чужыне,
Але на бацькаўшчыну іх заўжды вядуць,
І калі ў нас зіма адступіць, схлыне, –
Яны назад вяртаюцца і гнёзды дома ўюць.



## Уладзімір КАВАЛЬЧУК





*Нарадзіўся 10 сакавіка 1946 года на Міншчыне. Дзіцячыя гады і юнацтва прайшлі ў Сібіры – у горадзе Зіма Іркуцкай вобласці і Слюдзянка на Байкале. Адукацыя вышэйшая. Па прафесіі мастак, іканапісец, фатограф. Вершы піша з 1963 года.*

*З 1996 года жыве ў Жыровічах на Слонімшчыне.*

# Жыровіцкі фэст

Жыровіцкі фэст збірае сяброў
На свята ў гонар іконы,
Якая з'явілась таму шмат гадоў
На грушавым дрэве, у кроне.
Абраз цудатворны знайшлі пастушкі,
Прынеслі ў маёнтак да пана.
Спадар Солтан ўбачыў і... напрасткі –
Схаваў у скарбонку да рана,
Каб лепей разгледзець, гасцям паказаць,
А потым прад Ёй памаліцца...
Казалі яму: зышла благадаць –
З-пад грушы крынічка бруіцца.
Падскарбій Вялікага Княства, магнат
Царкву збудаваць загадаў там,
Каб Божая Маці ўзяла пад нагляд,
Каб добра жылося ўсім нам.
І вось праз стагоддзі Жыровіцкі фэст
Усіх спевакоў і музыкаў
З'яўленню іконы спяваць дабравест
На месца святое паклікаў.
Жадаю ўсім вам, як родным сваім,
Крынічнай вадой наталіцца.
У месцы Жыровіцкім светлым, святым
Прад тым абразком памаліцца.

## Вялікдзень

Жыровіцы святкуюць кросным ходам
Вясною Светлую Нядзелечку заўжды:
Манахі, святары з усім народам
З малітвай: уратуй і зберажы!

## Перамагчы

Няма на свеце лепшай перамогі,
Чым перамога над самім сабой.
Сябе перамагчы Гасподзь дае нямногім,
Адзін не здольны справіцца з бядой.
Бяда мая гняздо звіла у сэрцы,
Яна аднячасова – зло і грэх.
Жадае аднаго – заўчаснай смерці
Маёй душы, закрыўшы шлях уверх.
Шматлікія жаданні майго цела
Вядуць вайну шматкроць з душой маёй,
І ў дзень і ў ноч ідуць ў атаку смела,
Перемагаюць малаю крывёй.
Адкінуўшы сябе пайсці за Богам
Мне трэба ў Яго прасіць вянец...
Каб вывеў Ён на роўную дарогу
І паказаў збавіцельны канец.
А гэтага мне можна дамагчыся
Малітвай, пакаяннем і пастом...
І толькі ў веры моцнай адрачыся
Ад д'ябла, што з рагамі і хвастом.



# Ігар БУРСЕВІЧ





*Нарадзіўся ў 1949 годзе ў вёсцы Чамяры Слонімскага раёна. Пасля навучання ў СШ № 6 г. Слоніма паспяхова скончыў Камянец-Падольскае вышэйшае ваенна-інжынернае каманднае вучылішча і Ваенную акадэмію тылу і транспарту. Піша на беларускай і рускай мовах. Выдаў зборнікі вершаў і перакладаў “Романтика дорог” (2004), “Звёздный перезвон” (2005), “Радзімы ціхай краявіды” (2007), “Карусель листопада” (2008), “Души моей заветные слова” (2008) і іншыя.*

*Жыве ў горадзе Балашыха (Расія).*

## Мілавіды

*Памяці паўстанцаў 1863 года*

Мілавіды, Мілавіды —
Ціхі, вольны родны край.
Лугавыя краявіды,
Пералескі, цёмны гай.
Невялікія пагоркі,
Сенажаці і сады,
Зіхацяць начныя зоркі
Пад крынічны шум вады.
Там такое разнатраўе
Сярод ліпеньскай цішы,
І стагоддзямі бяспраўе
Беларускае душы.
Як між Сцылай і Харыбдай,
Выбару амаль няма,
Мы не будзем болей быдлам,
Бо жыццё наша — турма.
Землі лепшыя забралі,
Не знайсці праўды нідзе,
Беларусы мацней сталі —
Сіла наша ў грамадзе.
Хопіць гнуцца перад панствам,
Выйдзем на цярністы шлях.
Набраў моцы пратэст хамству —
Шырыцца яго размах.
Бацькаўшчына у няволі —
Задушыў яе царызм,
Мы даб’емся лепшай долі —
Выратуе патрыятызм.
Стаў ствараць ў лясах атрады
Наш пакрыўджаны народ,
І прамовы, і загады —
Прывыкаць нам да грымот.

Так паўсталі патрыёты,
Лепшай долі бунтары.
Скінем разам путы гнёту —
За Радзіму, змагары!
Падышлі пад Мілавіды
Групы шляхты і сялян
І са Слоніма, і з Ліды,
З Ваўкавыска і Пружан.
Сталі лагерам ля вёскі —
Лес надзейна іх схаваў.
І паўстанцам Каліноўскі
Перад бітвай наказ даў:
«Хвала змагацца за свабоду,
Лёс такі цяпер у нас,
Прынясем вольнасць народу —
Наступіў наш вольны час.
Праўда з намі — значыць сіла,
Карнікам дамо мы бой.
Тут ім вечная магіла,
Кожны з вераю — герой!
Дзень настаў, духам не падаць,
Краю лепшыя сыны.
Заваюем людзям радасць,
Скінем дружна кайданы.
Мы гатовыя пакласці
Свае сэрцы на алтар
За Айчыну, яе шчасце —
Сэнс жыцця наш, Божы дар.
Разам, хлопцы, ўсе да зброі,
Як свабоду нам здабыць.
Хто не з намі — не героі,
А па-іншаму — не быць!..»

Пра той бой помняць асіны,
Што ацалелі ад гармат,
Смелым націскам ліцвіны
Адцяснілі строй салдат...
...Мілавіды, Мілавіды —
Незабыўны, лясны край.
Там такія краявіды,
Будзеш ехаць — заязджай.

## Жнівень

Цяпло зямлі пайшло на спад,
Начных туманаў незалежнасць,
Нібы абліты стаіць сад,
Падзенне яблык – непазбежнасць.
Вакол такі мядовы пах
З садоў, а можа, з канюшыны,
Хутка імгла ляжа ў кустах –
Жніво дайшло да палавіны.
Яшчэ ліст долу не ляціць,
А лета Слонім пакідае...
І тонкіх павуцінак ніць
Паціху жнівень распускае.

## Жыцця гартаючы старонкі...

Жыцця гартаючы старонкі,
Успамінаю з даўніх дзён:
Бэз пад акном, язмін, рамонкі,
Паранены маланкай клён.
І невялікі той узгорак,
Дзе разбіваў не толькі нос,
Ды толькі я не ведаў гора,
Бо разам з бэзам хутка рос.
Пад ціхаю лясоў гамонку
Дзяцінства з марамі цякло,
Свяціла сонцам на надворку
Усмешкі бацькавай цяпло.
Цяпер там ўсё не так знаёма,
Нямала уцякло вады...
Таму найлепш заўсёды дома,
Дзе быў калісьці малады.

## Край дзяцінства

Я нарадзіўся ў Беларусі,
Ў краю гаёў, крыніц і ніў.
І кожны год спяшу, як гусі,
У край, дзе я шчаслівы быў.
Дзе калыхалі мяне хвалі
Гаючай Шчары, хмызнякі.
Так вабілі з пагоркаў далі,
Пад небасхілам – жаўрукі.
А які ўлетку захад сонца!
Проста не верыцца вачам,
Ставок з аерам за маёнткам
Свяціў мне зоркай па начах.
Жыве яшчэ там наша мова
І кнігаўкі звычайны плач,
А вечарам, невыпадкова,
Там песні родныя гучаць.
Шуміце пушчы, драбналессе,
Пад водар кветак і травы...
А Слонім наш, не край Палесся,
А летапісны край Літвы.

## Восень у Альбярціне

Развесіў над прасторам
Дзень сеткі з павуцін
І залацістым морам
Чуць плешча Альбярцін.
Мільгае панарама –
"Гарадь" лясы агнём,
Зноў восені рэклама –
Кастрычнік за акном.

## Травень

Звініць таемна травень скрыпкай,
Моц набірае агарод,
А пад Пясчанкай і Пляшыўкай
Бярозкі водзяць карагод.
Побач на сонечным пагорку
Гуляе цёплы ветравей,
І славіць любую старонку
Штодзень жаўрук і салавей.
Спявай мой край, звіні крыніцай
Сярод квітнеючай цішы,
Каб шчасце светлаю зарніцай
Штодзень зіхцела у душы.

## Таццяна ТРАФІМЧЫК





*Нарадзілася 23 снежня 1953 года ў г. Баранавічы. У 1975 годзе скончыла Гродзенскі дзяржаўны педагагічны інстытут, у 2002 годзе – аспірантуру Гродзенскага дзяржуніверсітэта па тэорыі і методыцы навучання. Вынікам заканчэння аспіратуры стаў дапаможнік па тэхніцы вершаскладання "Навучанне лірыцы праз творчасць на занятках літаратурнага гуртка"( Гродна, ГрДУ імя Я.Купалы, 2012). Выступае ў друку з рэцэнзіямі, вершамі, артыкуламі.*

*Працавала настаўніцай роднай мовы. Цяпер на заслужаным адпачынку, жыве ў Слоніме.*

### Каляднае

Спагадна-радаснае неба
Душу натоліць чысцінёй:
Калядны час… Крупінкі снегу,
Дажджынкі з талаю вадой.
Мякчэе сэрцайка Сусвету –
Слязінкі коцяцца з вышынь.
Ён нарадзіўся першацветам,
Каб звянуць, згінуць, – Божы сын.
Палагаднела, памякчэла
Зямля ад Боскай цеплыні,
Хрыстова Сэрца, Яго Цела –
Як сонца ў душах, між людзьмі.
Зямля далоні нахіліла,
Дзіцятка – гонар яе, ўзлёт.
Ніколі так ты не любіла,
Планета мукаў і бядот!
Збавенне толькі з Ім пазнаеш,
Самаахвярнасць з Ім прымі!
Няўжо Ты, Божа, нас караеш?! –
Хрыста і мову прадалі!..

### Радзіма

Скажу ледзь чутна, сцішу голас,
Каб сэрца адчувала штораз
І гэты свет мой першабытны,
Пакутна-горкі і крынічны,
І гэты кут мае трывогі,
Немудрагелісты дарогі,
Што каля хаты завіліся
І з сэрцам моцна запляліся
Дачок той повяззю жывою…
Не супыніць жыцця сувою,
Дзе ўсё адкрыта і раніма.
І гэта ты, мая Радзіма!

### Якімавічы

Хацінка на курыных ножках.
Вось камінок, нібы шкілет,
Рыпяць на дашку дранкі дошкі…
А ў сэрцы боль і іншы свет!
Чаму так смутак завалодаў
Маёй душою, так працяў?
Вядзе дарожка да парожка,
Ды ў хатачцы няма жыцця!
Чаму душы замілаванне,
Чаму і роспач, і адчай?
Відаць таму, што тут світанне

Было прыгожым, нібы рай?
Бо тут даўно жыла надзея
І беларускі звычай хат,
Хлапчына з сэрцам дабрадзея
Тут некалі кахаў дзяўчат.
А мо бабулька, як зязюлька,
Што хату прыбярэ з душой,
Чакала, шчырая матулька,
Што сын прыбудзе на пастой?
Святыя хаты і сялібы,
Іконы, ручнікі, куцця…
А зараз – выбітыя шыбы…
Тут крык і смерці, і жыцця!

## Студэнцкаму інтэрнату ў Гародні

Тут храм юнацтва, смех і слёзы,
Пакутны боль і чысціня…
Як абярэг які… Трывогі
Праходзяць міма, каб здаля
Юнацтва апякло паглядам
І невыноснасцю пяшчот,
Што у душу мілосным градам
І вадаспадам ўсіх любот,
Што толькі існасць захавала,
На сэрца, кволае зусім,
Цяжарам вечнасці упала…
Я уцякла. Юнацтва дым…
Кахання скінуты ланцуг!
Боль і расстання, і пакуты!
Адно лунае Божы дух –
Дух любасці. Мы ім прыкуты.
Юнацтва дом, мой інтэрнат!
Твае знаёмыя пагляды!
Пячэ душа… Юнацтва сад
Тут побач, мы сустрэчы рады!..

## Маёвае набажэнства ў касцёле Святога Андрэя

Матачка Божая! Колер чырвоны
Барвай адзення Твайго захапляе!
Ціха ў касцёле, святар у зялёным
Светлым арнаце душой прамаўляе
Ў нашым касцёле…
Матачка Бога! Абраз Твой іскрыцца,
Вабіць і лашчыць, прыцягвае позірк,
Колерам ружаў чырвоных ірдзіцца,
Сэрца хвалюе пагляд Багародзіц
Ў нашым касцёле…
У надалтарным аддзеле касцельным
Маці з Жыровіц імшу бласлаўляе,
Справа алтарык у кветках, пастэльным
Колерам красак жывых аздабляе
Ў нашым касцёле…
Маці Хрыста, што аднойчы святою
Ласкай сваёй асвяціла пячору.
Моляцца вернікі майскай парою,
Просяць кабеты для сем'яў апоры
Ў нашым касцёле…
Подыхам боскім матуліных ласкаў,
Колерам макаў, жывых аксамітак
Дорыць нам час Багародзіца майскі,
Цуд набажэнства, у кветкі спавіты,
Ў нашым касцёле.



# Сяргей
# ЧЫГРЫН





*Нарадзіўся 24 верасня 1958 года ў вёсцы Хадзявічы Слонімскага раёна. Пасля вясковай школы скончыў Магілёўскае культасветвучылішча і Белдзяржуніверсітэт.*

*Напісаў і выдаў дзясяткі кніг паэзіі і літаратурна-краязнаўчых артыкулаў –“Камень Міндоўга” (2009), “Пакліканыя на родны парог” (2005), “У пошуках слонімскіх скарбаў” (2007), “Беларуская Беласточчына” (2008), “Жыў роднай песняй” (2010), “Па слядах Купалы і Коласа” (2012), “Такі іх лёс” (2012), “Слонімскі буквар” (2013) і іншыя.*

*Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.*

*Жыве ў Слоніме.*

## СА “СЛОНІМСКАГА БЛАКНОТА”

### Баль генерала Канопкі

*Слонімскі генерал Ян Канопка (1777-1814 )*
*у 1812 годзе ваяваў на баку Банапарта Напалеона.*
*Аднойчы ён наладзіў у Слоніме баль...*

Ян Канопка наладжвае баль
У палацы Пуслоўскіх да ранку.
Твар схавала пад белы вуаль –
Не пазнаць сланімчаку.
Кружыць ў вальсе увесь Альбярцін
Генерала Канопку,
Ён тутэйшы, ён родны наш сын
За французаў ваюе лоўка.
Сланімчанкі-ліцвінкі глядзяць
І вачэй з генерала не зводзяць:
Ці умее Канопка кахаць?
Ці заўсёды ў баях і паходзе?..
Не спыняецца шумны баль,
Паланэзы гучаць да ранку...
Твар схавала пад белы вуаль –
Ён пазнаў сланімчанку.
Ён пазнаў, прытуліў да грудзей,
І глядзелі усе уланы,
Як ліцвінка сярод гасцей
Пацалункам лячыла раны.

## На пікнік у Слонім

Снежны месяц задумёны
І марозаў не відаць.
Старадаўні, родны Слонім…
Хопіць, братка, сумаваць.
Ты не плач адлігай бруднай
У жыцці нашым штодзённым.
Мне з прыродай вельмі сумна,
Калі ты сумуеш, Слонім.
Адчуваю я палонным
Без Агінскага з Сапегам,
Запрашаю іх у Слонім,
На зімовую пацеху.
Каб не страцілася штосьці,
І каб сум маркотны знік…
Едуць гетманы у госці –
Будзе ў Слоніме пікнік.

## Сланімчанка

Далёкая і блізкая,
Адна у белым плацці,
Імчыць ў палац Агінскага –
Хвалюецца ад шчасця.
Прыгожая і зграбная,
Шчаслівая дзяўчына,
Ты скуль скажы такая
З Жыровіч, з Альбярціна?
Страчаюць прыгажуню
І б'юць паклоны нізкія –
Зусім-зусім чужую
У Міхала Агінскага.
І гетман сустракае,
Аркестр іграе вальсы,
Віно цячэ ракою
І смажацца каўбасы…
І баль сядзібу музаў
Кружыў да самай раніцы,
Пілі там ўсе ад пуза,
Глядзелі на абранніцу.
Прыгожая такая –
Адна на горад Слонім,
Агінскага трымала
Нібыта у палоне.
З надзеяю і верай
Імпэт былі, натхненне…
Ад стомы слаўны гетман
Ёй цалаваў калені.

## Слонімскі кірмаш

А на слонімскім на кірмашы
Прадаюць вяскоўцы кашы,
Граблі шчэ прадаюць і косы,
Каб збівалі халодныя росы.
І сярпы прадаюць, і сякеры,
Самаробныя клямкі на дзверы,
Прадаюць бы ў мінулых стагоддзях,
І да іх мужыкі падыходзяць,
І жанчыны сярпы трымаюць,
Бы жніва залатога чакаюць…
І святлее ад гандлю кірмаш –
Бо святлейшага ў свеце нямаш.

## Зіма

Зіма згубіла снег даўно,
І знікла з Альбярціна,
Зіма з вясною п'е віно,
Зіма-дзяўчына.
Зіма паводкай паплыла
Па Шчары і па Ісе,
Зіма у Слоніме была, –
Мароз маліўся!
І падаў снег перад вясной,
І дым – у коміне…
Зіме-гаротніцы адной
Жыць сумна ў Слоніме.

## Вяснянкі

Вось і вясна выглядае
З чыстага берага Шчары,
Ну, прыплывай, дарагая,--
Высвеці нашы мары.
Высвеці нашу долю,
Лёс нас зрабі святлейшым.
Просіцца Шчара на волю –
Хоча быць Шчара першай.
Хвалі бягуць – не дагоніш,
Мусіць, вясну пачулі...
Будуць вяснянкі у Слоніме
Слонімцам шыць кашулі.

## Вяртанне

Слонім. Слонім. Слонім.
Жыць. Жыць. Жыць.
Коні. Коні. Коні.
Піць. Піць. Піць.

Стрэча. Стрэча. Стрэча.
Май. Май. Май.
Вечар. Вечар. Вечар.
Край. Край. Край.

Дома. Дома. Дома.
Печ. Печ. Печ.
Стома. Стома. Стома.
Прэч. Прэч. Прэч.

## Яшчэ

Яшчэ зіму не хутка мы прагонім,
І першыя пачуем тут грамы.
А снег і дождж ляцяць на горад Слонім,
Заглядваюць у вокны  і ў дамы.
Яшчэ вясну не хутка мы дагонім,
Яшчэ вясна не пратаптала след...
А снег і дождж ляцяць на горад Слонім,
І просяцца пагрэцца у пад’езд.

# Мікола КАНАНОВІЧ





*Нарадзіўся 13 сакавіка 1965 года ў вёсцы Вострава Слонімскага раёна. Скончыў філалагічны факультэт БДУ, выкладаў беларускую мову і літаратуру ў СШ № 8 г.Слоніма. З 1998 года працуе ў рэдакцыі "Газеты Слонімскага", намеснік галоўнага рэдактара. З'яўляецца сябрам Беларускай асацыяцыі журналістаў і Саюза беларускіх пісьменнікаў.*

*У 2003 годзе ў Мінску пабачыў свет паэтычны зборнік "І доўжыцца ноч...".*

*Жыве ў Слоніме.*

## Першы снег у Вострава

Першы снег сароміцца на даху,
Каплямі хаваецца ў зямлю.
Я ж люблю вялікі снег, з размахам,
Белы свет пад снегам я люблю...
Ды мае тутэйшае любові
Да снягоў, дажджоў, да шэрых хат
Хіба на адно толькі даволі —
Выклікаць жалобны слёзапад.
На канцах разбэрсанае вёскі
Белы снег схавае плот гнілы,
Упрыгожыць хаты-неданоскі,
І, здаецца, сам я, малады,
Да кагось спяшаю на вяселле
Адгуляць напоўніцу, тры дні...
Толькі ўсе сябры сваё насенне
І сябе па свеце размялі.
У хатах больш нічога не трымае,
Скуль ішлі калісьці ў першы клас.
З хат пяці адна, можа, жывая,
Ды і ў той — жыцця кароткі час.
На клады сыходзяць гаспадыні,
Едуць да сваіх гаспадароў,
Якія паўміралі маладымі,
У свет пусціўшы дочак і сыноў.
Дзеці ўжо не вернуцца са свету,
Пахаваўшы тут сваіх бацькоў.
Студзіць першы снег маю планету,
Вёску, дзе нянавісць і любоў
Я адкрыў яшчэ да інтэрнэту,
Да таго, як сам у свет пайшоў.

## На Лабазоўскім возеры

Паплаўкі стаяць слупамі,
Ідуць бурбалкі са дна,
Сёння там над рыбакамі
Лешч смяецца ад відна.
Бо ні раніцай, ні потым,
Ні апоўдні, ні пазней
На пярлоўку дробным шротам
Рыба нават ні зірне.
І хістаюцца на хвалях,
Як сіроткі, паплаўкі,
Ды аб дальніх марацьдалях,
Далях клёвых рыбакі.

## Апошняя восень

*Памяці цесця М.І. Данільчыка*

Восень тут — арэна бульбы спелай,
Восень нам — памочніца ва ўсім.
Гэта проста восень падаспела,
А не ты састарыўся зусім.
І няхай спяваюць алілуя
Ў лістападзе злосныя вятры,
Гэта ні жыццё тваё мінула —
Проста наступілі халады.

* * *

Зіма заплакала дажджом,
Травой зазелянела.
На фоне шэрані мой дом,
Твой дом, наш дом
Стаіць як ёлка смела
У снежні на Каляды,
Якіх яшчэ няма,
Але мы ім так рады,
Як рада дзетвара
Канікулам і снегу,
І ёлцы, і пад ёй…
Ды сёння льецца з неба,
Нібы з душы тваёй.

* * *

Пацяплела. Агалелі дрэвы.
Зрэдку сее з неба дробны дождж.
Восень справа рупіцца і злева,
Восень топча лісце басанож.

Але ўсю крылатую лістоту
Не наўмецца ног, каб патаптаць.
Ды затое ветру у ахвоту
Пакружыць лісты і пашпурляць.

Хутка зноў пашэрыць іней травы
І да глебы прымарозіць ліст.
Восень коткай стоіцца ў атаве,
А ў сяле нап'ецца трактарыст.

* * *

Ты скончыў дзень,
як акт,
з задавальненнем.
Пра ненапад
свой пакт
ты падпісаў
з сумленнем.
І заўтра
новы дзень
хай будзе
ў радасць,
каб жыць —
не падаць.

* * *

Яшчэ не спісаны лісток да астатку,
Пачуцці яшчэ не згарэлі усе.
На досвітку спелага летняга ранку
Рыбацкае шчасце магчыма яшчэ.
І нават дзяўчына ў жыцці не сустрэтая,
Магчыма, аднойчы абдыме цябе.
Жывеш, пакуль верыш, што песня не спета ўся,
Жывеш, пакуль верыш сабе.

## Шалёны час

Шалёны час
шалёна
шалясціць.
Свядомасці
шалёнай,
трапяткой —
не абысці,
не збочыць на краі,
ад часу
не схавацца…
Век жыві,
вучыся,
каб пасля
памерці
ў часе
з доляй карася.
Але пакуль
не злоўлены —
жыві!
Шалёны час
дурэе на крыві.

* * *

Нехта з'яўляецца, хтосьці знікае.
Заўсёды вясна зіму даганяе.
Ёсць пэўнасць жыцця і законы прыроды —
Сцякаць нам адсюль, як вясновыя воды.

# Зінаіда РУСАК





*Нарадзілася 31 ліпеня 1956 года ў вёсцы Шышкі Слонімскага раёна. Вучылася ў Сянькоўшчынскай сярэдняй школе. Скончыла Днепра-Дзяржынскі хіміка-тэхналагічны тэхнікум. Друкавалася ў рэспубліканскім друку, выдала зборнік вершаў на рускай мове "Бабіна лета".*

*Жыве ў Слоніме.*

## Пачуцці на белым аркушы

На белы аркуш пакладу
Жывых пачуццяў чараду,
Ды адвяду ў ім больш радкоў,
Дзе да цябе гучыць любоў,
Мая зямля, мой родны кут,
Радзімы дом, знаёмы люд,
Дзе сіняй Шчары берагі
І Слонім сэрцу дарагі...
Тут мова родная гучыць,
Тут вольна дыхаць, люба жыць!

## Радзімы край

Радзімы край – шчымлівай радасці куток,
Утульны, ветлівы, прывабны гарадок,
Табе ў каханні прызнаюся сёння зноў,
Мой родны Слонім, мая светлая любоў.

Іду па жнівеньскай квітнеючай красе.
Заранка полымя ўжо новы дзень нясе.
Раса бліскуча, крышталёва на траве.
Душа спявае, радасць з ранку там жыве.

Туман над Шчараю, нібыта сырадой,
Бялюткі, пеністы ўздымаецца над ёй.
Дрымота сонная пястуе берагі,
Пейзаж прыгожы й сэрцу дарагі.

Квітней заўжды, старонка любая мая,
І шчасця мірнага табе жадаю я,
Каб прыгажэла і мацнела з году ў год,
Каб мой народ не зведаў больш нягод.

## Вёска

Знаёмай дарогай і сёння, як колісь,
Бягу да цябе ад жыццёвых трывог,
Табе пакланюся я шчыра у пояс,
Адзіны на свеце бацькоўскі парог.

Старэнькая вёска, дзе лёсу вытокі,
Здзяцінства найлепшая ты для мяне,
Тут першыя словы, і першыя крокі,
І першыя маары ўзышлі па вясне.

Распроствае крылы над вёскаю бусел,
Клякоча бусліха ў новым жыллі.
Любімы куточак маёй Беларусі,
Не вянь, не знікай, даражэнькі, жыві!

Няхай каласіцца жытнёвае поле,
Квітнеюць духмяна ля хатаў сады.
Табе я жадаю шчаслівае долі:
Жыві мая вёска, красуйся заўжды.

* * *

Матулін дом – прыстанак думак,
Спакой душы і сэрца спеў.
Агеньчык памяці не стлеў,
І кожны дзень, як падарунак,
На той зямлі, дзе род асеў.
Лясы, палі, лугі, азёры –
Маёй малой радзімы кут,
Няма мне лепш нідзе як тут
На гэтай велічнай прасторы.
Людзей знаёмыя абліччы,
З маленства роднай мовы смак…
Жыццёвы лёс ці акалічнасць,
А мне без вас ужо ніяк,
Зноў вёска цягне, вёска кліча,
І я, як пералётны птах,
Да халадоў з вясны ў Шышках.

* * *

У вёсцы восень чэрпае натхненне
Для шэсця залатога па зямлі.
Тут гарбузы, як сонца ў “картапленні”,
Азімых ізумруды узыйшлі.
Вяргінь стракатасць з павуцінкай срэбнай,
Плады ранет у наліўной красе.
І шэрань бела з раніцы на глебе,
І травы у вясёлкавай расе.
Вандруе восень па лясах і пожнях,
Грыбным дажджом змывае лета пыл,
Кране лісток сваёю фарбай кожны,
Пад вечар размалюе небасхіл.
Рассыпле зоркі спелыя ў нябёсах,
Павесіць поўню, нібыта ліхтар…
І зноўку восень, залатая восень,
Раздуе на душылюбві пажар.
Я восень не ганю і не гукаю,
Няхай блукае, калі ўжо прыйшла…
Халодны дождж не выкліча адчаю,
Крануўшыся знарок майго жытла.

# Ірына ВОЙТКА





*Нарадзілася 23 кастрычніка 1961 года ў вёсцы Каралін Зэльвенскага раёна. Скончыла філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Настаўнічала на Зэльвеншчыне, працуе ў Слоніме загадчыцай дзіцячага садка № 3.*

*Паэтычныя творы друкаваліся ў розных рэспубліканскіх выданнях. Выдала зборнікі вершаў "Спасціжэнне" (2003) і "Пагляджу вачамі неба" (2010).*

*Сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі.*

*Жыве ў Слоніме.*

## Кранаюся вечнасці

Чым дакрануся да
вечнасці?...
Гэтаю ліпай, алеяй.
Брукам, які мне расказвае
аб чалавечнасці
тых, хто жылі і пайшлі.
Дубамі кранаюся вечнасці,
што вякамі прастуюць да неба.
Дарогай, якая вядзе ў бясконцасць.
Кранаюся вечнасць рэкамі,
што імкнуцца ў вечнае мора.
І чысцінёю крыніц.
Кранаюся вечнасці крыжам –
ад народзін да скону.
І болем сваім,
і бацькавай памяццю.
І пахам цагельных капліц,
на якіх мне сустрэча
прызначана продкамі.
...Кранаюся вечнасці.

## Калляднае

Азарае святло, азарае.
Зноў цудоўнае свята ідзе.
І калядная ноч наступае
і прыходзіць калядны дзень.
І у хаце звычайнай самай,
дзе радзіліся мы і раслі,
сядзе тата і сядзе мама
за сталом між дзяцей і радні.
І малітву ўзнясуць святую
за ўчарашні і сённяшні дзень,
і за зорачку залатую,
што за намі па небе ідзе.
І такая мілосць на свеце,
І такое наўкол хараство.
Бо калядная зорка свеціць
на цудоўнае свята сваё.

## Бацькам

Старэнькая маці і бацька стары.
Бог век ім падоўжыў да нейкай пары.
Прыеду уранку, аж колы гудуць.
Сустрэнуць на ганку і ў хату вядуць.
Дабрэйшыя людзі, хоць дзеці вайны,
і «Польшчу» і «немцаў» шчэ помняць яны.
Сыходзяць паціху, сваё аджываюць,
гісторыю й праўду сваю забіраюць.
А праўда – яна на далонях старэчых.
Гісторыя – крыж свой паклала на плечы.
А вы папытайце, як ім жывецца,
і ў шчырасці бацька сваёй усміхнецца
і скажа, што: – Добра. А доля цяжкая?
Дык долю сабе хіба хто выбірае.
Старэнькая маці і бацька стары.
Бог век ім падоўжыў да нейкай пары.

## Вясновы верш

Да імклівай вясны дакрануся,
будзе сонца мяне цалаваць.
Я паеду па ўсёй Беларусі,
каб ізноў яе моцна абняць.
Я прымаю і далі, і гоні,
і лясы яе, і каласы
і ў вятрыскі імклівай пагоні
чую продкаў сваіх галасы.
Я такая, як вы, беларусы,
Гарадзеншчына мне як радня.
Я на крылах над ёй уздымуся,
каб сустрэць радасць новага дня.

* * *

Такое хараство на белым свеце…
І дзень такі, што ў квецені вясна!
І з раніцы такое сонца свеціць!
І далячынь высокая відна.
Люблю усё. І сэрцам прынімаю
жыцця свабодны водар трапяткі.
Цаню усё, што у гэтым свеце маю,
І ем свой хлеб, салодкі і цяжкі.

* * *

Не стагоддзя прашу
і не вечнасці – чалавечнасці.
Як у бацькі майго – дабрыні.
Як у маці маёй – цеплыні.
Як у храма майго – вышыні.
Як у Бога майго – чысціні.

* * *

Дарогу дзяцінства –
дарогу дадому
называю дарогай жыцця.
Бо на ёй самыя хуткія колы.
Бо на ёй самыя буйныя жыты.
Бо на ёй самы светлы мой дзень.

* * *

*Свята-Троіцкай царкве*
*ў Слоніме*

А Храм стаіць,
а Храм жыве.
Высокі звон у ім пяе.
Стаіць ён век, і два, і тры,
а побач з ім – яго муры.
А ты не храм,
ты – чалавек.
Табе не дадзен нават век.
І колькі вызначана жыць –
няхай твой шлях праз храм ляжыць.

## Кветкі восені

Кветкі восені, кветкі восені,
замярзаеце, засыхаеце.
І скрозь снегу халоднай просіні
нас усмешкамі зноў вітаеце.
Усё бяжым кудысь, завіхаемся
паміж тою зімою і гэтаю.
Кветкам восені не здзіўляемся
па-за вёснамі, па-за летамі.
А вы стрункія, нібы босыя,
зноў усмешкамі нас вітаеце.
Кветкі восені, кветкі восені,
вы зіму сабой растапляеце.

* * *

Пагляджу вачамі неба
на сваё жыццё і ваша…
На жыццё, відаць, і трэба
нам глядзець вачамі неба.



## Святлана ВАРОНІК





*Нарадзілася 12 чэрвеня 1969 года ў вёсцы Кастровічы Слонімскага раёна. Скончыла філфак Брэсцкага педагагічнага інстытута, аспірантуру, працуе выкладчыкам у Брэсцкім дзяржаўным універсітэце.*

*Выдала зборнік паэзіі “Маміна дрэва” (2015).*

*Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.*

*Жыве ў Брэсце.*

# Святло самоты

* * *

Думала... не ўстану...
Думала... іншай стану...
Ды пайшла...
І Цябе – знайшла...
Абаперлася на душу...
Думала, што грашу...
А Цябе не стала...
А я ўстала...
Ля стала стаю...
Жорнам жыццё
даю...

* * *

Падаў снег
на маю душу...
У сняжыначках
боль
калышу...

* * *

Ляцела чайка над царквою...
Ляцела чайка нада мною...
Ляцела чаіца праз мора...
Майго жыцця
кранула гора...
крылом...

* * *

Боль крычыць
адзінотаю...
Адзінота
маўчыць самотаю...
А я сэрца не маю...
І тваё
ў руках
ледзь трымаю...

* * *

Да нас дзяцел прыляцеў,
Пані Ніна...
Быццам грушачкі паеў,
Пані Ніна...
Прыляталі “снегіры”
з дзіўным чубам...
Падымаюць каўняры
дзіўна людзі...
Божа, Божанька... зіма...
Пані Ніна... Вас няма...

* * *

Жырандоля-жырандоля...
Праўду кажуць – наша доля...
Наша ніва...
Наша маці...
Ды не ўсе могуць
каваці
жырандолю...
Сваю долю...

## Дануце Бічэль

У голасе Вашым –
усмешка Сусвету...
У голасе Вашым –
боль цэлага Свету...
У голасе Вашым –
святло і самота...
У голасе Вашым –
мая адзінота...
Маўчыць голас Ваш,
а ці нема галосіць, –
Анёлам і Богу
ён радасць прыносіць...

* * *

Керамічны анёлак –
ля вершаў маіх...
Керамічны анёлак
для нас,
для дваіх,
дзеіць цуды...
Маўчаннем зіхціць...
Раскрыляецца свет...
Бо анёлак – паэт...

* * *

У высокае ранне
параненым уздыхам
ляціць маўчанне...
Нечае гранне
напаўняе душу супакоем...
Размаўляе музыка са мною...
Музыка гучыць Табою...

* * *

Калі хлеба няма...
ёсць віна...
А калі ёсць віно...
ёсць яно...
Адчуванне...
"Не хлебам адзіным..."
Птушаняты ратуюць...
Мае вершы вартуюць...

* * *

Нядзельная раніца
раніцца
снамі маімі
трывожнымі...
Да акна прыручаю кармушку...
Як птушку...

* * *

Неба нядзельнай раніцы
разглядае пустыя вуліцы.
Да самотнага дому туляцца
рыштаванні...
Дзень першы. Ствараю...

* * *

Змарыцца паездка у Парыж,
а ўспаміны збудуцца Ван-Гогам...
Дарога –
ад Сены з Верленам –
да старонак
Дранько-Майсюка...

* * *

Мне так Твая душа балела...
Мая заплакала душа...

* * *

Дарога да Цябе –
заўжды ўгару.
Зірну вакол –
як я высока...

* * *

Усе дарогі
вядуць да Храма...
Там
жыве
Мама...

## Кацярына
## ШАЦІЛА





*Нарадзілася 5 жнійўня 1977 года ў Слоніме. Скончыла СШ № 6 г.Слоніма і Брэсцкі чыгуначны тэхнікум, а таксама курсы аператараў ЭВМ.*

*Вершы друкаваліся ў рэспубліканскім друку.*

*Жыве ў Слоніме.*

### Да Беларусі

Збіраю ў сэрцы кроплі Беларусі
Ў духмяных кветках, ў восеньскіх дажджах,
Не разумею, як душу прымусіць
Забыць аб ёй ў зусім чужых краях?!
Як здрадзіць песням жаўрукоў на золку,
Спыніць свой шэпт скрозь гоман незнаёмы,
Быць іншай ў думках, у жыцці, ў суполках,
Ну а пасля шукаць сябе стамлённа,
Спяшаючы пад родны сэрцу дах,
Да цеплыні за дарагім парогам…
Збіраю ў сэрцы ўвесь знаёмы шлях
Між залатых палёў, між гаварлівых водаў.

### Купалу і Коласу

Жалейка застыла ў граніце халодным;
А дзесьці над лугам, над лесам плыве
Народная памяць музыкай лагоднай,
Світальнай малітвай на белым крыле.
Усход азарае шляхі і куточкі,
Якімі ішлі песняры па жыцці,
Ўбіраючы кроплі жывіцы, шматочкі
Усёй прыгажосці радзімай зямлі!
У кнігах вялікіх схаваныя казкі,
І спевы, і плач, і гарэзлівы смех…
Хай стане для нас, маладых, абавязкам
Захоўваць тое багацце на век!

## Добрай раніцы, свет!

Добрай раніцы, свет!
З захапленнем гляджуся я ў вочы твае –
Вочы сініх азёраў, валошкавых даляў...
Добрай раніцы, свет!
Я збіраю цябе пакрысе,
Па часцінках, і ў вершах маіх,
Можа, іх праз гады адшукаюць.
Мірны лёс, скрыжаванні шляхоў і дарог –
Спазнаю, адкрываю радзімы куточкі,
Быццам дзесьці схаваны былі незнарок,
Ад мяне: іх шукаю, штодня следам крочу...
Свет дзівосаў, я чую, вітаю цябе,
Адчуваю цябе, свеце мой, сваім сэрцам,
Вобраз твой, як натхненне,
Заўсёды са мной,
Вобраз маці-радзімы маёй запаветны.
Ў маёй памяці час, калі хлеб
напалову з крывёй
Край мой родны дзяліў,
але толькі ні воляй, ні доляй
Не скарыўся чужынцам, жыццё захаваў
Для мяне, для нашчадкаў,
Здалёк працягнуўшы далоні...
Добрай раніцы, свет!
Ты дазволь мне цябе... абняць...

## Вясновыя спевы

Спыніся на хвіліну і паслухай,
Як зямля спявае ад кахання,
Як яе вясна ізноў узрушыць
Моцай слоў і радасцю спаткання.
А на захадзе гарэзліва, яскрава
Промні абцалуюць ўвесь прастор
І ў бялёсых кронах дзень схаваюць,
Каб да раніцы быў час пяшчотных сноў.
Квецце алычы салодкім пахне,
Разліваецца танюткім шалем...
Ты прыслухайся, як сэрца песень прагне
Пра вясну, пра шчасце, што чакалі.

## Яшчэ раз пра каханне

Табе б шукаць кароткія шляхі
Пад белымі аблокамі краіны,
Дзе кожны крок надзеяй зіхаціць
У водбліскаў блакітнай плыні.
Знаёмы з цудам ты ў зімовых межах,
На шыбах пакідаючы прызнанне,
Чакаеш ў натоўпе подых свежы
Адзінай, што спяшае на спатканне.
Яе руку да сэрца прытуліў,
Ты крочыш у вясновую часіну...
І зведаў ты той радасны матыў,
Які пануе у душы бязвіннай?!



# Уладзімір ЛАБКО





*Нарадзіўся 24 чэрвеня 1941 года ў вёсцы Дзераўная Слонімскага раёна. Скончыў біялагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Усё жыццё адпрацаваў у школе настаўнікам, быў дырэктарам Азярніцкай і Сянькоўшчынскай сярэдніх школ. З паэтычнымі творамі выступае ў раённым і рэспубліканскім друку.*

*Жыве ў вёсцы Дзераўная Слонімскага раёна.*

## Літаратурныя пародыі

### Дажылася

Я жыла ў нейкім лесе,
Я жыла ў нейкім полі...
Ірына Войтка

Цёмны лес і заімшэлы,
Я у лесе – там і тут.
Душа мая, маё цела
Палібілі гэты кут.
Палахліваю куніцай
Я скакала сярод дрэў,
І найлепшаю сястрыцай
Воўк назваць мяне хацеў.
Я з сініцай сябравала,
Жыць вучыла ваўчанят,
Грыбы, ягады збірала, –
Частавала буслянят.
Я насілася над полем,
Як насенне дзьмухаўца,
Майму шчасцю, маёй волі
Не відаць было канца.
Звяры, птушкі, аблачыны, –
Згодны ўсе былі дружыць.
Я таго жыцця карціны
Не магу ніяк забыць.
Усё канчаецца, вядома,
Што далей казаць вам тут?
То цяпер сяджу я дома:
Два пакоі – родны кут.

### Няма канца

П'ю – бясконцая дарога,
П'ю – замнога, п'ю зямнога...
Юрына Патата

Мне ўчора сніўся дзіўны сон,
Што прылягла я каля рэчкі,
Цёк ў рацэ той самагон,
Пілі каровы і авечкі.
І я таксама падпаўзла,
Бо дармавое не адкіну,
І самагонкі адпіла
Болей за тую ўсю скаціну.
Цяжкі стаў раптам мой жывот,
І галаву ў бакі хістае,
А мой надзіва сквапны рот
Усё глытае ды глытае...
І думак ў галаве няма...
Куды вядзе мая дарога?
Яе я выбрала сама:
Гарэлкі ж не бывае многа.

## Чаго дабіўся

*Лезуць думкі мне спрасоння,*
*Адагнаць іх немагчыма,*
*Да чаго дажыўся сёння*
*І што маю за плячыма.*
Анатоль Іверс

Даўно на свеце я жыву, даўно,
І вось дваіцца пачала дарога:
Адна да чорта штурхае мяне,
Другая запрашае йсці да Бога.
Стаю на раздарожжы доўгі час,
Дарога кожная нясе спакосы.
Чорт запрашае: “Ну хадзі да нас,
Віна нальем, ну а пасля закусім”.
Бог кажа: “Што тое віно!
На ўсё жыццё яго ты не нап’ешся,
Ты лепей паглядзі ў сваё акно:
Пегас ляціць, ты з ім ўсяго даб’ешся”.
Я проста з хаты скочыў на каня,
Прышпорыўшы, за грыву учапіўся…
З тае пары журбуюся штодня,
Каб на скаку я толькі не зваліўся…

## Прыклеіўся

*Англійскай ручкай пішу*
*Пра зэльвенскі лісцік альховы.*
Юрка Голуб

Даўно ля ракі я сяджу,
Сплываюць з вадой мае словы,
І ўжо шматразова пішу
Пра зэльвенскі лісцік альховы.
Ягоны я высветліў лёс
З вясны ажно да лістапада,
Бо ён на вачах маіх рос:
Я быў у яго заўжды ззаду.
Сказаць, можа, лепш за спіной:
Яму я удзячны за гэта,
Бо дружбу вадзіў ён са мной
І мне дапамог стаць паэтам.

## Зачакаўся

*Я цябе не кахаў даўно,*
*Я сябе не ўзлюбіў за гэта…*
Мікола Кананові́ч

Я сябе ўжо даўно не ўзлюбіў
І ў люстэрка зусім не гляджуся,
Ўсё таму, што цябе не забыў,
Я не мыюся і не галюся,
А жыву быццам той ваўкалак –
З вачэй – іскры, з зубоў – таксама,
Пазабыў нават хлеба смак,
Не хажу я зусім у краму.
Не наведваю і кіно,
Тэлевізар зусім не ўключаю,
Сяджу днямі, гляджу ў акно,
І цябе я адну чакаю.
Я не знаю як далей мне жыць,
Як мне роспач сваю суняць…
Прыходзь, ложак ўжо не скрыпіць,
Буду зноўку цябе кахаць.

## Надзея САЛЕЙКА





*Нарадзілася 31 студзеня 1962 года ў вёсцы Лешна Зэльвенскага раёна. Скончыла Мінскае мастацкае вучылішча імя А. К. Глебава. У галіне выяўленчага мастацтва працуе пераважна як кераміст, сябра Беларускага Саюза майстроў народнай творчасці і Слонімскага літаратурнага аб'яднання імя Анатоля Іверса. Таксама займаецца жывапісам, графікай, разьбой па дрэве. Піша вершы. Аўтар паэтычных кніг "Скрыжаванне" і "Партрэт душы".*

*Жыве ў Слоніме.*

### Малітва за маці

Божа, у мяне ёсць маці,
Ёй за восемдзесят год.
Там, на ўскрайку лесу, ў хаце
Супыняе часу ход,
Нашых думак супярэчнасць
На скрыжалі ўсіх дарог...
Што даруеш ёй, бо вечнасць
Хутка ступіць на парог.
Пражыла жыццё няблага,
Век не знала дактароў.
Ад маленства працы смага
Стала спадчынай дзядоў.
Усяго хапіла, Божа, —
Сціпла есці, мала спаць...
Толькі гэта ўсё не можа
Тваю вечнасць даравáць.
Дай прачнуцца ад спакусы
Непатрэбных слоў і спраў,
Ад салодкага прымусу,
Што ёй век наканаваў.
Падыдзі да сэрца, Божа,
Стукай, што той сілы ёсць,
А калі пачуць не зможа —
Не пакінь яе, як госць.
Не прашу ў Цябе багацця,
Ні дароў, ні дактароў,
Аднаго прашу для маці —
Прытулі яе без слоў.

### Пра меншасць

Меншасць не ўразіць вока,
Меншасць любяць не ўсе.
Крамяністым шляхам крочыць,
Долю з годнасцю нясе.
Меншасць большасці — назола,
Бестурботна не ўсядзіш.
Тая ж збавіцца дазволу
Атрымаць не можа звыш.
Меншасць на пагонах зоркі
Не лічыла, бо яе
Шляхам будучы не зорным
Над нікчэмнасцю вядзе,
Пад крылом сваім шануе —
Не кране ў нягодах роспач,
Вузкі шлях святлом раўнуе,
Каб прытомленым не збочыць.
Меншасць у прароках Божых
Полымем збавення ззяе,
Адзінотай жыцці доўжыць,
Непачутаю блукае.
Меншасць — гэта не загана.
І з крыжа у свет звініць:
Ганарыцеся пашанай
Меншасць у сабе насіць.

## Думкі вясковай жанчыны ў доме састарэлых

Свішча вецер за сцяною.
Чую я, ці сніцца мне,
Як Антось звініць касою
Па сівюсенькай траве.
Замігцелі шпарка промні,
І ўжо некалькі разоў
Намагаюся ўспомніць,
Ці я выгнала кароў?..
Сон дужэе, засціць вочы,
Сцежкі ў заўтра замяло.
Ці то ранак, ці то ноч тут?..
Ці зачынена гумно?..
Думкі блытаюцца, скачуць,
Спатыкаюцца, бягуць.
А чыесьці дзеткі плачуць,
Ці то шыбіны гудуць?..
Ці лісток апошні б'ецца,
Ці то ў вырай рвецца птах?..
Ці магчыма маё сэрца
Халадзее на вятрах.

## Споведзь на лісце

Пішу радкі, сціскаю зубы
Ад жудаснай тугі,
Пішу, калі ўвесь свет нялюбы,
Калісьці дарагі.
Пішу настырна, баязліва,
Палохаюся слоў,
А сцежкі на паперы дзівам
Прыводзяць да высноў.
Іду па іх душой разутай,
Як па зямлі святой,
І белая ралля глытае смутак
Сваёю чысцінёй.

## Памяці матулі

Напрадвесні завітаў
Цёплы ветрык з наваколля.
У гародзе пагукаў,
Грукнуў нечым пад страхою

І праціснуўся ў акенца.
Ведаў ён, што там даўно
Не хапае трошкі шкельца,
Акурат, як для яго.

Ціха ў Стэфчыным пакоі,
Змоўк гадзіннік гаваркі.
Мо забегла да Антолі
Ці пайшла па буракі?

Лёг на коўдру да абеду
Пачакаць ды адпачыць.
Гаспадыню добра ведаў,
Што не хутка прыбяжыць.

Паркалёвая падушка,
Пах знаёмы валасоў,
У кутку ляжыць дзяружка,
Куфар дзедаўскіх часоў.

Кросны тчэ павук пад столлю,
Ражка з дзіркаю ў дне,
Бульбу ў ёй таўкла жывёле,
Перш адклаўшы для сябе.

Можа прыйдзе павячэраць?..
Маладзік на шкле трымціць.
Што няма, не мог паверыць,
А пасля застаўся жыць.

## Слоніму

Мой любы Слонім, з году ў год
Цябе хадою мераю.
Уецца рыфмаў карагод
Над белаю папераю.
Прайду па вуліцах знаёмых —
Героях прывітаю.
Скарыне дзякую за Слова —
Святую кнігу маю.
Канал Агінскага плыве
Пад гукі паланэза.
На хвалях сонейка засне
Ды ўзыдзе зноў з-за лесу...
Ад Альбярцінскіх мурагоў
Да Рышчыц, Лабазоўкі,
Гараць ля велічных муроў
Рабін барвовых гронкі.
Чужынцы мерылі наскрозь,
Снарады руйнавалі,
Але з табою быў Гасподзь,
Бо сэрца не дасталі...
Абаранілі карані,
Прыкрылі курганамі,
А ты душой яго кранi —
І запяе званамі.
Заззяюць вокнамі дамы,
І пульс заб'ецца вуліц.
Не, да цябе не галубы —
Анёлы крылы туляць.

## Чаравік

Бег па сцежцы чаравік,
Абганяў другога,
Быць апошнім не прывык:
Надта форсу многа.
Ён і пыхаў, і злаваў,
Шнураванкі тужыў,
Нос угору задзіраў —
Абысці не здужаў.
Калі ў сенцы прыняслі
Адпачыць з дарогі,
Так хацеў ён укусіць
Хоць разок другога.
Толькі зрушыцца не мог,
Сцяміўшы нарэшце,
Чалавек яму, што Бог,
На жыццёвай сцежцы...

## Алесю Каско

*З нагоды адкрыцця памятнага знака ў Ганцавічах васьмі лепшым беларускім паэтам, у тым ліку і Алесю Каско, 2011 год*

Увекавечыць песняра
Згадалі нашы людзі.
Цяпер і дзень, і ноч імя
Макрэць і сохнуць будзе.
Не пагаджайся з тым, Алесь,
Яно для ўсіх нябачна...
Да неба можна ўзляцець
І, нават, там застацца.



## Святлана АДАМОВІЧ





*Нарадзілася 7 кастрычніка 1977 года ў Слоніме. Скончыла Белдзяржуніверсітэт. Працавала настаўніцай і журналісткай. Кіраўнік Слонімскай раённай арганізацыі ТБМ. Менеджэр шэрагу культурніцкіх праектаў. Друкавалася ў рэспубліканскіх газетах і часопісах.*

*Жыве ў Слоніме.*

### Да Гармоніі

Дазволь Ёй застацца з табой…
Дазволь твой ахоўваць спакой…
Дазволь у далонях нясці
Па гэтым вірлівым жыцці
Тваё Сэрца…

* * *

Ападае асенняя медзь,
Ціха звоніць лісцём бязважкім…
Прыгажосць?
Мне ж балюча глядзець,
Як, ступаючы ботам цяжкім,
Чалавек! – нішчыш ты прыгажосць,
Што заслала сабой дарогу,
І чыюсьці танюткую плоць,
І мільёны тварэнняў Бога…

* * *

А ні ў якім разе напалохаць
Не хацела б, дружа мой, цябе…
Мне няма куды падзець пяшчоту,
Патанаю стомлена ў журбе.
Ўсё растрачана. Табе не дзіўна?
Разумею, дзіўна. Зноў ён, боль…
Я ж зусім дарослая жанчына!
Але ты… чакаць сябе дазволь.
Я заўсёды некага чакала!
Да чагось да шчасця не стае,
Мне заўсёды нечага замала,
Зразумей… Дазволь чакаць сябе…

* * *

Іду шчаслівая,
як быццам імянінніца!
Усмешцы сёння з вуснаў –
не сысці…
Вітаю незнаёмцаў –
тыя дзівяцца:
“Як лёгка ёй ідзецца
па жыцці!”

* * *

О, адкажыце мне,
ці будзе ноч?
Ці прыйдзе сон,
што на мяне забыўся.
Ды ў святле ліхтарным
мрояй растварыўся?
Як прагне цішы
веяў маіх млоч!..

* * *

Ціхі смех твой,
мой сум недарэчны,
Дзень зялёны ў высокім акне…
Мо на год –
да наступнай сустрэчы –
Хопіць тых
успамінаў мне.

* * *

За цябе шчэ не малюся,
Толькі й да таго –
нядоўга.
Дзень за днём
сплывае ў скрусе,
Не канчаецца
дарога.
Не канчаецца расстанне
(Хоць канца яго – баюся!).
Скрыжаванні,
хваляванні…
Гэты шлях бясконцы,
мусіць…

* * *

Я жыву сярод
птушак і вершаў,
Сярод пёраў,
пялёсткаў і ветру…
І даўно сабе не належу –
Я свая толькі вершам –
і нетрам.
Пушчанскім нетрам.

## Сумнеў

А я пішу ці не пішу?
Бо рэдка, мо, за тыдзень раз
Раджае думка колькі фраз,
Сагрэтых іскрай паэтычнай…
Дарэмна рву сабе душу!
Здаецца, без мяне, без нас
Праходзіць самы лепшы час
І зорыць – міма – іранічна.
Відаць, усё-ткі не пішу…
Хоць тысячу, мільён разоў
Я марыла ізноў, ізноў
Пра волі час філасафічны…
Без вершаў крылы я складу!
Эх, кінуць побыт хоць бы раз
І даць нырца, як вадалаз,
У вір Паэзіі лірычны…
Але што гэта – я пішу?
Я перапынку папрашу
Ў жыцця – і узніму настрой,
Па-над стамлёнаю сабой
Ўзнімуся вежаю гатычнай!..
Трывай, душа, цярпі, душа,
І вершаў хоць бы з паўкаша,
Быццам грыбоў грыбной парой
Пакінь, пакінь… У вырай свой
Не адлятай навек, хранічна…
Жыві, душа,
пішы, душа…

* * *

Падарожжа не канчаецца
Пакуль
Мы бачым сны аб ім…
О, я ніколі не вярнуся
З Персіі чароўнай!..



# Алена
# РУЖ





*Нарадзілася 5 сакавіка 1971 года ў горадзе Слоніме. Вучылася ў школах № 10 і № 3, скончыла СПТВ-129. Працавала на камвольна-прадзільнай фабрыцы ў родным горадзе. У 1992 годдзе завочна скончыла Мінскі тэхнікум лёгкай прамысловасці. Была супрацоўнікам рэдакцыі газеты «Слонімскі веснік». Зараз працуе ў Слонімскім ГУП ЖКГ.*

*Піша на рускай і беларускай мовах. Друкавалася ў рэспубліканскіх выданнях. Сябра літаратурнага аб'яднання імя Анатоля Іверса, створанага пры газеце «Слонімскі веснік», у якой вядзе паэтычную старонку «Літаратурнае кафэ».*

## Мой горад

Мой горад, ад'язджаю ад цябе…
Мой ціхі сум у парку застанецца,
А ў сэрцы адчуванне адаб'ецца,
Што не пазнаю новую сябе.
У горадзе ўсё было маім:
Туман танюткім шалікам агорне,
Заззяе ў цемрачы ліхтарык зорны, –
Ці гэта я ўсё марыла аб тым?
Мой горад, ад'язджаю ад цябе
Не па прымусу, але ж трэба ехаць:
Па-іншаму сябе былую зведаць
І нават новую спазнаць сябе.

* * *

О, Слонім восеньскай парою!
Туман бялюткі над ракою
плыве, а ў старажытным парку
шукае хтось сваю каханку…
О, Слонім восеньскай парою!

* * *

Ці проста гэта – зноўку пакахаць,
Калі душа забыла на цвіценне,
І кветак найшыкоўныя адценні
Ці трэба на той глебе аднаўляць?
Няпроста ў тым садзе працаваць,
пусцілі крыўды доўгія карэнні,
Я роспаччу аплачваю сумненні,
Мінулае не хоча адпускаць.
А ўсё ж такі душы, як і зямлі,
Патрэбна ачышчальнае гавенне.
Пасля глытка гаючай чысціні
Хтось прынясе чаканае збавенне…
Каханнем мушу сэрца ратаваць,
Але мінуламу павінна даравць.

## Папараць-кветка

– Дай, дзяўчо, далоньку
хлопцу маладому!..
То Іван Купала
кліча цябе з дому.
Марамі вяночкі
паплывуць па Шчары,
зацвіце зноў кветка
ў лясным абшары.
Таямніца сцежкі
вас абодвух маніць,
а ў лесе водар
галаву дурманіць.
Шчасце адшукайце
з тою чырвань-кветкай,
на вяселлі вашым
месяц будзе сведкай.

* * *

Сустрэліся на вузенькай сцяжынцы, –
відаць на ўсё была свая пара:
мінуламу застацца на галінцы.
Глядзі – над намі новая зара.
З нябёсаў сонца шчыра пралілося,
цяплом раптоўным адарыла нас.
Невыказальна-мройнае збылося
у гэтым месцы і ў гэты час.

* * *

Узгадала нашую сустрэчу…
Які быў час – вясна ішла!
Гулі званом, бы векавечным,
лясы ля нашага жытла.
Яны звінелі маразамі
ўначы, а човен Сонца плыў
па Іслачы і ў гэтым храме
святлом выратавальным быў…
Ці ўспомняць сосны маладыя,
калі старэць ім прыйдзе час,
як срэбрам вэлюма накрылі
мяне і павянчалі нас.
І рэчка музыкай ліецца
праз той бярвенчаты масток,
вясновыя чакаць сустрэчы
на ім наканаваў сам Бог.

* * *

Зноў садоў вішнёвыя сумёты
дорыць гораду пяшчотны май.
Цёплы ветрык – подых асалоды –
праз гады, каханы мой, згадай.
Ў паўсядзённым віхуры
гаротным
можа стаць вясельны каравай.
Шчасцю нашаму не ведаць слоты,
мой музыка, для мяне сыграй!
І стамлёны ад маёй пяшчоты,
ты ласкавых рук не адхіляй,
тых пачуццяў вершаваных ноты
ў сэрцы закаханым затрымай.

* * *

Пераблытаў вецер на стале
вершаў недапісаных старонкі.
Разабраць мазаіку гамонкі
ці сама адолею, ці не?
Тонкая маршчынка на чале.
сэрца зацягнулася ад стромкі.
Голас птушкі нечакана-звонкі,
нібы гімн сустрэчы па вясне.
Усё сыходзіць, як апошні снег,
усё, што не хацелася аставіць.
Хіба ж можна дрэннае паправіць?
Толькі на паперы ці ў сне.

* * *

Я марыла, пакуль была зіма,
аб лёгкім, нібы воблака, адзенні
і зеляно-раслінавых адценняў
уборы прымярала недарма.
Прыйшла пара –
і вершамі звініць,
здаецца прыгажосць наўкол
бясконца!..
У ручаях збіраю промні сонца,
каб іх свайму каханню падарыць.
Хто абяцаў каханне? – Веснавей.
Хто быў пяшчотным,
цёплым і ласкавым?
Хто подых на шчацэ маёй аставіў?
Даўгачаканы любы Веснавей.
О госцейка-зіма, ты мне даруй:
размоў па-над вячоркам ціхім –
досыць.
Належу я таму, хто стаў мне лёсам.
О, Веснавей, цалуй мяне, цалуй.

## Паэзія

Ратавала сябе – у вершах,
варажыла сабе – у думках:
будавала сабе вежу,
дзе знайшла сабе паратунак.
Словы… Словы… –
Маё натхненне
і жыццё пад прымусам болю,
не знайсці мне ад вас збавення,
вы і шчасце маё,
і няволя.

## Яўген
## БАРЫШНІКАЎ





*Нарадзіўся 21 лістапада 1983 года ў Слоніме. Дызайнер і франтэнд-распрацоўшчык, дудар і даследчык беларускай дуды, удзельнік і арганізатар шматлікіх культурніцкіх праектаў, аўтар і выканаўца ўласных песень. Лаўрэат шэрагу фестываляў аўтарскай песні ў Беларусі і па-за яе межамі. Уладальнік Гран-пры фестывалю беларускай бардаўскай і аўтарскай песні "Бардаўская восень" (Польшча, 2010). Сябра Студэнцкага этнаграфічнага таварыства, куратар Беларускага дударскага клуба.*

*Жыве ў Мінску.*

# Маці-ваўчыца

Супакойся, маці-ваўчыца,
я не вораг табе, хоць і не сябра,
я ўсяго толькі той, хто не можа забыцца,
як дрыжаць свечкі зорак і нашыя цені юраць між дубоў-кандэлябраў,
як сплятаюцца ў цемры навобмацак пальцы галінаў,
выгінаюцца стогнучы комлі, спадае кара беспрымусна
не забыць асалоды, што воскам гарачым сцякае па спіне
й смак салёнага соку пунцовых надкусаных вуснаў
і як потым зрастаюцца стволлі, дубеюць і сохнуць надзеі,
патанаюць у вязкай жывіцы хвіліны, гады й летуценні,
гасне вогнішча ўшчэнт, камянее адзенне
і світанак штораніцы промнямі вострымі рубіць змарнелыя цені...
супакойся, маці-ваўчыца,
я не сябра табе, хаця і не вораг
я прыйшоў не за тым, каб сварыцца,
не за тым, каб табе дакучаць, што ўспамінамі хворы
так, я доўга шукаў цябе ў пушчах амшэлых,
у чаратах і туманных лагчынах,
у непралазных гушчарах гукаў ашалела,
слухаў хрыплага рэха адказ і мінулага грыз мерцьвячыну
і тады я схацеў свет убачыць тваімі вачыма
і зашыўся ў ваўчыную шкуру,
і рабіў усё тое, што калісьці лічыў намагчымым:
перакрочваў межы, адольваў муры і кружыўся ў пыльных віхурах,
у чорным блёкаце, ягадах воўчых шукаўшы быў сілы,
на вяршыні ўздымаўся, спускаўся ў морак сутонны,
і куляўся праз нож у скрываўленым спіле альшыны,
і каціўся і падаў да самых таемных і цёмных звярыных прадонняў,
каб адведаць на ўласнае шкуры й пабачыць нажыва,
бо ваўчыныя жоўтыя вочы ўначы не падманеш...
і ляцелі за мной у чаканні нажывы

крумкачы, лічачы, што я выйшаўшы на паляванне
плыў па рэках падземных, штоночы праводзячы сонца,
адкрываў брамы змеям, услых называўшы імёны,
срэбным аверсам поўні і дымам салодкім мяне надзіў сон-цар
і распустаю поўныя знакі ў царыцаў начных на рамёнах
павуціннямі сцежак нябачных, як павук да ахвяры,
прабіраўся па снежных слядох ды па знаках на бруку,
прагна новыя пахі ўбіраў, выдыхаючы пару,
біруком-адзіночкай спазнаўшы жывёльную гэту навуку
і вось так я аднойчы пачуў пах знаёмы і выйшаў на логва
там сабакі тваё змардаванае цела ірвалі,
і згрызалі кару пад брахлівыя брыдкія словы,
а зязюля начная крыламі іх твары хавала
а на досвітку бачыў, як ноч ты старанна змывала ў росах:
ўсё нібыта такая ж, ды толькі паболела шнараў,
позірк стомлены, след ланцуга ды абрэзаны косы…
ты й раней не заўсёды ўдала свае абірала мары.
супакойся ж, маці-ваўчыца, паслухай, дай веры:
я не сябра табе і не вораг — мне гэтага мала
я ўсяго толькі той, хто дагэтуль больш страшны за звера
ты ўсяго толькі тая, кім я не хацеў, далібог не хацеў, каб ты стала
і таму я стаю прад табою,
шкуру скінуўшы ў стылае шэрані
я прыйшоў сюды — для двубою,
сэрцам шчырым на пашчу ашчэраную
бо няма іншай зброі ў мяне, апроч шуму кашэчага кроку,
рыбаў подыху, камня карэння ды гэтае песні
і няхай твае жоўтыя вочы абвыкліся ў змроку,
я хачу нагадаць, як грае між дрэваў сонечны дзень напрадвесні,
як узрываюцца свежай лістотай шурпатыя пальцы галінаў,
і бяжыць па пражылках жыццё, вырастае кара беспрымусна…
так, я ведаю: ў момант любы ты ўтопчаш усё ў гліну,
але й ты добра ведаеш смагу сухіх абяскроўленых вуснаў
так што вось табе сэрца маё на далоні,
майго слова жывога пуцяводная ніць
вось кашуля мая, каб прыкрыць галізну,
як снягі прыкрываюць парэшткі дубоў
ці не досыць бадзяцца,
людзей смяшыць,
сабак дражніць?
хадзема дамоў
***
перад тым, як ізноў уцячы
у свой дзікі гушчар, маразамі дзе мроі звіняць,
каб забыцца альбо ачуняць,
ты падорыш мне сонца ўначы
і яшчэ
адно
ваўчаня.

# Даша БЯЛЬКЕВІЧ





*Даша Бялькевіч нарадзілася 30 студзеня 1993 года ў вёсцы Жыровічы Слонімскага раёна. Вучылася ў Слонімскай гімназіі № 1. Скончыла Беларускі дзяржаўны эканамічны ўніверсітэт у Мінску. Удзельніца фестывалю "Вершы на асфальце" у 2015-2017 гадах. Пераможца слэма "Сильное слово" (2014) і слэма Беларускага калегіюма (2015), суарганізатар і арганізатар розных паэтычных вечароў. Фіналістка беларуска-нямецкага конкурсу сучаснай паэзіі фонда Роберта Боша для маладых аўтараў (2017).*

*Жыве ў Мінску.*

## Цягнік

Тваё сэрца так гучна грукоча,
Што палохае тых, хто хоча
Прылегчы табе на грудзі.
Гэта быццам ляжыш на мосце,
А ўнізе праходзіць чыгунка,
Едзе цягнік – і гулкае рэха ад рэбраў.
Ні прытулку, ні паратунку...
Я прыхільніца музыкі твайго сэрца.
Сам ты яго слухаеш рэдка,
А яшчэ радзей – слухаешся.
Я б вельмі хацела стаць пасажырам
Гэтага цягніку:
Адсоўваць фіранкі, глядзець на дрэвы і сонца,
І ехаць далёка-далёка і доўга-доўга...
Я нават купіла квіток.
На жаль, у тваім цягніку няма дзвярэй,
Няма вокнаў,
Няма месцаў для пасажыраў.
Я па звычцы прыходжу на мост.
Дастаю з грудзей каменьчыкі
І шпурляю ўніз, на рэйкі,
Спрабую выкласці слова «вечнасць».
Праязджаючы пад мастом, ты заўжды мне сігналіш.
І з'язджаеш. Я застаюся.
Напэўна, цягнік не для таго, кааб ехаць у ім,
А для таго, кааб слухаць яго.

* * *

словы растуць з языка
раслінаю
палівай слінаю
навакол
каб акрамя квецені і лістоты
былі плады
сарві з языка.

## Рыба

студзеньскі ранак,
студзеньскі рынак:
ба, глядзі, рыба!
усё навокал было белай вадой.
на снезе ў сутаргах існавала жыццё:
рыба білася ў канвульсіях,
яе жабры рухаліся,
я бачыла: рыба крычала.
вусаты дзядзька засоўваў яе ў ліпкі пакет,
рыба выслізвала з чырвоных рук
мне ў вочы і маўкліва,
не міргаючы, памірала.
рыба выстуквала хвастом
апошняе пасланне свету.
рыскі на снезе – азбука Морзэ.
рыба плыла ў вырай,
дзе ўсе рыбы расказваюць,
як паміралі.
рыба білася аб снег,
рыба білася не на жыццё, а на смерць.
маё сэрца таксама білася.

* * *

Нас так многа, паветра так мала,
Кожны тут — герой  Калевалы
І актор чацвёртага плана
Аматарскага серыяла.
Нас так многа, нам разам так цесна,
Пакаштуй — мы з рознага цеста,
У духоўцы ўсім хопіць месца,
Нехта не ўздымецца, нехта спячэцца.
Жывыя жадаюць дакрануцца да мёртвых,
Жывыя заўжды такія ўпёртыя.
Мёртвыя прагнуць крanання жывых —
Скупога маўчання пры згадцы абіх...

Выносілі труны пад спевы рунаў,
Клалі ружы, узводзілі ў неба ружжы...
Са стала жалобнага піражок
Стрыечная цётка схавала ў мяшок.
Паволі паветра становіцца шмат:
Колькасць нас адлічваецца назад.

* * *

паслізнулася
свет падае ўверх
лічу да трох
пры-ступ-кі
лесвіца пазванкоў цэлая
джынсы ў мокрым брудзе
лужына
вось для чаго яна тут
аблокі складаюцца
ў вясёлы смайлік
неба таксама бачыла
як я ляцела

* * *

Не пішу пра каханне:
Яно — мярцвяк,
Пра яго альбо добра,
Альбо ніяк.

## Пара-сон

Я ведаю кожную ноту
Тваёй адзіноты.
Адзінота аднолькавая ва ўсіх.
Я ведаю ўсе эшафоты
Тваёй самоты.
Самота сціскае горла, паветра няма зусім.
Раскладаем партыю на галасы,
Хаця прыгожа спяваем ва ўнісон.
Я даслухаю тваё сола
І сыду пад дождж, пакінуўшы парасон.
Прабач: мы не разам, мы поруч,
Параза і горыч,
Па-за часам, прасторай, усюды — нідзе...
Твае вочы палаюць,
А я — каралева залеваў,
І агонь адбіваецца ў вадзе.

* * *

Пыл пад ложкам захоўвае сны.
Кожны раз, калі ты мне снішся,
Я мыю падлогу.

* * *

Незавершанасць падзеяў жыцця — гэта яго празаічнасць,
Усе тлумачаць, маўляў, год жабы ў высакосны:
Размовы высокія, пытанні ўскосныя, коскі (закрэслена) косткі.
Ангар памяці перапоўнены разбітымі самалётамі:
Трэба будаваць іншы і быць асцярожнай на паваротах.
Шкада, што нельга здаць у ламбард лішнія ўспаміны,
За гэтыя грошы я б даўно купіла новенькую машыну.
А пакуль на працы прэмія, і я ўсё больш размаўляю цытатамі,
І сама ўвечары дапіваю ранішнюю гарбату,
І цяжарная толькі вершамі,
Спадзяюся, атрымаецца вынасіць і ніхто не памрэ падчас родаў...
А гэты верш хай застанецца незавершаным,
Як сімвал мінулага высакоснага года.

## Падарункі

Што рабіць з падарункамі
Ад мужчыны, які ажаніўся з іншай жанчынай?
Спачатку вяселле, пасля наваселле,
Гадавіна шлюбу, дзіця нараджэнне...
А я... Сяджу на падлозе
І перабіраю падораныя табой рэчы.
Рэчы – сустрэчы.
У рэчах – пустэча,
І без рэчаў – пустэча.
Дык што рабіць з падарункамі?
Выкінуць?
Дык што рабіць з сабою?
Выкінуць?
У цябе свая вера, у мяне свая.
Толькі прашу, не насі шэры,
Шэры табе не пасуе.
У астатнім у цябе бездакорны густ,
Асабліва на ўпрыгожванні:
На брошкі, музыку, камплiменты
І МУЗ.

## 3 у 1

Плацкарта, ніжняе, адзінаццаць,
Мінск-Горадня, рэзэрвацыя
Заходнікаў панаехаўшых,
Прывыклых жыць на мяжы.
П’еш з кубачка запарожскага
Святую каву дарожную,
Праз Нёман глядзіш на замець,
Рака разразае памяць...
Скоры цягнік пяе рэквіем
Скора найкропцы «эм».
Мара зусім не спраўдзілася,
Не, не зусім – «саўсем».
Цэнтральная затхласць здаецца
Мясцоваму скразняку... сэрцам,
Дзе ў дарозе ты быў?
Туманнасць і зорны пыл.
Перадузятасць і пыха
На століку недачытАна,
Давайце выйдзем падыхаць –
Нярвовы зрыў у стопкрана.



# Крысціна КАНАНОВІЧ





*Нарадзілася 5 жнійня 2004 года ў вёсцы Пятралевічы Слонімскага раёна. Вучыцца ў 9 класе Слонімскай СШ № 10. Займала прызавыя месцы ў школьных раённых алімпіядах па беларускай мове, у конкурсах чытальнікаў і ў паэтычных конкурсах.*

*Жыве ў Слоніме.*

## Родная мова

Родная мова – мова бабулі,
Чыю калыханку ў маленстве пачулі.

Родная мова – мова матулі,
Яна і суцешыць, да сэрца прытуліць.

Родная мова – мова бацькоў,
Каб шанавалі памяць дзядоў.

Родная мова – мова Радзімы,
Каб назаўсёды застацца адзінымі!

## Кропелька

Кропелькі крыштальнае расы
Напаілі птушак галасы.

Сонечныя кропелькі расы
Запляталі дрэвам валасы.

Ад празрыстай жнівеньскай расы
Важка гнуцца ў полі каласы.

* * *

Дзе была узарваная глеба –
Паднялося калоссе хлеба,
Каб квітнеў родны край багата –
Паляглі на вайне салдаты.

Дзе калісьці грымелі гарматы,
Ў паднябессе ляцяць птушаняты…
За цяжкія змаганні народа,
Мір – галоўная узнагарода.

* * *

Маленства – як сонца,
Як радасць і ўсмешка.
Юнацтва – вяршыня,
Жыццёвая спешка.

Вось сталасць – аснова,
Фундамент і сіла.
А старасць – то мудрасць,
Што скроні ссівіла.

## Гадаванец

Мы гадуем шчанюка
Рыжанькага камяка.

Мы гадуем шчанюка
Лежабоку-лайдака.

Мы гадуем шчанюка –
Наліваем малака.

Пі, сабачка, падрастай,
І са школы нас чакай.

## Развітанне з летам

Летнія дзянёчкі
Хутка прабягалі,
Жнівеньскія ночкі
Туманы збіралі.

Ранішнія зоркі
Ў небе раставалі.
А буслоў кліночкі
Ў вырай адляталі.

## Дар'я
## РАМАНІНА





*Нарадзілася 20 студзеня 2004 года ў вёсцы Азярніца Слонімскага раёна. Вучыцца ў Азярніцкай сярэдняй школе.*
*У альманаху друкуецца ўпершыню.*

### Я і восень

У жыцці не бывае дробязяў,
Ёсць світанне і ёсць акно,
І так добра бывае восенню,
Калі восень з табой задно.

Выйду ў ціхі лясок паслухаць,
Як асіна адна дрыжыць...
І так добра восенню думаць,
І так добра восенню жыць.

Пасвятлеюць лясныя сцежачкі,
І душа пасвятлее мая...
І напішуцца шчырыя вершычкі,
Ад якіх падабрэю і я.

### Чалавеку патрэбен чалавек

Чалавеку патрэбен чалавек,
Каб марыць, верыць, любіць,
Каб на гэтым шчаслівым свеце
Было з ім пра што гаварыць.

Каб у думках ён быў пастаянна, –
Перажываць і пытацца,
Ці еў ён там, ці спаў ён,
Ці хоча са мной пасмяяцца…

Наша жыццё – імгненне,
Як плынь імклівых рэк…
Зразумейце, людзі, зразумейце –
Чалавеку патрэбен чалавек.



## Кандрат ЛЕЙКА (1860-1921)





*Нарадзіўся 17 верасня 1860 года ў вёсцы Збочна на Слонімшчыне ў беднай сялянскай сям'і. Скончыў Свіслацкую настаўніцкую семінарыю. Працаваў настаўнікам у мястэчку Косава. З 1884 года жыў на Украіне. Быў дырэктарам Харкаўскага вучылішча для сляпых дзяцей.*

*У 1893 годзе ў Харкаве выдаў сваю першую кнігу на рускай мове "Руская азбука. Учебник родной грамоты для классного и домашнего употребления". Супрацоўнічаў з беларускай газетай "Наша ніва" у Вільні. Актыўна з 1911 года там друкуецца. У 1912 годзе ў Вільні выходзіць асобнай кніжачкай яго п'еса "Снатворны мак". Яна паклала пачатак беларускай нацыянальнай драматургіі для дзяцей. У 2015 годзе Сяргей Чыгрын падрыхтаваў і выдаў кніжку твораў Кандрата Лейкі " Пан Трудоўскі" (Мінск. "Кнігазбор").*

*У апошнія гады жыцця жыў і памёр у горадзе Здалбунаў Ровенскай вобласці (Украіна).*

## Ганулька

— Ты ж ведай, — тлумачыў бацька свайму сыну Рыгору, — Ганулька табе не пара. Агонь з ядлаўцом не ўжываюцца. Глядзі, каб не зрабіў абмылка, бо абмылак у жаніцьбе – гэта засмарга на горла.

— Або Ганулька, або ніхто, — адрэзаў сын.

— Ну, няхай будзе, як ты хочаш, — згадзіўся стары, — глядзі толькі, як выйдзе што кепско, каб не карыў бацькоў.

На другі дзень пад вечар Янка Бядак з жонкаю сваёю сядзелі ў хаце. Ганулька мясіла ў дзяжы цеста. У гэты час адчыніліся дзверы і ў хату ўвайшоў Якім Снопка, з баханчыкам хлеба пад пахаю і бутэлькаю гарэлкі ў руках.

— Пахвалёны, — сказаў Якім, знімаючы з галавы пляскатую як блінец шапку.—Ці жывы, ці здаровы?

— Жывем памаленьку, — адказаў Янка. – Як вас там Бог мілуе?

— Нічога, да пары цягаемся сяк-так, дзякуй Богу, — адказаў Якім.

— Што скажаш нам, Якімко? – спыталася гаспадыня, зацікавіўшыся тым, што бачыла ў руках.

Якім паставіў на стол бутэльку, паклаў хлеб дый кажа:

— Я сват прысланы,
Каб быў стол засланы.
Прыйшоў я па тую кветку,
Што бачыў на полі ўлетку.
Кветка тая – крулёўна
Ваша Ганулька шаноўна!

– За каго ж, Якімко, ты сваташ нашу дачку? – спыталася маці.

– За Рыгора Табарчука, — адказаў сват.

– За Рыгора! – жахнулася Бедачыха. — Не можа быць. Тут мусіць абмылак які. Ці ж гэдакі багач захоча з намі радніцца?

– Мусіць захацеў, калі заслаў да вас свата і сказаў, каб не варочаўся дадому, покі не даб'юся ад вас слова, якое яму трэба мець. Дый што аб гэтым талкаваць. Вы адкрыта скажыце: згодны аддаць за Рыгора сваю дачку ці не. Я лішне мовы не люблю, — не першы раз сватам.

– Чаго ж не згодны, — адказаў бацька. – З мілаю душою аддамо.

– Лепшага зяцька нам і не трэба, — дадала маці.

– Ну, дык цяпер вып'ем за здароўе і шчасце маладых, — сказаў сват і пачаў наліваць у чаркі гарэлку.

Выпілі па адной, потым па другой, закусілі хлебам з соллю. Вот маці, павярнуўшыся дачкі, і кажа:

– Мы цябе, дачка, запіваем за Рыгора Табарчука, дык пайдзі ў камору, вазьмі там чырвоную стужку і павяжы сватаву бутэльку, як звычай патрабуе таго.

Ганулька накрыла дзяжу, абмыла рукі і, падышоўшы да стала, адрэзала:

– Слухайце, бацька ды маці і ты, дзядзька Якім, я за Рыгора замуж не пайду. Лепей зарэжуся альбо павешуся, а жонкаю гэдакага дурня не буду.

Сказаўшы гэта, Ганулька грукнула дзвярамі і выйшла ва двор.

– Ты, Якімко, не звяртай увагі на тое, што напляла дачка мая. Ведама, яна яшчэ маладая, не можа сцікаваць усяго як след дык і фанабэрыцца.

– Нічога, – адказаў Якім, – я дзявоцкую натуру добра ведаю, — не першы раз сватам. Яны заўсёды спярша брыкаюцца, а потым здаюцца і становяцца мяккімі, хоць вяроўкі з іх ві.

– Не яе воля, – сказаў бацька, – за каго захочам, за таго і пойдзе!

– Яно праўда, – аказалася зноў маці, – гаворачы, Якімко, паміж нас, Рыгор Ганульцы нашай не пара: ён і сабою няздольны, і ў галаве, як кажуць людзі, недахват, але што зробіш. Недастаткі нашы...

– Якія вы дзіўныя людзі, –перабіў Якім. – Ну, няхай сабе Рыгор дурань, што вам гэтага? На што вам яго розум? У бацькі Рыгоравага закопана тры скрыні чырвонцаў. Усё гэта па смерці старога дастанецца Рыгору, — от дзе хундамант, а на іншае што напляваць: з гаспадаркаю ўправіцца як найлепей сама Ганулька. Я ўсё гэта добра ведаю, – не першы раз сватам.

– Матку-праўду сват сказаў, – падцвердзіў бацька і дадаў. – Ну, старая, прынясі стужку і закваці бутэльку. Хай іх Бог благаславіць.

Бедачыха прынесла з каморы стужку і павязала на сватаву бутэльку.

– Божа, пашлі ім шчасце і найлепшую долю! – сказала маці, засоўваючы пляжку свату за пазуху. Якім разгладзіў далонем бараду, пажагнаўся з гаспадаром і гаспадыняю і, злажыўшы на галаву шапку, стаў выходзіць з хаты.

– Скажы, сваток, – прасіла Бедачыха Якіма, – Рыгору і яго бацькам, што мы дзякуем за гонар, што Ганулька вельмі жадае выйсці замуж за Рыгора.

– Не вучы мяне, кабетка, я сам добра ведаю, што мне трэба сказаць, – не першы раз сватам, – адказаў Якім і выйшаў з хаты.

Як толькі пасля адыходу свата Ганулька вярнулася ў хату, бацькі зараз прыняліся яе вучыць і настаўляць на розум.

– Якая ты, Ганулька, дурная, – уразумляла маці, – такія важныя людзі заслалі свата, а ты не звяртаеш ніякое ўвагі, дый мала таго, яшчэ напляла глупства, асароміла сваіх бацькоў. Хто гэдак робіць?

– Гэдак робяць тыя, якіх бацькі насілам выдаюць замуж за нялюбых, – адрэзала дачка.

* * *

Ганулька аб нечым размаўляла з дружкамі.

– Пара, доньку, ехаць да цэркві, – сказала маці Ганульцы, – выходзь з-за стала.

– Добра, матухна, еду, – адказала Ганулька і выйшла з покуця на сярэдзіну хаты. Каля яе поруч стаялі дружкі, а наперадзе маленькі брацік трымаў у руках абразок, якім бацькі павінны былі благаславіць дачку, адпраўляючы да шлюбу.

– Ну, – сказала старшая дружка, – выходзьма.

– Зараз, сястронка, – сказала Ганулька, – падай толькі мне чарку.

Дружка падала чарку. Ганулька дастала з-за пазухі бутэлечку з нейкаю жоўтаю настойкай, наліла ў чарку і як бачыш выпіла, а бутэлечку кінула пад печ.

– Перад шлюбам нешта п’е, – спалохаліся жанкі, якія былі ў хаце.

– Ці ж гэта можна? Ці не атруту якую выпіла! – ускрыкнула маці.

– Не палохайся, матка, нічога страшнага тут няма, –усё робіцца як трэба, – разважала маладая. – Я выпіла добрае настоечкі, бо сёння апошнія перад шлюбам мае запоіны.

Радасны настрой у гасцей упаў, усе чакалі нечага нядобрага. Бацькі стаялі як у ваду апушчаныя.

– Гэй, музыка! – раптам ускрыкнула Ганулька, – грай вясёлую, каб аж дух захватвала, буду скакаць, бо надта рада, што аддаюць замуж за багатага! Ну!..

Музыка зайграла. Ганулька, узяўшыся ў бокі, пусцілася па хаце выробляць усялякія выкрунтасы спяваючы:

— Мяне замуж выдаюць,
За чырвонцы прадаюць,
Вянчаць хочуць з касавокім,
Гнілым дурнем крывабокім.
Хутчэй, маці, на пагубу
Выпраўляй мяне да шлюбу...
Не, матуся, я не здамся,
За чырвонцы не прадамся.
Лепей жыцця я рашуся,
Чым з нялюбым абнімуся.
Грай, музыка, рэж да ладу,
Буду скакаць, покі ўпаду.
Мы, дзяўчаты, ніц не варты,
Наша жыццё – адны жарты.

Дайшоўшы скокамі да дзвярэй, Ганулька ўздыхнула і ўпала, як зрэзаная сярпом кветка.

*1912 г.*

# Лес шуміць...

Шуміць цёмны, густы лес, шуміць і дзень, і ноч без перастанку, заўсёды на адзін лад. Хмурныя хвоі, задумаўшыся, памаленьку ківаюць сваімі калматымі галовамі і ціха-ціха аб нечым паміж сабою шэпчуцца і, здаецца, што яны адна другой пераказваюць нешта вялікае, таёмнае. І гэтым іх ціхім, таёмным шаптаннем напоўнены ўвесь лес і ўся яго бязмерная шыр. Калі некалі па-над лесам праляціць віхар, лес задрыжыць, затрашчыць, загудзе і тагды здаецца, што ў ім свішча, раве і галосіць незлічоная сіла дзікіх звяроў ды птахаў. А як заціхне віхар, у лесе зноў пануе адзін хвойны шопат. І гэтак усякі дзень і ўсяку ноч ад самае прадвечнасці.

Без звычкі жыць у лесе надта нудна. Але хто звыкся, той жыве сабе сяк-так, пакуль не надарыцца якое бяды, або пан Бог не пашле смерці.

У лесе на палянцы, ацененая старымі калматымі хвоямі стаіць убогая хатка, заваленая, як цукар, снегам да самае страхі. У гэтай хатцы дажывае свій век стары ляснік. Максім ледзьве-ледзьве ходзіць. Ён даўно пакінуў служыці і перадаў лясніцтва свайму сыну Пятрусю, што са сваёй сям'ёй жыве цяпер у дваццаці мілях ад бацькі.

Сядзіць Максім сабе ў сваёй хатцы і, схіліўшы на грудзі сівую галаву, прыслухоўваецца, як шуміць лес. Божа вялікі, як ужо даўно ён слухае гэты ціхі таёмны шум. Лесавы шум быў першаю песняю над яго калыскаю. Гэты шум праводзіў яго да шлюбу, як ён ехаў туды са сваёй Таклюсяю. Гэты ж шум будзе да скачнэння веку гусці пад-над яго магілай, як ляжа ў сырую зямлю. І як ён любіць гэту жалобную лесавую музыку! З якім чуццём і ўпоем ён слухае яе цягучы напеў.

— Ах, Таклюся, як сягоння, бач, складана шуміць лес, — кажа Максім, абярнуўшыся да сваёй жонкі, якая нагнуўшыся мыла начоўкі каля печы. — Здаецца, цэлы век, бач, слухаў бы...

— Не, Максімка, сёння лес, моўлю, шуміць нядобра, — адазвалася Таклюся, павярнуўшыся да старога сваім зморшчаным, як печаны грыб, тварам. — Я, лежачы на прыпеку, гэтак, як і ты, прыслухоўвалася, і мне пачулася, моўлю, што ў цемры лесу, нешта надта страшна гудзела. У мяне ад страху, моўлю, аж мурашкі па целу папаўзлі. Ох, нядобра, моўлю, сёння шуміць лес...

— Ведам, — адказаў Максім жонцы, — што ты, бач, баязліва як заяц, ды ў цябе і слух, бач, не лепшы, як у глушца якога. Ты птушынага піску, бач, не распазнаеш ад скрыпу дрэва. Можа вецер зашумеў, бач, пад акном, а табе паказалася, бач, Бог ведае што.

— От мне Бог даў, бач, добры слух, — далей гаварыў Максім, — за мілю магу распазнаць, бач, на якім дрэве сук трэсне. Ці ведаеш ты, Таклюсю, што ўсякае дрэва мае, бач, свій асобны звяк, і па гэтых звяках я магу, бач, разлічаць Божыя дрэвы, як знаёмых людзей па голасе. Дальбо праўда. Скажу больш, па звязку і скрыпу дрэва я табе, бач, гадаю колькі да яго будзе крокаў. От што...

— Ну, ну, растрашчаўся, моўлю, як сыры ядловец у печы, — перабіла жонка лясніка, — пара перастаці малоць дарма языком.

Максім замаўчаў і, схіліўшы на грудзі сівую галаву, зноў стаў слухаць лесавы шум. А лес без перастанку ўсё цягнуў сваю нудную песню.

— Што гэта доўга няма нашага Петруся? — загаварыла жонка леснікова, прарваўшы маўчанку, — даваў слова, што сёння прыедзе.

Ляснік падняў галаву, працёр кулаком свае мутныя вочы і, паглядзеўшы ў вакно, сказаў:

— Яшчэ рана, як добра змеркнеццца, тагды і прыедзе.

— Ах, каб Бог даў барджэй прыехаў, мне моўлю надта хочацца пабачыць унучку Альжбетку. Я цікаўлю, што ён з ёю прыедзе.

— А як жэ, ведама, з ёю ды з жонкаю. А ты, бабуся, не траць, бач, дарма часу, зачынай пекчы блінцы, трэба будзе дзетак, бач, пачаставаць, чым Бог паслаў. Сягоння, бач, памінальніца, ці, як кажуць маскалі, масляніца, дык без блінцоў ды масла абыйсціся няможна.

— У мяне ўжо ўсё гатова, — адказала жонка, — ось, моўлю, затаплю адно печ і зараз буду пекчы. А ты, Максім, моўлю, запалі лучыну, бо ўжо цёмна.

Ляснік чыркнуў сернічак, запаліў доўгую, шырокую лучыну і ўставіў яе ў святляк. Таклюся затапіла печ ды, памяшаўшы цеста, пачала пячы блінцы. Пасядзеўшы трошкі, Максім расаслаў на лаві свій кудлаты кажух і лёг адпачываць. У хаце было ціха, як у магіле. Калі-нікалі патрэсквала гарэўшая лучына, ды на прыпеку верашчала сала, як ім Таклюся мазала гарачую патэльню.

Раптам недзе далёка-далёка штось нібы загуло. Максім уздрыгнуў, падняў галаву і стаў прыслухоўвацца…

— Чуеш? — загаварыў ён да жонкі.

— Што, едуць?..

— Дурману ты, бач, наелася ці што, слухай лепш…

Бабуся прыліпла вухам да сцяны і пачала слухаць.

— Хоць забі мяне, моўлю, нічога не чую…

— Выюць, бач чуеш?..

Бабуся задрыжала, як падстрэленая птушка і стала яшчэ лепш прыслухоўвацца. Выццё ўсё блізілася і станавілася галаснейшым.

— Чую, чую, Максімка! Гэта, моўлю, выюць ваўкі, — дагадалася бабуся.

— А каму і быць, бач, як не ім, паганым, — сказаў Максім, — у памінальніцу яны заўсёды мандруюць, бач, па лесе цэлымі табунамі.

— Божа літасцівы, укрый, моўлю, нашых дзетак ад бяды, — уздыхнула цяжка бабуся, паглядаючы ў печ, дзе пякліся блінцы. Раптам выццё зразу парвалася і заціхла. Ляснік крэкчучы і стогнучы расцягнуўся на лаве і захроп. Праз чатыры або пяць хвілін зноў пачалося страшэннае, дзікае выццё і на гэты раз так блізка, што нават і Таклюся пачула яго без асаблівага высілку свайго мужа.

— Максімка, чуеш, моўлю, — крыкнула яна, спалохаўшыся, як не сваім голасам.

— Гэта яны ось тут недалёчка выюць, на палянцы, дзе расце, бач, паганая груша, — з трывогай гаварыў ляснік, уставаючы з лавы. У гэту хвілю ў лесе загудзеў выстрал, адзін, потым другі…

— Ой, Езу Марыя, прапалі, моўлю, нашы дзеткі! — плакала бабуся і слёзы, як боб каціліся адна за другою па яе хмарнаму, маршчыністаму твару.

— Здурэла ты, бач, Таклюся, ці што. Хіба наш Пятрусь, бач, не справіцца з ваўкамі. Першы раз ён спаткаўся з імі ці што? — суцяшаў Максім сваю палахлівую

жонку, але і сам дрыжаў ад страху, як асінавы ліст у непагоду.

Як раз у гэту пару на дварэ зарыпеў снег і пачуўся конскі храп. Ляснік ледзьве паспеў накінуць на плечы кажух і без шапкі папоўз на двор. Каля самюсенькіх варот храпелі і дрыжэлі Пятрусёвы коні з пустымі перакінутымі ўверх дном саньмі. Старога як абухам стукнула па галаве...

— Жонка! — закрычаў ён дзікім, як не сваім голасам, — няма іх, няма, бач нашых дзетак... Бяжэм, Таклюся, на паляну да праклятае грушы, яны , бач, там.

І стары ляснік шырока размахваючы рукамі, без шапкі пусціўся, колькі дазвалялі яго сілы, да праклятае грушы, дзе, як ён цікаваў, вылі ваўкі. За лесніком плачучы паўзла яго жонка.

— Сюды, сюды, — крычаў ляснік, задыхаючыся ў рыхлявым снезе. — Ось паляна, от, бач, і праклятая груша, — паказваў ён на крывое дрэва, што расло пры дарозе. — Тутака, бач, і шукай. Ой, Божа ж мой, кроў! От і кавалкі падзертае адзежы, ось і Петрусёва стрэльба, а вось валяецца і чаравічак Альжбеткі... Божа Найвышэйшы, за які ж грэх ты гэтак моцна пакараў нас!..

Лементаваў Максім і, як падбіты сноп, зваліўся на акрываўлены снег. Каля яго з боку, ламаючы рукі, білася ў снезе Таклюся...

Высока па-над лесам плыў задумаўшыся поўны месяц і сваім фосфарным праменем пасерабрыў і лес, і паляну, куды, пачуўшы свежую кроў, з шумам зляталіся начныя птушкі-кравапіўцы і сваім дзікім клёкатам заглушалі лямант лесніка і яго жонкі.

А лес, як перш, без перапынку ўсё шумеў сабе ды шумеў на адзін лад.

*1913 г.*



# Язэп ВІЛЬКОЎШЧЫК (1898-1984)





*Нарадзіўся 19 лістапада 1898 года ў вёсцы Гавенавічы Слонімскага павета (цяпер вёска Падгорная Баранавіцкага раёна). Вучыўся ў Казанскім медыцынскім інстытуце. Скончыў бухгалтарскія курсы ў Вільні. Жыў у Слоніме. Працаваў бухгалтарам на чыгуначнай станцыі Слонім, на Слонімскім лесазаводзе, у арцелі "Другпрам".*

*Першыя вершы і байкі апублікаваў у 1930-х гадах у віленскіх выданнях "Нёман", "Шлях моладзі", "Беларуская крыніца", "Хрысціянская думка", "Пралескі". У 2015 годзе Сяргей Ёрш і Сяргей Чыгрын сабралі і выдалі літаратурную спадчыну Язэпа Вількоўшчыка "Прыкрыты сэрца боль" (Мінск, "Кнігазбор").*

*Памёр 18 сакавіка 1984 года ў Слоніме, дзе і пахаваны.*

## Гістарычныя абразкі для дзяцей

### Гедымін

У цяжкую пару прыйшлося княжыць Гедыміну ў беларуска-літоўскім княстве. На маладое гаспадарства з усіх бакоў напіралі ворагі, а і само гаспадарства было яшчэ слабое. Гедымін бачыў гэта і, як мог, стараўся падняць край. Побач з неперарыўнымі войнамі будаваў Гедымін новыя крэпасці і апекаваўся местамі*, з якіх найбольш любіў Вільню, якая ад часу Гедыміна сталася сталіцаю беларуска-літоўскага княства.

Найбольш зацятую барацьбу вёў Гедымін з крыжаносцамі, якія штораз мацней ударалі на маладое гаспадарства. Ім ішла помач з Нямеччыны. Гедымін стойка адпіхаў іх напор і нязмучана сцярог сваё гаспадарства. У 1341 годзе ён у бітве з крыжаносцамі згінуў, аднак, пакуль жыў, ані на крок не ўпусціў ворагаў у сваю зямлю.

**Гарадамі.*

### Альгерд

Пасля Гедыміна ў вялікім літоўска-беларускім княстве княжылі Альгерд і Кейстут. Проціў Альгерда выступала тады маскоўскае княства, але Альгерд разбіў маскоўскае войска і прыступіў да здабыцця Масквы. Спалохаўшыся, маскоўскі князь прасіў міру. Альгерд згадзіўся, зламаў сваю піку аб маскоўскі мур і сказаў маскоўскаму князю: "Помні, што літоўская (Літвой тады звалася так жа і Беларусь) піка зламалася на сцяне Масквы".

Шчасліва Альгерд вёў барацьбу і з татарамі, адбіраючы ад іх землі ўкраінскія. Такім чынам літоўска-беларуска-ўкраінскае княства разцягвалася ад мора Чорнага да Балтыйскага і было наймагутнейшае на ўсходзе Еўропы. Думка аб гэтым полацкіх беларускіх князёў, асабліва Вялікага Усяслава, была здзейснена.

## Кейстут і Ягайла

У той час, калі Альгерд шчасліва вёў барацьбу з ворагамі беларуска-літоўскага княства на ўсходзе і паўдні, Кейстут зацята бараніў заходнія граніцы ад крыжакоў.

Горш сталася з беларуска-літоўскім княствам па смерці Альгерда, пасля якога пачаў княжыць Ягайла. Гэты выступіў супраць Кейстута. Распачалася хатняя* вайна.

Кейстут разбіў войска Ягайлы і яго самога забраў у палон, але калі Ягайла прысягнуў, што больш бунтавацца не будзе, Кейстут выпусціў яго на волю.

Ягайла аднак свайго не кінуў. Ён запрасіў Кейстута разам з яго сынам Вітаўтам у свой абоз, а калі гэтыя прыехалі, сказаў іх схапіць і адвясці ў Крэва ў замак, дзе Кейстута задушылі, а Вітаўт уцёк і павёў далей барацьбу супраць Ягайлы. Ягайла тады жэніцца з польскай каралевай Ядвігай і беларуска-літоўскае княства прылучае да Польшчы. Гэта было 550 гадоў таму.**

**Грамадзянская. — Гэтая і наступная заўвага ўкладальнікаў.*

***Гаворка ідзе пра Крэўскую унію 1385 года.*

## Вітаўт

Самастойнасць Вялікага Беларуска-Літоўскага Княства, хоць не ў цэласці, здалеў уратаваць яшчэ Вітаўт. Ён распачаў вайну з Ягайлам, які, пабачыўшы, што Вітаўта не пераможа, пагадзіўся з ім і аддаў яму Беларуска-Літоўскае Княства, а сам выехаў у Польшчу. Залежнасць аднак гэтага Княства ад Польшчы ўсё ж такі засталася.

Вітаўт быў добрым князем-гаспадаром. За яго часы Беларуска-Літоўскае Княства расцягвалася ад мора Чорнага аж да Балтыйскага. Усходняя граніца была ўсяго сто вёрст ад Масквы. Такім чынам у гэтым Княстве жылі тры народы: беларусы, літоўцы і украінцы. Кожны з гэтых народаў карыстаўся сваею моваю і сваімі правамі. Усе былі сабе роўныя.

У 1410 годзе Вітаўт разам з польскім войскам разбіў каля Грунвальду крыжакоў, найгоршага ворага Княства. Перамагчы рашуча дапамаглі беларускія смаленскія палкі. Перад смерцю Вітаўт хацеў яшчэ ўкаранавацца на караля і гэтым стацца зусім незалежным ад Польшчы, але перашкодзілі яму ў гэтым палякі, а ён сам хутка памёр.

## Беларуска-Літоўскае Княства пасля Вітаўта

Пасля Вітаўта княжыць у Беларуска-Літоўскім Княстве Свідрыгайла. Пачынаюцца цяпер сваркі паміж літоўцамі і беларусамі з аднаго боку, а каталікамі і праваслаўнымі з другога. Далучаецца яшчэ да гэтага спрэчка між беларусамі і палякамі за землі над ракой Бугам, якая хутка перамянілася ў вайну. Літоўскія паны сталі па баку палякаў, і Свідрыгайла быў выгнаны. Месца яго заняў Жыгімонт Кейстутавіч, якога хутка аднак забілі.

Князем абіраюць цяпер Казіміра, сына Ягайлы. Казімір стараўся, як мог, навесці ў Княстве лепшы парадак і палепшыць жыццё.

Хутка аднак палякі Казіміра выбіраюць сваім каралём. Хоць не хацеў гэтага Казімір, але абставіны прымусілі яго згадзіцца і ён выехаў у Польшчу. Бел-Літоўскае Княства засталося само сабе, а беларускія і літоўскія паны-шляхціцы што раз то больш узмацняліся.

*1937 г.*



# Уладзімір АЛЯХНОВІЧ





*Нарадзіўся ў 1938 годзе ў вёсцы Гуменікі Слонімскага раёна. Пасля школы вучыўся ў Маскве, там пачаў пісаць літаратурныя творы і друкавацца. Вярнуўся ў Мінск, працаваў журналістам, а таксама ў дзяржкамітэце Савета Міністраў Беларусі па друку. Напісаў і выдаў зборнікі вершаў і апавяданняў "Мора мечты" (1968), "Палескія навелы" (1970), "У Чамяроўскай пушчы" (1989) і іншыя.*

*У апошнія гады жыў у Мінску.*

## Першае каханне

Сям'я Шостакаў жыла тады ў невялікай вёсцы Гулічы, што стаяла за два кіламетры ад не шырокай, але маляўнічай рэчкі Ясенькі. У вёсцы налічвалася ўсяго каля дваццаці хат. Усе гуліцкія школьнікі былі маладзейшыя за Яўгена і вучыліся ў тамашняй пачатковай школе. Шостак жа — сямікласнік, таму хадзіў у школу ў мястэчка Азярцы. Гэта па другі бок рэчкі Ясенькі, туды кіламетры са два. З Гулічаў у Азярцы акрамя яго хадзіла яшчэ адна дзяўчынка — высокая танклявая Марылька Кранько, таксама сямікласніца. Вядома ж, Яўген сябраваў з ёю. У школе яны сядзелі за адной партай, канчаліся заняткі — разам ішлі дамоў. Па поўдні, зноў-такі ўдваіх, рыхтаваліся да ўрокаў. Улетку працавалі на сенажаці і ў полі, вечарамі гулялі ў лапту, зімою каталіся на лыжах і санках. І так было заўсёды.

І вось, калі Марылька з Яўгенам ужо вучыліся ў сёмым класе, іх запрасілі на школьны навагодні баль старшакласнікаў. У актавай зале зіхацела рознакаляровымі агеньчыкамі ёлка, іграў аркестр, і не менш ярка зіхацела Марылька — расчырванелая, радасная. На ёй была блакітная, пад колер вачэй, сукенка ў крапінку, светлыя валасы сцягнуты ў пучок і завязаны шырокай, таксама блакітнай, стужкай. Танцавала яна з высокім чарнявым дзесяцікласнікам Мішам, па мянушцы Свістун. О, як яны прыгожа плылі ў вальсе! Нетаропка, роўна, толькі ў такт музыцы ціха пагойдваліся, нібы хвалі на Ясеньцы ў добрае надвор'е. Міша часта нахіляў галаву і шаптаў Марыльцы нешта на вуха. Яна тады крыху адводзіла ад яго твар, уважліва глядзела і тут жа весела смяялася.

У той вечар у Яўгена ўпершыню моцна зашчымела сэрца. Чаму Марылька танцуе з Мішкам Свістуном, чаму так радасна пазірае на яго і весела смяецца? Ад гэтых думак яму аж горача зрабілася. Танцаваць ён не ўмеў, а далей так стаяць і глядзець не было ніякай моцы. І ўлучыўшы момант, калі Марылька глянула ў яго бок, рэзка павярнуўся і пайшоў да выхада. Калі ў раздзявалцы ўжо нацягваў кажушок, нехта тузануў яго за рукаў.

— Марылька! Ты чаго тут?! — здзіўлена спытаў Яўген.

— Як чаго? Пойдзем разам дадому, — спакойна адказала яна.

— А Міша Свістун?

— Мішка добры для танцаў. А мы ж з табою суседзі, свае, — зноў спакойна адказала Марылька і засмяялася.

Калі выйшлі са школы і накіраваліся па вуліцы, настрой у дзяўчыны не змяніўся. Яе пявучы голас і звонкі смех нагадвалі гукі меднага званочка.

У наступныя дні адносіны ў Яўгена з Марылькай знешне былі нібы ранейшыя: ішлі разам у школу і вярталіся дамоў, рабілі ўрокі. Але Шостак хутчэй адчуў сэрцам, чым зразумеў, што з ім нешта сталася. Раней раніцай маці доўга не магла яго дабудзіцца, цяпер жа ўскокваў з ложка пасля першага яе слова. І ўсё таму, што ўяўляў скорую сустрэчу з Марылькай. Яўген не раз лавіў на сабе доўгія, нібы прыдзірлівыя погляды дзяўчыны. Яму ад гэтага станавілася і радасна, і трывожна.

Марылька часта хварэла ангінай. Кожны год, як толькі са стрэх пачыналі мільгацець, дзынкаць іскрынкі капяжу, а заснежаныя пагоркі лысець ад праменняў веснавога сонца, шыя Марылькі аказвалася абкручанай белай касынкай, а голас траціў звонкасць, станавіўся сіпаватым і ціхім. Так здарылася і ў тую памятную вясну. Толькі на гэты раз хвароба зацягнулася, і Марыльку бацькі адвезлі ў бальніцу ў Азярцы.

Кожны дзень пасля ўрокаў, узнімаючы ботамі пырскі, Яўген бег да драўлянага будынка бальніцы, што стаяў на ўскрайку мястэчка. Яго прыходы сюды, здаецца, падабаліся ўсім — і ўрачу, і сёстрам, і санітаркам. Адна з іх — цётка Клава, як толькі хлопец убягаў у прыёмны пакой, хуценька працягвала яму бялюткі халат.

— Ідзі, ідзі хутчэй, Шостак. Гавораць, што Марылька ноччу цябе ў сне ўспаміналa, — ці то ўсур'ёз, ці то жартам паведамляла яна, хітравата ўсміхаючыся. Яўген куляй урываўся ў палату і, забыўшыся прывітацца, спалохана глядзеў на крыху пачырванеўшыя вочы дзяўчыны.

— Як ты? — ціха пытаўся ён.

Марылька радасна ўсміхалася, прыўзнімалася з падушкі, працягвала адразу абедзве рукі, таксама ціха гаварыла:

— Я ведала, што ты вось-вось прыйдзеш, бо якраз сонейка заглянула ў акно нашай палаты...

Шостак садзіўся на край ложка, трымаў яе гарачыя рукі ў сваіх, і яны, пазіраючы адно аднаму ў вочы, доўга шапталіся, здаецца, аб усім на свеце. Але праз нейкі час твар Марылькі станавіўся заклапочаным, яна яшчэ вышэй прыўзнімалася на падушцы, казала больш сур'ёзна і цвёрда:

— А зараз паказвай, што задалі на дом у школе.

Яўген хоць і неахвотна, але пакорліва выпускаў яе рукі, даставаў з ранца падручнікі, сшыткі. І зноў, як і некалі раней, яны рабілі ўрокі.

Неяк раніцай Шостак прачнуўся і быў вельмі здзіўлены: ужо па століі бегалі сонечныя зайчыкі, а маці дагэтуль яго не разбудзіла. Хуценька апрануўся і выглянуў на кухню. Маці якраз высыпала бульбу з каша ў цэбар, разагнулася.

— Пачалася паводка, сынок, — загаварыла яна. — Ясенька яшчэ ноччу загула. Дзядзька Васіль вазіў малако ў Азярцы. Дык калі вяртаўся, ледзь пераехаў рэчку на калёсах. Са школы перадалі, што адпусцілі вас на канікулы.

У Азярцоўскай школе вучняў на веснавыя канікулы адпускалі на час паводкі,

бо многія масты крыгаход зносіў і з большасці вёсак у час вялікай вады дабрацца ў мястэчка было цяжка.

Спачатку Яўген нават узрадаваўся. “Вось і добра, што не трэба ў школу, — падумаў ён. — Збегаю ў Мілеўскі лясок, нарву пралесак і занясу іх Марыльцы ў бальніцу». Яшчэ ўчора ў ельніку ён нагледзеў купінку блакітных, нібы вочы ў Марылькі, першых веснавых кветак. «Але як дабяруся ў Азярцы?! — раптам нібы апякла думка. — Ясенька зараз бурліць, напэўна, як раз’юшаная”.

— Схаджу і гляну, што робіцца на рэчцы, — сказаў Яўген і стаў нацягваць кажушок.

Маці нічога не адказала, бо, здаецца, і не пачула яго як мае быць — якраз варочала качаргой галавешкі ў печы.

Як толькі Шостак выйшаў на двор, — зразумеў, што ўсяго за адну ноч вясна ахапіла ўсё наваколле. Было цёпла і мокра, снег пачарнеў і асеў, а з-пад плота ўжо цурчалі ручайкі.

За вёскай Яўген звярнуў у ельнік і неўзабаве адшукаў чысты ад снегу ўзгорачак, на якім красаваліся кветкі. Свяжуткія блакітна-фіялетавыя венчыкі пялёстак абрамлялі апушаныя зялёныя лісцікі. Хоць кветак расло тут многа, хлопцу шкада было іх зрываць. Ён выбраў толькі пяць самых прыгожых і буйных пралесак. “Няхай у Марылькі па ўсіх прадметах будуць адны пяцёркі”, — весела падумаў ён, падміргнуў сам сабе і накіраваўся да дарогі.

Калі Шостак падышоў да Ясенькі, стала ясна, што паводка ўжо набрала поўную сілу. Варочаліся і ламаліся льдзіны, а цёмна-зялёная плынь круціла і несла вырваныя з карэннем дрэўцы, нейкія слупкі, жэрдачкі, дошкі, іншы ўсялякі друз, смецце. Нерухома з вады выглядвалі толькі вялізныя камяні. Яны, бліскучыя і аслізлыя, нагадвалі лбы нейкіх казачных істот. “Вось па гэтых камянях і паспрабую перабрацца на той бок”, — вырашыў Яўген, і, доўга не раздумваючы, скокнуў на шырокі камень, што ляжаў бліжэй ад берага. Тут крыху затрымаўся, каб перавесці дух і вырашыць, куды пераскочыць далей. Побач быў яшчэ адзін роўны камень. Пераскочыў на яго. Далей, метры за два, ляжала вялізная цёмна-бурая акруглая глыба. Шостак крыху прыгнуўся, напружыўся і скокнуў. Падэшвы ботаў, падбітыя шырокімі жалезнымі цвікамі, ляснулі аб граніт і саслізгнулі, а Яўген па грудзі апынуўся ў вадзе. Холаду спачатку не адчуў, толькі бачыў, як імкліва праносяцца міма льдзіны, шматкі паблеклай травы, саломы. Кінуў позірк на той бок, куды пераходзіў, і за некалькі метраў ад сябе прыкмеціў голыя галіны лазовага куста, што тырчалі з вады. Трымаючы ў руцэ над галавой букецік пралесак, асцярожна зрабіў у тым кірунку крок, другі. “Толькі б не ўпасці, — калацілася думка. — Там, можа, як і выберуся, а кветкі прападуць”. Зноў на імгненне паўсталі добрыя ўважлівыя вочы Марылькі. Яны сумна ўсміхаліся і, здавалася, аб нечым прасілі. Упарта зрабіў яшчэ крок, затым яшчэ. І вось ужо свабоднай рукой ухапіўся за лазовую галіну.

Калі Шостак выбраўся на бераг, з кажушка і штаноў цурчалі струмені вады, а ў халявах ботаў хлюпала. Адразу ж стаў даймаць, калаціць холад. Яўген зразумеў, што трэба хутчэй бегчы. Размахваючы поламі і грукаючы ботамі, ён пасігаў па дарозе, што вяла ў Азярцы.

У прыёмным пакоі бальніцы нікога не было, акрамя санітаркі цёткі Клавы. Тая аж войкнула і пляснула рукамі:

— Ай-яй-яй!.. І куды, Шостак, цябе так занесла?! Гэта ж трэба...

— Ясеньку пераходзіў, цётка Клава. Вось крыху і вымак, — стараючыся прыдаць голасу бадзёры тон, хоць у самога аж ляскалі зубы, гаварыў Яўген.

— Вымак!.. Вымак!.. — перадражніла яго цётка. — А ці ведаеш, што запаленне лёгкіх табе забяспечана?!

У адно імгненне цётка зняла з яго плячэй кажушок, пасадзіла на табурэтку і пасцягвала боты. А скора Шостак ужо ляжаў на нізенькай канапе, а цётка Клава расцірала яму цела нейкай вадкасцю, ад чаго ў носе моцна казытала і Яўген раз-пораз чхаў. Неўзабаве зайшоў доктар Нікадзім Сяргеевіч, заклапочана сказаў: “Ну і ну...”, прысеў на край канапы. Ён дастаў з кішэні халата навушнікі, надзеў іх і стаў вадзіць па грудзях Шостака чорным кружочкам. Потым падняўся і сказаў:

— Калі абыдзецца без запалення, то лічы, хлопец, што ты нарадзіўся ў кашулі.

Яўген Шостак, вядома ж, не нарадзіўся ў кашулі, і без запалення лёгкіх не абышлося. Але ж якая была радасць, калі назаўтра пад вечар да яго ў палату зайшла Марылька. Яе блакітныя вочы свяціліся трывогай, ласкай і дабрынёй. У руках яна трымала прынесеныя Яўгенам кветкі, а вусны шапталі: “Я ведала, што ты прыйдзеш, ведала...”.



## Уладзімір ЦВЯТКОЎ





*Нарадзіўся ў 1950 годзе ў Слоніме. Скончыў Беларускі палітэхнічны інстытут і аспірантуру Белдзяржуніверсітэта. Працаваў на прамысловых прадпрыемствах Мінска і ў рэспубліканскіх выдавецтвах, рэдакцыях газет і часопісаў. Піша гумарыстычныя творы і фантастыку. Выдаў кнігі "Усё наадварот" (1990), "Планета Гэя: Прыгоды Артура Гора" (1991), "Дзе жылі бурсонікі" (1992), "Зямля 3000-ы год" (2004) і іншыя. Творы перакладаліся на многія мовы свету.*

*Жыве ў Мінску.*

### Знаёмства

Гумарэска

Студэнт-дыпломнік Сідараў запрасіў на танец маладзенькую сімпатычную дзяўчыну. У яе быў высокі лоб, блакітныя вочы, добразычлівы твар. Такія яму падабаліся.

– Ці часта вы бываеце тут, на вечарах? – спытаў Сідараў, вырабляючы немудрагелістае "па".

– А вы часцяком да нас прыходзіце? – пацікавілася дзяўчына, пагойдваючыся ў так музыцы.

– Між іншым, мяне клічуць Іванам, - сказаў ён.

– Мяне Надзеяй, - адказала дзяўчына.

– Я вучуся ў політэхнічным.

– Я таксама.

– Няўжо? А на якім курсе?

– На першым.

Сідараў задумаўся. Надзеі – васямнаццаць, яму – дваццаць два. Чым не пара? Ягоны бацька ў васямнаццаць быў ужо жанаты. Старэйшы брат Васіль згуляў вяселле ў дзевятнаццаць, сястра Люда выйшла замуж у дваццаць, дзядзька Сцяпан – у дваццаць адзін. Час і яму, Івану, падумаць пра будучае. Зараз, калі ён на парозе самастойнага жыцця, чаму б і не ажаніцца.

Побач будзе прыгажуня-жонка. Паклапоціцца пра цябе, накорміць, напоіць, суцешыць, прылашчыць...

Сідараў думаў і цёплымі вачамі глядзеў на сваю партнёршу. Надзеіны вочы, як яму здавалася, радасна свяціліся ў лад яго думкам. Але ўсмешка нечакана спаўзла з твару Сідарава. Яму падумалася: а раптам усё будзе інакш? Пачнеш уставаць раніцай і гатаваць сняданак, прыбіраць ложак, а вечарам мыць не толькі свае кашулі і шкарпэткі, але і ўсю бялізну ў доме, прасаваць пасля работы, бегаць па магазінах, выстойваць чэргі, потым гатаваць вячэру і мыць посуд,

падмятаць і мыць падлогу, а ў дзевяць вечара валіцца з ног ад стомленасці. У госці без жонкі – ніколі, з работы – толькі своечасова, у водпуск адзін не паедзеш, а прасядзіш усе 24 дні (бо ў жонкі водпуск у наступным квартале) у душным горадзе, з сябрамі не сустрэцца, інакш – скандал… На футбол, марожанае і нават ліманад капейчыны не выпрасіш…

– Вы прабачце, Надзея, - нечакана прыпыніўся Сідараў. – Я зусім забыўся, што мяне чакаюць…

Ён пакінуў дзяўчыну сярод залы і, падкульгваючы, заспяшаўся да выхаду.

– Прабачце… – Надзея разгубілася. – Куды ж вы? Мы ж толькі пачалі знаёміцца!..

Сідараў шпарка збег з лесвіцы, і яму пашчасціла – адразу ж злавіў таксі.

– Куды паедзем? – запытаў малады выдзіцель.

– Абы-куды, - разгублена мовіў Сідараў. – Толькі хутчэй!

## Пагаварылі

### Гумарэска

Мы разам стаялі ў гардэробе. Яна – па сваё паліто, я – па сваё. Яна выпадкова штурхнула мяне, тут жа азірнулася, сказала:

– Малады чалавек, а такі недалікатны. Да таго ж з голай галавой. Чаму вы штурхаецеся?

Я маўчу. Толькі думаю: чаго гэта яна так?

– Чаго вы штурхаецеся? – зноў пытаецца яна.

Я зноў маўчу.

– Чаго вы штурхаецеся? – ужо амаль крычыць яна.

Я не вытрымліваю, кажу:

– Нахабнасць – другое шчасце…

– Не трэба  кідацца гучнымі фразамі!

Я маўчу,

А яна:

– Вы – ідыёт.

Я маўчу.

А яна мяне за гальштук хапае і крычыць:

– Падонак!

Тут ужо я не вытрымаў…

І яна міліцыю выклікала…



# Міхаіл ШУЛЯК





*Нарадзіўся 20 жніўня 1984 годзе ў вёсцы Азярніца Слонімскага раёна. Скончыў Слонімскае медыцынскае вучылішча і Жыровіцкі аграрна-тэхнічны каледж. Аўтар шэрагу краязнаўчых артыкулаў. Друкаваўся ў "Газеце Слонімскай" і гісторыка-краязнаўчым электронным выданні "Слонімскі край". У 2017 годзе выдаў навукова-папулярную кнігу "Па следу продкаў".*

*Жыве ў Слоніме, працуе ў Слонімскім упраўленні магістральных газаправодаў ізаліроўшчыкам.*

## Валун каля перакрыжавання

Гэта была халаднаватая, вільготная раніца, адна са шматлікіх, незлічоных, бясконца і непазбежна надыходзячых раніц. Але ўсё навокал змянялася, калі з-за далёкага краю леса паступова пачынаў паказвацца блiскучы дыск сонца. Яго свет напаўняў шэры абшар сакавітымі фарбамі рознакаляровых палявых красак, што ў вялікай колькасці раслі з усіх бакоў перакрыжавання. Пачынаўся світанак. Ён яскрава адлюстроўваўся ў празрыстых кроплях расы, нанізаных на шматлікім павуцінні. Адсюль, з краю дарогі, здавалася быццам нехта развесіў на травы дыямантавыя каралі.

Я ўжо згубіў лік гэтым бязконцым світанкам, але яшчэ ніколі не бачыў двух аднолькавых. Кожны раз гэта новая казачная імпрэза, зладжаная для аднаго гледача – для мяне. Час ад часу летнім ранкам на суседняе поле з'язджаюцца касцы, але яны не заўважаюць гэтай прыгажосці, наадварот, заклапочаныя хуткім надыходам світанку, намагаюцца да знікнення расы паспець скончыць запланаваную працу. Іншая справа жніцы. Іх чутна здалёк. Дзяўчаты, жанчыны, сталыя кабеты вясёлай гаманлівай грамадой прыходзяць на поле і, узяўшыся за працу, абавязкова пачынаюць спяваць. Я люблю слухаць іх песні: вясёлыя ці сумныя, пра цяжкае жыццё, няўдалы лёс і, канешне, каханне. Мне вельмі складана было зразумець каханне, калі б не адзін сумны выпадак. Памятаю, як уночы да мяне прыбег стомлены хлопец. Гадзіну другую ён моўчкі сядзеў прытуліўшыся да майго боку і пільна прыслухоўваўся. Нарэшце, пачуўшы крокі, хлопец у момант ускочыў на ногі. Да нас падышла заплаканая дзяўчына і кінулася яму на шыю. Потым, з іх размовы, я зразумеў, што хлопца на 25 гадоў забіралі ў салдаты. Як яна тады яго цалавала і плакала, плакала і цалавала. Гэта была іх апошняя сумесная ноч.

Я раней бачыў салдат. Тутэйшыя і іншаземныя, на конях і пехам, з шаблямі і стрэльбамі яны даволі часта пераходзілі праз перакрыжаванне, а аднойчы нават зладзілі тут засаду. Лежачы ў высокай траве, салдаты з вечара і да самай раніцы чакалі з'яўлення варожых вершнікаў. Ноч была не цёмная і я іх добра разгледзеў.

Дзіўныя былі салдаты: у сялянскай вопратцы, барадатыя, з перавернутымі косамі замест зброі.

Вершнікі з'явіліся на світанку. Нічога не падазраючы, яны павольна набліжаліся да перакрыжавання. Усё пачалося, калі першы кавалерыст параўняўся са мной. Касінеры ціха ўсталі з травы і моўчкі пабеглі на вершнікаў. Бойка доўжылася не больш за хвіліну. Некалькі пісталетных стрэлаў, сталёвы звон ляз шабляў аб косы, стогны, іржанне параненых коней і густое воблака пылу. І зноў цішыня, якая час ад часу перарывалася крыкамі касінераў. Яны вельмі спяшаліся. Адны збіралі трафейную зброю, другія дапамагалі сваім параненым сябрам і ўжо праз некалькі хвілін усе разам крочылі ў напрамку бліжэйшага лесу.

Пыл асеў, пакрыўшы сабою загінулых акрываўленых вершнікаў. Дзесьці недалёка ад дарогі ў высокай траве хрыпеў паранены конь… І тут я заўважыў яго. Малады кавалерыст з раскудлачанымі валасамі і акрываўленым тварам, стогнучы, выпаўзаў з-пад свайго забітага таварыша. Адштурхваючыся нагамі і трымаючыся рукамі за паранены жывот, ён наблізіўся да мяне. Пасля некалькіх няўдалых спроб падняцца на ногі, хлопец спіною прытуліўся да майго боку і заплакаў. Ён разумеў, што смяротна паранены, але не хацеў паміраць. Хлопцу было страшна, ён клікаў маці, а ў гэты самы час, над намі, радуючыся лету, сонцу і жыццю, высока ў небе заліваўся вясёлай песняй жаўрук. Кавалерыст замаўчаў.

То быў першы і апошні раз, калі я бачыў чалавечую смерць. Мне складана яе зразумець, бо камяні не ўміраюць. Больш цікава назіраць за чалавечым жыццём. Вось бяжыць дзяўчынка з сяброўкамі ў лес па ягады, а праз час, глядзіш, яна ўжо дзяўчына і працуе з сярпом на жніве, а потым, наогул, становіцца сталай кабетай, што завіхаецца з мужам на сенажаці. Дзіўна, але на працягу стагоддзяў, жанчыны спявалі ў полі адны і тыя ж песні, перадаючы іх ад бабулі да ўнучкі. Памятаю, аднойчы збочылі да мяне з перакрыжавання два вандроўнікі. Гэта былі жабракі. Дзядуля і хлопчык вырашылі паесці. Малы дастаў з торбы некалькі вараных яек, завязаную ў мяшочак соль і хлеб, а стары, перахрысціўшыся, пачаў вучыць унука малітве. Пасля таго, як хлопчык паўтарыў усе словы, жабракі пачалі есці. Менавіта так перадаецца чалавечая памяць – ад дзеда да ўнука, ад маці да дачкі. Мяне тады здзівіла іх малітва. Нічога не маючы людзі, не пыталі ў Бога багаццяў. Яны прасілі звычайнага хлеба на адзін дзень. І, наадварот, я ніколі не забудуся, калі аднойчы ноччу, седзячы каля мяне, дзялілі нарабаванае два злодзеі. Спрачаючыся з-за некалькіх срэбных манет, яны траслі адзін аднаго за грудкі і турзаліся за каўнеры, пакуль нарэшце не згубілі грошы ў снезе. Пасварыўшыся, скваپныя рабаўнікі разышліся, а тыя крадзеныя рублі і зараз ляжаць каля мяне, толькі зараслі травой.

За ўсе гэтыя стагоддзі, што я стаю каля перакрыжавання, змянілася шмат чалавечых пакаленняў. Каля мяне прайшлі тысячы мінакоў. Шкада, але яны ніколі не даведаюцца пра тыя дзіўныя падзеі, сведкам якіх я з'яўляюся, пра тыя казачныя таямніцы, якія я беражліва захоўваю. Людзі заўжды ў няспынных клопатах, увесь час кудысці ідуць, едуць, спяшаюцца. Паслухайце старога валуна, спыніцеся, паглядзіце, які чароўны світанак…



# Васіль ГЕРАСІМЧЫК





*Нарадзіўся 12 лютага 1987 года ў вёсцы Васілевічы Слонімскага раёна. Скончыў Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы. Жыве ў Гродне.*

*Аўтар шматлікіх артыкулаў па гісторыі Слонімшчыны і Беларусі, а таксама кнігі "Канстанцін Каліноўскі: асоба і легенда".*

*Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.*

## Вялікі вугал

Гушчар сустрэў дажджом і прахалодай, так моцна адчувальнай пасля стамляючага маршу праз балоты і лясы. Раптам скрозь бавоўну хмараў прарвалася апошняя купа сонечных прамянёў і рассыпалася па верхавінах магутных соснаў, заззяла ў тысячах кропелек, вадкімі каралямі звязаўшымі неба і зямлю. Ужо праз імгненне шчыльнай сцяною абрынулася цемра і наваколле патанула ў ёй.

Прыходзілася рухацца навобмацак. Пётр Радавіцкі выдатна ведаў гэтую мясцовасць, называную Вялікім Вуглом, утвораным спалучэннем лугу і лесу, магутнымі закругленымі клінамі ўрэзанымі адзін у аднаго, падобна літары "S", павернутай ў адваротным накірунку.

Менавіта адсюль пачынаўся паўстанцкі шлях Пятра месяц таму, калі ў сярэдзіне траўня 1863 года ён прывёў групу сялянаў і шляхцічаў з ваколіцаў маёнтка Краснае ў лагер, у якім збіраліся дабраахвотнікі з усяе Ваўкавышчыны.

Шмат хто чакаў, што менавіта Радавіцкі стане начале атрада. 40-гадовы былы вайсковец быў у вялікай пашане сярод тутэйшых жыхароў. Яго ведалі як добрага гаспадара, які ў вольны час выкладаў сялянскім дзецям розныя навукі. Толькі пасля пачатку паўстання стала вядома, што гэтым яго настаўніцтва не абмяжоўвалася: ён рыхтаваў вяскоўцаў да магчымай партызанскай барацьбы, вучыў іх вайсковай справе і абыходжанню са зброяй.

І ўсё ж Пётр Радавіцкі без усялякага абмеркавання, што было вялікай рэдкасцю сярод паўстанцаў, перадаў камандаванне Густаву Стравінскаму, 26-гадоваму адстаўному паручніку Мурамскага палка. Як раз тады, калі ў іншым гушчары ў ваколіцах Лыскава, вядомым як Альховае Балота, адбылася бойка паміж Улодкам і Самульскім, не падзяліўшымі камандаванне Пружанскім атрадам. Пётр добра ведаў Самульскага, які ў лютым змагаўся яшчэ ў атрадзе Рамана Рагінскага разам з яго братам – Здзіславам Радавіцкім, не паспеўшы з таго часу аднавіцца пасля цяжкага ранення, зноў атрымаў моцнае пашкоджанне і вымушаны пакінуць паўстанцкія шэрагі.

"Колькі лепшых сыноў згубіў наш край за дарма", - успамінаў апошні месяц свайго жыцця Пётр Радавіцкі, прытуліўшыся да елкі і выглядаючы ледзь

заўважныя ў цемры абрысы некалькіх хлопцаў, якія побач марна намагаліся распаліць агонь. Ва ўсім лагеры сухога галля хапіла толькі на два вогнішчы, але і тыя хутка згаслі, расцягнутыя на падпал іншых. Унутрана Пётр адчуў палёгку, бо знікла такая моцная спакуса, якая вабіла амаль паўтысячы чалавек. Здавалася, што паветра дрыжыць разам са стомленымі паўстанцамі, якія вымаклі да ніткі. Калі вогнішчы канчаткова згаслі, залітыя дажджом, які ўсё ўзмацняўся і цяпер ліў як з вядра, Пётр апусціўся долу і лёг на мох пад сасной, адчуўшы непрыемныя выступы параскіданых па зямлі шышак. Аднак нават не было рады іх прыбіраць. Радавіцкі прытуліўся да іншых паўстанцаў і паступова адчуў волкую цеплыню: “Сон робіць людзей роўнымі. Як і магіла”, - паспеў падумаць Пётр перад тым, як стома канчаткова перамагла.

* * *

Да світання было яшчэ далёка, калі дождж, нарэшце, скончыўся і Вялікі Вугал пачаў напаўняцца гукамі. З першымі ж водблiскамі ўзыходзячага сонца тут напоўніцу віравала жыццё. Мінулая ноч падавалася жудасным насланнём. А калі з Лыскава прывезлі харчаванне і сухія дровы, радасці не было межаў. Упершыню за апошнія дні паўстанцы паснедалі гарачай ежай. Размораныя, яны моўчкі сядзелі ды ляжалі ля вогнішчаў – кожны самнасам са сваімі думкамі.

Пётр адчуваў агульную прыгнечанасць у паводзінах людзей, большасць з якіх не магла ўцяміць, чаму яны, здаецца, і перамогшы пад Мілавідамі, вымушаныя былі збегчы як пасля паразы.

- Давай, браце, кубак! - пачуў Радавіцкі за спінай знаёмы, нізкі з хрыпатой голас Валерыя Урублеўскага. – Я табе прынёс падарунак.

- Няўжо вяндліна?– з усмешкаю прамовіў Пётра, адразу забыўшыся на дрэнныя думкі і прадчуваючы магчымае відовішча. – Абы не лупавіна!

- Лепш! – на працягнутай далоні ляжалі суніцы, жменя якіх тут жа апынулася ў кубку Пятра. Водар свежасарваных ягадаў перамяшаўся з пахам дыму.

- І чым я заслужыў?

- Сам ведаеш, - узгадваючы выдатную стральбу Радавіцкага падчас Мілавідскай бітвы, адказаў Урублеўскі. Але цяпер яму патрэбная дапамога ў іншай справе, у якой Пятру таксама не было роўных ва ўсім лагеры. – Толькі нешта настрой у нас сапсаваўся. Што будзем рабіць?

- Ды ёсць адзін сродак, - сказаў Радавіцкі больш гучна, чым, здавалася, было ў тым патрэбы. Прысутныя побач ужо навастрылі вушы, пакуль не разумеючы, што ж дзеецца. – Толькі на яго могуць збегчыся маскалі з усяго ваяводства.

- А мо так і трэба! – быццам даў згоду Урублеўскі, падтрунькваючы тым самым Радавіцкага.

- Я пачну, а ты падтрымаеш! – Пётр без ваганняў перайшоў на патрэбны тон. Гледачы ўжо пачалі здагадвацца, што перад імі разыгрываецца сапраўдная містэрыя, часткай якой яны таксама стануць з хвіліны на хвіліну.

- Калі ўпаду – падхопіш!

- А раптам памру, дык пахаваеш!

- Ты для мяне, браце, тое ж зробіш! – Урублеўскі паціснуў руку Радавіцкага адным ім вядомым знакам.

І тады да дрыжыкаў моцны вокліч панёсся ад вогнішча да вогнішча, прымушаючы ўвесь лагер паўставаць на ногі. І распачатую Пятром паўстанцкую песню падхапілі пяць сотняў ртоў. Спачатку бязладна, гук паступова зліваўся ва ўнісон, узмоцнены эхам і разносіўся так далёка, што яго было чуваць у самым Лыскаве:

“Гэй-га, разам, хлопцы.
Гу-га, мы малодцы!
Гэй-га, з Палякамі,
Гу-га, а Бог з намі!
І на Божу здайма волю:
Нашы слёзы і няволю.
Гэй-га, мы пачулі:
Гу-га, што нас скулі!
Гэй-га, цяпер знаем:
Гу-га, выклікаем:
З зямлі нашай вон, варогі!
Маскалёў злуб вон да ногі!”

...Пасля трох песень голас Пятра канчаткова здаўся. Цяпер ён толькі перабіраў вуснамі, назіраючы, як яшчэ колькі хвілін таму прыціснутыя, разгубленыя асобы зноў зрабіліся агульным арганізмам. “Значыць, яшчэ і песня”, - дадаў Радавіцкі ў працяг сваіх начных думак.

І пакуль адныя спявалі побач з вогнішчамі, іншыя пакідалі тое намоленае месца і накіроўваліся бліжэй да дарогі. То былі падляскія дабраахвотнікі з атрада Юльяна Эйтміновіча, капітана Лібаўскага пяхотнага палка. Усяго 96 чалавек, якія выпраўляліся ў бацькоўскія мясціны – Сакольскі, Бельскі ды Беластоцкі паветы, каб распачаць там фарміраванне новых атрадаў. Толькі некалькі дзясяткаў сакальчанаў заставалася ў Вялікім Вугле. Паўстанцы адыходзілі з песняй, не развітваючыся, быццам збіраліся бліжэйшым часам зноў спаткацца. “Калі не на гэтым свеце, то на тым – абавязкова”, - падумаў Пётра, гледзячы ў вочы Юльяна Эйтміновіча, які злёгку апусціў галаву, падтрымліваючы капялюш рукою.

* * *

На наступны дзень, 16 чэрвеня, развітанне паўтарылася і з шасцю дзясяткамі дабраахвотнікаў на чале з Аляксандрам Лянкевічам, які накіраваўся для збору рэштак разбітага Слонімскага атрада. Ён павінен быў дзейнічаць паміж Зальвянкаю і Шчараю, пагражаючы варожым камунікацыям.

Паўстанцкае войска Гродзенскага ваяводства зменшылася амаль на траціну. Пётр разумеў, што па-іншаму і не магло быць: ва ўмовах партызанскай вайны атрады могуць збірацца разам толькі для выканання сумесных адзінкавых аперацый, а ў астатні час павінны невялікімі групамі вымотваць і джаліць праціўніка.

Апоўдні трэніроўку ў стральбе прыйшлося перапыніць, таму што на дарозе паказалася конніца. Па лагеры пайшла пагалоска, што гэта казакі. Паўстанцы заварушыліся як тыя камары, што мак таўклі. Яны неадкладна пачалі займаць

загаддзя падрыхтаваныя пазіцыі – хто за дрэвамі, хто за валунамі, хто за прыцягнутымі на ўскраек гушчара вываратнямі.

Конніца неслася з усяе хады. А паперадзе яе – харугва. “Свае!” – з палёгкай уздыхнуў Пётр, заўважыўшы, што на дарогу для сустрэчы выйшаў Валерый Урублеўскі. Але Радавіцкі працягваў трымаць падначаленую роту напагатове, не атрымаўшы пакуль новага загаду.

Вецер падхапіў дзіўную харугву з выявай зямной кулі і нябесных свяцілаў, вакол якой гартаваліся 56 дабраахвотнікаў “Літоўскай кавалерыі”. Усе як на падбор – у адмыслова пашытай для іх вопратцы сіняга колеру. Сапраўдная супраціўнасць з паўстанцамі ў Вялікім Вугле.

Пётр назіраў, як у Казіміра Кабылінскага прынялі дрэўка з харугвай. А затым ён, вызваліўшыся, здзыгнуў з каня і павітаўся з Урублеўскім. Гэта быў сярэдняга росту мужчына, узрост якога ўжо даўся яму ўшыркі, але ён трымаў паставу як малады. Пры хадзе яго ногі нагадвалі кола, выдаючы тым самым у ім прафесійнага кавалерыста. З пазіцыі Радавіцкага не было чуваць размовы, але, убачыўшы абдымкі двух камандзіраў, стала зразумела, што навіна добрая.

Паўстанцам неадкладна было загадана пашыхтавацца. Асобна ад іншых сталі Ануфры Духінскі, Валерый Урублеўскі і Казімір Кабылінскі.

Духінскі выглядаў надта хваравіта. Прызначаны Варшавай вайсковым начальнікам Гродзенскага ваяводства, ён быў сапраўднай недарэчнасцю, не ўсведамляючы напачатку ні асаблівасцяў тутэйшага насельніцтва і яго мовы, ні арыентуючыся ў мясцовасці гэтага Краю. Яго недахопы кампенсавала наяўнасць побач Валерыя Урублеўскага, які зараз узяў слова:

- Бітва пад Мілавідамі застанецца ў нашай памяці. Але мы былі вымушаныя адыйсці, бо ворага як іглiцы на сасне: ён, хоць і адступіў, чакаў прыбыцця падмацаванняў. Аднак наша Партызанка толькі пачынаецца. Трэба біць ворага тады, калі ён найменш гэтага чакае і непадрыхтаваны, як тое зрабілі хлопцы Кабылінскага. Сёння зранку яны наведаліся ў госці ў Ружаны, дзе пазычылі ў мясцовага гарнізона два дзясяткі карабінаў.

У шэрагах паўстанцаў пачуўся смех. Затым слова ўзяў сам Кабылінскі і распавёў пра захоп Ружанаў, падрабязна спыніўшыся на тым, як рускія вайскоўцы схаваліся на гарышчы аднаго з дамоў, адкуль вымушаныя былі паскідаць свае карабіны. “Колькі весялосці і жвавасці ў гэтым моцным чалавеку з такім жывым тварам”, - падумаў Пётр.

Паўстанцы насмяяліся да болю ў жываце. На завяршэнне Кабылінскі перайшоў на сур’ёзны лад:

- Браты, хацелася б Вам сказаць, што мы пераможам, разаб’ем ворага хутка і без цяжкасцяў. Але не буду вам махляваць, бо сіла супраць нас ідзе магутная, як саранча. Самі бачыце, што яна пераўзыходзіць нас і ў вайсковай выпраўцы, і ў якасці зброі, і ў колькасці. Але на нашым баку – бацькоўская зямля, наш край! Шмат ворагаў прыходзіла сюды, і шмат з іх зараз ляжаць у безыменных курганах. Дык зробім так, каб такіх курганоў стала яшчэ больш!

А затым двум дзясяткам найлепшых стралкоў былі ўрачыста перададзеныя захопленыя ў Ружанах карабіны. Дасталася новая стрэльба і Пятру.

- Учора – суніцаў, сёння – карабін, а заўтра – штуцэр! – павіншаваў Радавіцкага Урублеўскі.

- Дзякуй! Але штуцэр будзе ўжо маім уласным трафеем у баі! – адказаў Пётра, забраўшы карабін і паціснуўшы рукі паўстанцкіх камандзіраў.

* * *

Святочны абед падалі адразу пасля шыхтавання, умацаваўшы агульны настрой. Пасля па лагеры пачалі хадзіць копіі адозваў, толькі што напісаных да жыхароў розных паветаў Гродзенскага ваяводства. Падчас адпачынку Пётра зачытаў усе шэсць сваім шэраговым. У кожным з дакументаў узгадваўся вобраз слыннага тутэйшага ўраджэнца. Адозва да жыхароў Слонімскага павета пачыналася словамі “Хай сёння прамовіць да нас памяць аб Касцюшку”. Да Беластоцкага павета - праз Стэфана Чарноцкага, аднаго з герояў вайны супраць шведаў падчас “Патопу”, дзе гучалі наступныя словы: “Сёння, калі край ізноў у няволі, хай жыве партызанка! Хто шчыра любіць Айчыну – з намі на маскалёў!”. Адозва да Гродзенскага павета звярталася да слаўнага імя Тадэвуша Рэйтана і завяршалася так: “Для гэтага з’едзьцеся на адно поле, поле бітвы, пад адзін сцяг, сцяг са знакам Арла, Пагоні і Міхаіла Арханёла, для адной мэты, якой ёсць вызваленне Айчыны...”.

Кожную з адозваў Пятро тлумачыў, быццам тым дзецям, якіх вучыў у сваім маёнтку Краснае. Амаль усе чулі імя Тадэвуша Касцюшкі, распавядаючы нават мясцовыя легенды, як той мужыкам волю хацеў даць. А вось з Чарноцкім і Рэйтанам было ўсё вельмі дрэнна. Распавядаючы пра іх жыццёвы лёс Пётра і не заўважыў, як “Літоўская кавалерыя” выправілася на поўдзень – у накірунку фальварка Устронь.

Аднак ужо у палове на шостую тая вярнулася з наступаючым на пяткі ворагам. Той набліжаўся па лугавіне з боку Устроні, расцягнуўшыся ў некалькі доўгіх шэрагаў. Паўстанцы замітусіліся, займаючы пазіцыі на ўзлеску, у адпаведнасці з тым, як гэта ўжо адбывалася апоўдні: ваўкавыскія дабраахвотнікі пад кіраўніцтвам Стравінскага занялі цэнтр, у той час як невялікая група сакальчанаў размясцілася на фланзе, прыкрываючы кавалерыю. Ззаду схаваліся і чакалі свайго часу касінеры.

Пётра назіраў, як вораг набліжаецца ўсё бліжэй і бліжэй, відавочна, збіраючыся ўдарыць менавіта ў самы цэнтр. Такое відовішча ўражвала нават спрактыкаванага чалавека, што ўжо казаць пра тых, для каго гэты бой быў адным з першых. Да таго ж асабліва палохала тое, што варожыя штуцары ўжо раз пораз абстрэльвалі паўстанцкія пазіцыі, у той час як для агню ў адказ адлегласць была яшчэ даволі далёкая, паколькі ні карабіны, ні тым больш дубальтоўкі – не роўня наразной зброі і кулі, выпушчаныя з іх нават не далятал б да праціўніка. Таму нездарма са штаба прыйшоў загад без каманды не страляць.

Паўстанцы маўчалі. Удар на сябе прымалі пакуль толькі сосны. Пётра спрабаваў уцяміць, чаму вораг так метадычна ідзе па адкрытай прасторы, да таго ж забалочанай і зарэсценай высокай травой, месцамі ўжо скошанай і складзенай у невялічкія копны. “Яны не ведаюць нашай колькасці, мяркуючы, што тут толькі кавалерыя”, - здагадаўся Радавіцкі. Напалоханае птаства паднялося з наседжаных месцаў і падалося ўбок. Толькі кнігаўкі моцна гукалі, налятаючы на

ворага. Аднак той працягваў набліжацца і калі яму да ўзлеску заставалася каля ста крокаў прагучала каманда “Агонь!”. Дым пораху быццам туманам ахінуў гушчар і з луга пачуліся крыкі параненых царскіх вайскоўцаў. Збянтэжанасць ворага адгукнулася яшчэ адным стрэлам паўстанцкіх ружжаў. Яшчэ адзін стрэл вымусіў ворага пасунуцца назад. Але гэта было падманлівае адступленне, насамрэч пачынаючы абыходзіць паўстанцаў з фланга, пагражаючы нешматлікім сакальчанам. “Неабходна перакінуць туды дадатковыя сілы”, - падумаў Пётра і ў гэты самы момант яму перадалі загад узяць два дзясяткі сваіх людзей і тэрмінова накіравацца на фланг. Радавіцкі не звяртаў увагі на ігліцу, якую касілі варожыя стрэлы. Стравінскі ў дадатак перадаў яшчэ дзясятак чалавек і Радавіцкі рушыў да сакальчанаў. Вораг ужо быў зусім блізка, калі да паўстанцаў падыйшло падмацаванне. Стрэл, яшчэ, яшчэ... Ззаду Радавіцкі адчуваў, што на ўсялякі выпадак сюды ж перакінутая частка касінераў. Вызначыўшы сваім людзям сектары абстрэлу, ён удала дзейнічаў і як стралок. Сустрэўшы моцны агнявы адпор, царскія войскі вымушаныя былі, нарэшце адступіць.

Пётра бачыў, як вораг пачаў адыходзіць, і адзін з царскіх вайскоўцаў, няўдала адкрыўшыся, стаў ахвяраю яго трапнага стрэлу, абрынуўся на дарогу, сціскаючы ў руках штуцэр. “Вось і мой трафей”, - палічыў Пётра і пакольki стральба спынілася, а сярод паўстанцаў пачулася пераможнае “Ура!”, ён падняўся з пазіцыі і накіраваўся за штуцэрам. Пётра спыніўся за крок да рускага салдата, гатовы ўжо нахіліцца за зброяю. Твар забітага быў павернуты ўбок, вачэй было не відаць. “Які ён маленькі, зусім, як дзіця” – падумаў Пётр, калі раптам пачуў быццам удар маланкі. Ногі перасталі слухацца, а цела павалілася на зямлю. Яго твар апынуўся зусім побач з тварам рускага салдата. Блакітныя вочы падаваліся промнямі сонца, якое вось-вось схаваецца за хмары. Як было некалькі дзён таму, калі ўначы паўстанцы прыйшлі ў Вялікі Вугал. Праз імгненне вочы салдата ўжо згаслі. А яшчэ праз імгненне згаслі і вочы Пётра.

Варожая куля трапіла Пятру Радавіцкаму ў лоб, калі ён выйшоў забраць штуцэр у забітага ім расійскага салдата. Гэтая страта шанаванага чалавека, сапраўднай душы кампаніі засмуціла ўсіх. Яго цела прынеслі ў лагер. Касінеры, якія так і не паўдзельнічалі ў баі, выкапалі косамі невялічкую магілу. Пахаванне яго адбылося перад самым заходам чэрвеньскага сонца. Валерый Урублеўскі, які згубіў аднаго з лепшых сяброў, доўга блукаў па лесе, утаймоўваючы пачуцці. На яго позірк трапілі кветкі каліны, якія ён, сам таго не заўважаючы, пачаў ірваць, каб пакласці на магілу Радавіцкага.

Паўстанцы другі раз за дзень пашыхтаваліся, на гэты раз каб праводзіць у доўгі шлях забітага паплечніка.

- Я веру, што прыйдзе час, калі нам не трэба будзе паміраць за Бацькаўшчыну. Калі мы будзем жыць у справядлівым грамадстве, дзе будзе панаваць праўда. На жаль, гэты час не надыйдзе без ахвяры лепшых сыноў нашай зямлі. Пётр быў адным з іх і ён застанецца ў нашай памяці, як і Вялікі Вугал застанецца чарговым пацверджаннем таго, што непераможных няма. І вы, браты, сёння гэта даказалі. Я не маю чым вас аддзячыць, акрамя, - Урублеўскі паказаў букет, які трымаў у руках, - кветак каліны. Лепшага дарунку мы цяпер не маем, але калі-небудзь кветкі стануць плодам.

Валерый прайшоўся і раздаў кветкі лепшым стралкам, якія паказалі сябе ў мінулай бітве. Ад букета засталося толькі некалькі веццяў. Урублеўскі падыйшоў да магілы, побач з якой схіліўся і апусціў уніз каліну.

- Чакай мяне, браце! Яшчэ заспяваем, - сказаў Урублеўскі ледзь чутно. Узняўшыся, ён зацягнуў:

“Гэй-га, разам, хлопцы.
Гу-га, мы малодцы!
Гэй-га, з Палякамі,
Гу-га, а Бог з намі!”

*Пётр Радавіцкі загінуў 16 чэрвеня 1863 года падчас бітвы ў гушчары Вялікі Вугал побач з мястэчкам Лыскава. Яго брата Здзіслава царскія ўлады павесілі 18 жніўня 1863 года ў Седліцах у Кароне Польскай. Усяго род Радавіцкіх падчас пастання 1863-1864 гадоў страціў шэсць чалавек.*



## Ганна ШАРАМЕЦЬЕВА





*Нарадзілася ў 1950 годзе ў Слоніме. Закончыла СШ № 5 г. Слоніма і філафак БДУ.*

*Працавала журналісткай у рэспубліканскай прэсе. Была рэдактарам газеты "За волю". Выдала зборнікі вершаў "Еду ў Сноў" (1989) і "Тут" (1997).*

*Жыве ў Мінску.*

# Батлейка запрашае

* * *

Я прадам жалейку!
Я куплю дуду!
Я глядзець батлейку
Сёння па-! е-! ду!
Гэй! Нясіце, коні,
Мяне у родны Слонім!

* * *

Маня! Зоська! Ясь! Андрэйка!
Ціт! Міколка! Апанас!
Беларуская батлейка
Запрашае ў госці вас!
Вас і вашых дружбакоў.
Э-гэ-гэй! З усіх бакоў
Сюды, дзятва!!!
Раз... Два...
Тры!
Малайцы, сябры!
Ды ці ж можна гасцям дагадзіць,
Як няма на што пасадзіць?
Так кажу я ці не так?
Выручай мяне, мастак!
Ого! Гэта лава, дык лава!
Гасцям – чэсць! Мастаку – слава!
Ну вось, хлапчукі і дзяўчынкі,
Сядзіце вы каля скрынкі,

А гэтая скрыначка-хата
Заселена дужа багата
Лялькамі простымі і знакамітымі,
Убрана
        кветкамі размаітымі,
        зоркамі саламянымі,
        пеўнікамі маляванымі.
Люба глядзець! Прыгажосць!
Вось гэта – батлейка і ёсць
З усімі аздобамі-ўкрасамі,
Цудамі і выкрунтасамі!
З даўняга веку, дзеці,
Батлейка вандруе па свеце –
Па народах, па краінах,
Па дарогах, па сцяжынах.
Дзеля радасці і смеху.
На навуку! На пацеху!
Каб добрае спела!
Каб злое гібела!
А зараз бяромся за справу:
Глядзім прадстаўленне пра хлопчыка Саву!
*(Заслона ў батлейцы адкрываецца.*
*Выходзіць Каза. Вітаецца.)*
КАЗА
Людзі добрыя! Вітаю!
Я ў вас вось што запытаю,
Вы скажыце, госці, мне:
Ці вам добра тут ці не?
Ці вы будзеце ціха сядзець
І батлеечку сумна глядзець?
Ці вы будзеце рагатаць,
У ладкі пляскаць – артыстаў вітаць?
Ну – тады чаго чакаеце?
Чаму артыстаў не вітаеце?
*(Чытачы і слухачы!*
*Трэба тут дапамагчы!*
*Кожны хай са шчырай ласкаю*
*Ў ладкі весела паапляскае!).*
Малайцы! Музыка, грай!
Прадстаўленне адкрывай!
(*Выходзіць Жытнёвы Каласок).*
ЖЫТНЁВЫ КАЛАСОК
Добры дзень, шаноўны люд!
Каласок Жытнёвы тут як тут!
Бачу народу багата.
Пэўна ж, тут нейкае свята?

А ўбор мой зрэбны, не новы.
А хлеб мой просты – жытнёвы!
КАЗА
Дык без хлеба ж
І хата не хата
І свята не свята,
І поле не поля,
І доля не доля!
ЖЫТНЁВЫ КАЛАСОК
Дзеці! Ці ўсе вы як трэба
Ставіцеся да хлеба?
Акрайчыкамі ў футбол не гуляеце?
Лустачак не выкідаеце?
КАЗА
Што ты! Слонімскія дзеці
Лепшыя ў цэлым свеце!
ЖЫТНЁВЫ КАЛАСОК
Ну – я спытаў для парадку…
А хто адгадае загадку,
Хто скажа, хто знае:
Што ў нашым краі,
Як і мяне, паважаюць,
Хлебам другім называюць?
*(На падмогу, чытачы,*
*Слухачы і гледачы!*
*Здагадайся – не маўчы!).*
Правільна!
Гэта бульбінка-беларусачка –
Пекная паненачка,
Шэрая сукеначка,
Зялёная хустачка!
(З'яўляецца Бульбінка).
БУЛЬБІНКА
Дзень добры, мае харошыя!
А якія вы ўсе прыгожыя!
А я такая простая, зрэбная,
Нікому тут не патрэбная…
ЖЫТНЁВЫ КАЛАСОК
Ты, сястрыца,
Кінь журыцца!
Дарагія гледачы!
*(Чытачы і слухачы!)*
Трэба й тут дапамагчы:
Хай той запляскае ў ладкі,
Хто любіць з бульбы аладкі,
За ім па парадку –

Хто любіць зразы і бабку,
Хто клёцкі, бульбяную кашу, салянікі.
А потым – хто любіць дранікі!!!
Раз-два-тры—чатыры-пяць!
Будзем Бульбінку вітаць!
Дзякуй вам, хлопчыкі і дзяўчынкі!
Якія вы малайчынкі!
БУЛЬБІНКА
А мы вам пакажам хлапчыну,
Хлапчыну не малайчыну.
Гэта Саўка Савацей –
Язык без касцей.
ЖЫТНЁВЫ КАЛАСОК
Саўка, адгукніся!
Саўка, пакажыся!
БУЛЬБІНКА
Дзілім-дзілім-баў!
Саўка прапаў!
Мы яго гукалі!
Мы яго шукалі!
Мы бегалі на рэчку!
*(З'яўляецца Саўка – хлопчык гадоў сямі).*
КАЗА *(да Саўкі)*
А ты дзе хадзіў?!
САЎКА
*(пагладжвае свой жывот)*
У суседавых парэчках
Заблудзіў!
БУЛЬБІНКА
Саўка-Саўка!
Які ты непаслухмяны!
САЎКА
Я –
Рахманы,
Паслухмяны,
Працавіты,
Адмысловы!
Я – такі… Я…
Адным словам!
КАЗА
Як пасадзяць Саўку
Раніцой на лаўку –
Дык ён хваліцца, хваліцца, хваліцца, хваліцца!
Да вечара хваліцца!
Аж пакуль не зваліцца!
САЎКА

Я ніколі не звалюся,
Бо ніколі не хвалюся!
БУЛЬБІНКА
Кім ты будзеш, кім ты станеш,
Ты ж і хвалішся і маніш?!
САЎКА
Вы іх не слухайце, дзеці.
Праўдзівей мяне няма ў свеце!
*(Выбягае Ліса з клункам. Саўка хапае яе за хвост).*
А манюку з манюк я затрымаў –
За рыжы хвост спаймаў!
ЖЫТНЁВЫ КАЛАСОК
Дзень добры, шаноўная кумачка!
ЛІСА
Вось гэта – узор этыкету!
Вось як трэба вітаць кабету!
ЖЫТНЁВЫ КАЛАСОК *(з'едліва)*
Лісачка, кумачка!
Дзе наша курачка?
ЛІСА
Не знаю! Не бачыла! Не сустракала!
(*Нечакана Лісчын клунак развязваецца.*
*З яго ляціць курынае пер'е).*
КАЗА
Ах ты, манюка!
А што тут за пёркі?!
ЛІСА
Дык то ж я купіла!
На падушачкі
Для Саўкі і Андрушачкі,
Саўкавага брата,
Каб падарыць на свята!
*(Вырываецца. Уцякае,*
*След хвастом замятае).*
САЎКА
Бачылі! А я – праўдзівы,
Я – рахманы,
Працавіты, паслухмяны!
Я – не манюка з манюк!
ЖЫТНЁВЫ КАЛАСОК
А ці паслухмяны ты ўнук?
БУЛЬБІНКА
Толькі, Саўка, ты спачатку
Адгадай маю загадку.
Чыю любіш кашку?
Чыю любіш казку?

Чыю любіш ласку?
Хто для цябе, для братоў,
Для сястрычкі
Цэлае лета вязаў рукавічкі?
Хто пірог пячэ на свята?
Каго слухаюцца мама і тата?
САЎКА (шэптам)
Дзеці! Мне дапамажыце!
Адкажыце! Падкажыце!
*(Прыслухоўваецца да падказак і адказвае).*
Цы-бу-лю!
КАЗА
Ха-ха-ха! Слухаюцца цыбулю!
САЎКА *(падумаўшы, пачасаў патыліцу).*
Не! Я… гэта… не цыбулю…
Я хацеў сказаць: ба-бу-лю.
О! Бабуля мяне паважае!
За маё паслушэнства мне дагаджае!
Бо ўнук я – не добры!
Не! Не добры!
Я ўнук – выдатны!
Мяне бабуля гэтак шануе –
Аднымі пірагамі частуе!
БУЛЬБІНКА
А мы зараз пераканаемся,
Як у бабулі тваёй запытаемся!
*(Выходзіць Бабуля. Адразу ж хапае Саўку за вуха).*
БАБУЛЯ
Хто акно пабіў,
На ката зваліў?
Хто смятанку злізаў
І на брата сказаў?
Хто тэлевізар паламаў?
Хто пяць двоек атрымаў
І свой дзённік у макулатуру здаў?
САЎКА
Ой, бабулечка, пусці!
Трэба ў школу мне ісці!
Дай ты мне падсілкавацца –
Пірагом пачаставацца!
БАБУЛЯ
Ты ў мяне пачастунку атрымаеш,
Як бярозавай кашы паспытаеш!
*(Бабуля пайшла. Раптам Каза пачынае плакаць).*
ЖЫТНЁВЫ КАЛАСОК
Што ты, Каза, зажурылася?

Раней ты жыла – весялілася!
А зараз у бубен не б’еш, не скачаш!
А зараз ты горка плачаш!
Мо, Козачка, ты захварэла –
Замнога канюшыны паела?
*(Каза горка плача. Саўка дражніць яе і скача).*
САЎКА
Крыкса! Плакса!
Чорная вакса!
Наплачу ў кош!
Прадам за грош!
Крыкса! Плакса!
Чорная вакса!
БУЛЬБІНКА (з дакорам)
Саўка! Сорам. Сорам!
*(Гладзіць Казу па галаве).*
Скажы, Козачка, скажы рагатая,
Чаму ты сёння на слёзкі багатая?
КАЗА
Ой, як горка!
Ой, як горака!
Ой, як сэрцайка баліць!
Бо ні Юзік, ні Рыгорка
Малака не хочуць піць!
Налілі Сцяпанку –
Ён адсунуў шклянку.
І малая Любачка
Не дапіла з кубачка.
Карова з гора пайшла тапіцца.
І я не магу не журыцца.
ЖЫТНЁВЫ КАЛАСОК
Бульбінка! Бяжы да вады!
Адгавары карову ад бяды!
*(Бульбінка пабегла).*
Не журыся, каза! Тутэйшыя дзеці
Любяць малако больш за ўсё на свеце!
Болей, чым марожанае і пепсі-колу!
Носяць збаночкі з малаком у школу –
Каб падсілкавацца на перапынку.
*(Прыбягае радасная Бульбінка).*
БУЛЬБІНКА
Ты таксама перапыніся на хвілінку!
Карова тапіцца не будзе!
Карова пасецца на лузе!
САЎКА
Я вось таксама люблю малако…

КАЗА
Саўка і дражніцца, Саўка й хвалько…
А ўсё-такі трэба адзначыць Саўку:
Ён як п’е малако – то просіць дабаўку!
*(Саўка падыходзіць да Казы, пэўна, просіць у яе прабачэння).*
САЎКА *(усхліпваючы)*
Я гэтак хачу, каб мяне любілі!
Я гэтак хачу, каб мяне хвалілі
Не за дабаўку, а за добрыя ўчынкі.
Памажыце мне выправіцца, хлопчыкі і дзяўчынкі!
КАЗА
Дапамогуць, Савацей!
Толькі й сам ты папацей!
Не хлусі, не мані!
У падручнік зазірні!
ЖЫТНЁВЫ КАЛАСОК
Хочаш выпраўляцца –
Трэба пастарацца!
БУЛЬБІНКА
І няма чаго баяцца!
КАЗА
Трэба нам ужо ў дарогу.
Дзякуй, госці, за падмогу!
Вы так дружна рагаталі,
Нас так хораша віталі:
Пляскалі ў ладкі,
Адгадвалі загадкі,
На пытанні адказвалі.
САЎКА
І мне падказвалі.
ЖЫТНЁВЫ КАЛАСОК
І шкада, а ўсё ж – бывайце!
БУЛЬБІНКА
Толькі нас не забывайце!
САЎКА
Дружна жывіце!
КАЗА
Хутка расціце!
ЖЫТНЁВЫ КАЛАСОК
Край свой любіце!
БУЛЬБІНКА
Не таму любіце, што за ўсё цяплейшы
Ці прыгажэйшы,
А таму любіце, што за ўсё мілейшы,
За ўсё даражэйшы!
*Заслона.*



## Уладзімір ЯГОЎДЗІК





*Нарадзіўся 2 лютага 1956 года ў вёсцы Кастровічы Слонімскага раёна.Вучыўся ў школах-інтэрнатах, скончыў Белдзяржуніверсітэт. Працаваў у рэдакцыях рэспубліканскіх газет, рэдактарам газеты «Дзеці і мы», часопісаў «Бярозка», «Лесавік».*

*Напісаў і выдаў дзясяткі кніг прозы і п'ес – «Стронга» (1984), «Вочы Начніцы» (1989), «Прыручэнне птушкі» (1989), «Белыя рысы на чорным полі» (1995), «Сонейка, свяці!»(1988), «Янка і Ружа» (1993), «Сем цудаў Беларусі» (1999) «Рэха турынага рога» (2002) і многія іншыя. П'есы ставіліся ў лялечных і драматычных тэатрах Бабруйска, Брэста, Слоніма, Петрапаўлаўска-Камчацкага, на Беларускім радыё і тэлебачанні.*

*Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў. Лаўрэат прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі і літаратурнай прэміі імя Янкі Маўра.*

*Жыве ў Мінску.*

# Чорны млын

П'еса-казка ў 2-х дзеях
па матывах аповесці-казкі Юрыя Брэзана

ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ

Крабат.
Марка.
Матуля.
Малады селянін.
Стары селянін.
Млынар, ён жа —
Першы міністр.
Кароль.
Крыкун.
Парабкі.

У спектаклі таксама ўдзельнічаюць:
Воўк, Заяц,
Пугач,
Чорны кот,
Парсюк,
Крумкачы і Мышыныя акрабаты.

# ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

На зацемненай авансцэне міргае свечка, якую трымае М а т у л я. Гучыць жудлівае ваўчынае выццё.

М а т у л я. Аднойчы на світанні прыляцеў Зорны камень. Ён грукнуўся аб Казачную гару і разламаўся на абломкі. З гэтых абломкаў з'явіўся асілак, якога завуць Крабат. Настане дзень і Зорны камень зноў паімчыць у неба, а пакуль ніхто не ведае, навошта Крабат завітаў на зямлю.

## З'ява першая

На пярэднім перакінуты мосцік. У глыбіні сцэны марудна круціцца кола Чорнага млына. Святло выхоплівае постаць К р а б а т а.

К р а б а т. Праўду людзі кажуць: голад — не цётка. Вось каб мне трапіўся заяц з перабітымі лапамі. Я схапіў бы яго за вушы. А калі ён уцячэ, дык няхай бы стукнуўся ў дрэва. Тады я смачна павячэраў бы...

Раптам выскаквае Заяц. Ён нязграбна чыкільгае, быццам паранены. Крабат кідаецца наўздагон.

Ага, папаўся, куртацік... Я таксама ўмею бегаць...

Здаецца, юнак схапіў Зайца, але звярок вырваўся з рук. А паляўнічы ўдарыўся галавой аб дрэва.

*(Мацае лоб.)* Вось дык прыгода... Не заяц, а я трэснуўся ў дрэва!

Па лесе, быццам рэха, коціцца рогат. Да хлопца падыходзіць М л ы н а р.

М л ы н а р. Вось бачыш, як бывае... Ты гнаўся, а я зловіў. *(Паказвае зайца.)*
К р а б а т. Мне хопіць палавіны, каб добра пад'есці. Я раскладу вогнішча.
М л ы н а р. Навошта? Заяц падспажаны.
К р а б а т *(здзіўлена)*. Падсмажаны?.. Калі ты паспеў?
М л ы н а р. Хто ведае — той умее. *(Дзеліць зайца.)* Пабач, табе дастаўся большы кавалак.
К р а б а т *(прагна есць)*. Ах, які тлусты зайчык! Я даўно не еў такой смакаты.
М л ы н а р. А хочаш зусім забыцца пра голад?
К р а б а т. Цяпер я сыты, а калі прагаладаюся, тады...
М л ы н а р. Тады зноў будзеш думаць пра ежу.
К р а б а т *(смяецца)*. Твая праўда: жывот не падманеш.
М л ы н а р. Скажы мне, дзе твае бацькі?
К р а б а т *(паціскае плячамі)*. Не ведаю, я зусім іх не помню.
М л ы н а р. Значыць, ты сірата?
М л ы н а р. Напэўна, так.
М л ы н а р. А куды ты ідзеш?
К р а б а т (*махае рукой*). Туды...
М л ы н а р. Там стаіць мой млын. Я шукаю работніка. Абяцаю: ты будзеш кожны дзень есці мяса.
К р а б а т. Смачнае паесці я люблю...

М л ы н а р. А на вячэру — аладкі са смятанай.

К р а б а т. Добры харч, але застацца не магу. Я шукаю Кнігу пазнання. Яна ляжыць у чароўным куфры, якім завалодаў шалёны воўк.

М л ы н а р. Гэты куфар стаіць у маёй каморы.

К р а б а т. Ты жартуеш, дзядзька...

М л ы н а р. Успомні, што я сказаў: хто ведае — той умее.

К р а б а т. А куды падзеўся шалёны воўк?

М л ы н а р. Шалёных ваўкоў няма.

К р а б а т. Няпраўда, ёсць!

М л ы н а р. А як ты яго пазнаеш?

К р а б а т. Ён палюе на людзей.

М л ы н а р. Гэта дзіцячая прыдумка, а ўсё астатняе — праўда. У куфры ляжыць кніга. Ключы ад замкоў — у маёй кішэні. *(Паказвае ключы.)* Хочаш паглядзець?

К р а б а т. Ты яшчэ пытаешся?..

М л ы н а р. А чаму на тваёй руцэ белая апаяска?

К р а б а т. Нядаўна я выратаваў дзяўчынку, якая ледзь не патанула ў рэчцы. Яе маці сказала: «Я бедная, нічога не маю, каб аддзячыць. Дык няхай цябе ахіне мая радасць!» І на маёй руцэ з'явіўся гэты знак.

М л ы н а р *(смяецца)*. Вось дык аддзячыла... Ладна, хадзем, ты не пашкадуеш.

Крабат і Млынар ідуць туды, дзе няспынна круціцца млынавае кола.

## З'ява другая

Змрочная камора, падзеленая на дзве палавіны. На адной стаіць вялікі стол, у кутку — жалезны куфар. У другой палавіне прымацаваны паліцы, пазначаныя лічбамі. Над паліцамі — закратаванае акно. Заходзяць М л ы н а р і К р а б а т.

М л ы н а р. Калі адпрацуеш адзін год, я дазволю табе пагартаць Кнігу пазнання. *(Адмыкае замок.)* Праз два гады кніга трапіць у тваё рукі на цэлы дзень. *(Адмыкае другі замок.)* А як адслужыш пяць гадоў, забярэш яе сабе. *(Адмыкае астатнія замкі і дастае кнігу.)*

К р а б а т. Згода, я застаюся! *(Падае левую руку.)*

М л ы н а р. А чаму ты падаў левую, а не правую руку?

К р а б а т. Яна баліць... Я моцна стукнуўся, калі лавіў зайца.

М л ы н а р. Добра, што не скруціў галаву. Выбірай сабе паліцу.

К р а б а т *(спыняецца насупраць акна)*. Я хачу бачыць вечарам зорны карагод, а раніцай — першыя сонечныя промні.

М л ы н а р. Сонца сюды не заглядвае. Надзень гэтую світку.

Крабат апранае світку. Млынар торкае кійком у падлогу. З'яўляюцца шэсць П а р а б к а ў, якія становяцца ў шарэнгу.

*(Пагрозліва.)* Ну?!

П а р а б к і *(разам)*. Шэсць і не больш! Такі млынарскі закон. Хто лішні, няхай скажа сёмы.

М л ы н а р *(Крабату)*. Ты — сёмы, хутчэй выбірай.

К р а б а т. Навошта?

М л ы н а р. Не пытайся.
К р а б а т. А што чакае лішняга?
М л ы н а р. Калі нікога не выбераш, тады не ўбачыш Кнігу пазнання.
К р а б а т. Я хачу пачуць твой адказ.

Парабкі ўвачавідкі ажываюць і з надзеяй пазіраюць на Крабата.

М л ы н а р. Малайчына, ты не баязлівец. Я дам табе сёння пагартаць кнігу. А той, каго ты выбераш, атрымае ў падарунак скураны плашч. І няхай ідзе, куды захоча, яму нельга быць парабкам.
К р а б а т. Чаму?
М л ы н а р. Шэсць і не больш — такі мой закон.
К р а б а т. Я выбіраю гэтага хлопца. *(Паказвае на крайняга Парабка.)*

Хлопец памкнуўся штосьці крыкнуць, але Млынар торкнуў кійком. Парабак асунуўся на падлогу, абярнуўся ў Парсюка і выбег з каморы.

*(Крабат хапаецца за галаву.)* Ты мяне падмануў!
М л ы н а р *(рагоча)*. Няпраўда, я падарыў яму скураны плашч і адпусціў на волю. Хіба гэта ашуканства?
П а р а б к і *(разам)*. Ніякага ашуканства, гаспадар!
М л ы н а р. Прэч, лайдакі!

Млынар торкае кійком. Парабкі абарочваюцца ў крумкачоў і, расхінуўшы крылы, займаюць паліцы.

К р а б а т. Ты абяцаў паказаць Кнігу пазнання.
М л ы н а р. Разумны — не заўсёды мудры.

Млынар кладзе на стол Кнігу і ўзмахам рукі тушыць лямпу.

К р а б а т. Чаму ты патушыў лямпу?
М л ы н а р. Я абяцаў кнігу, а не святло.
К р а б а т. У цемры нельга чытаць.
М л ы н а р. Я не люблю, калі мне пярэчаць. Ты яшчэ не дарос да гэтай мудрасці.

Млынар торкае кійком. Крабат абарочваецца ў крумкача і займае паліцу. А вядзьмак прысаджваецца да стала і схіляецца над кнігай.

К р а б а т-к р у м к а ч *(шэптам)*. Хлопцы, ён адзін, а нас шасцёра...
1-ы К р у м к а ч. Пабач, на акне жалезныя краты...
2-ы К р у м к а ч. Мы стаміліся, нам трэба адпачыць...
3-ы К р у м к а ч. Пакуль наш пот цурчыць залатымі кроплямі, вядзьмак нас не загубіць...

Крабат-крумкач дакранецца лапай з белай апаяскай да кратаў, і яны рассоўваюцца. Праз імгненне ён нячутна апускаецца за спіной Млынара.

М л ы н а р *(чытае ўголас)*. «Прыйдзе юнак з белай апаяскай на правай руцэ. Твой памочнік — ніякага клопату. Няма памочніка — твой клопат». Я зраблю ўсё, каб не мець клопату. *(Чытае далей.)* “Пакуль працуе млын, пот парабкаў цурчыць золатам. Толькі маці можа вызваліць свайго сына...» *(Задаволена.)* У Крабата няма бацькоў...

Расхінуўшы крылы, Крабат-крумкач пакідае камору. Млынар хавае Кнігу пазнання ў куфар.

### З'ява трэцяя

На падворку рохкае П а р с ю к. З каморы выходзяць М л ы н а р і К р а б а т.

М л ы н а р. Пабач, ты дарэмна злаваўся. Парабак застаўся каля млына. Загані яго ў хлеў.
К р а б а т. Навошта?
М л ы н а р. Ён прывык, каб яго кармілі і даглядалі.

Крабат адчыняе загараду, парсюк подбегам кідаецца ў хлеў.

К р а б а т *(заглядвае ў загараду)*. Ого,тут цэлы статак...
М л ы н а р. Палічы, колькі там галоў.
К р а б а т (*лічыць)*. Адна, дзве, тры... Сем разам з апошнім парсюком.
М л ы н а р. Малайчына, добра лічыш. Гэй, парабкі!

На падворку з'яўляюцца П а р а б к і.
П а р а б к і *(разам)*. Шэсць і не больш! Такі млынарскі закон.
М л ы н а р. Я дазваляю вам забіць лішнюю свінню.

Апусціўшы галовы, Парабкі маўчаць. Потым адзін робіць крок наперад.
П а р а б а к. Гаспадар, мы не галодныя.
М л ы н а р. Ты жартуеш... Хіба можна адмовіцца ад свежаніны?
П а р а б а к. Не, мы не будзем есці.
М л ы н а р. Тады я павячэраю адзін. За работу, лайдакі! *(Крабату і Марку.)* А з вамі я хачу паагварыць.

Парабкі кідаюцца з падворка. Млынар ідзе ў камору. Крабат і Марка застаюцца адны.

К р а б а т. Як цябе зваць?
П а р а б а к. Марка.
К р а б а т. Чаму ты адмовіўся ад свежаніны?
М а р к а. Вядзьмак абярнуў нашых сяброў у свіней.
К р а б а т. Няўжо іх нельга выратаваць?
М а р к а. Каго ён з'есць, таго назад не вернеш...
К р а б а т. Мы вызвалім астатніх. Ты згодны?
М а р к а. Згодны.
К р а б а т. Скажы, дзе жыве твая маці?
М а р к а. За Чорнай багнай. У хаце пад старой ліпай.
М л ы н а р *(з каморы)*. Ці доўга я буду вас чакаць?!

### З'ява чацвёртая

М л ы н а р сядзіць за сталом і грызе костку. Перад ім стаяць К р а б а т і М а р к а.

М л ы н а р. Частуйся, Крабат. Гэтае мяса салодкае, як зайчаціна.

К р а б а т. Я сыты, гаспадар.

М л ы н а р. Хто не дрыжыць ад страху, той варты лепшай долі, чым быць парсюком. Я хачу прызначыць вас маімі памочнікамі.

М а р к а. Мы згодныя, гаспадар.

М л ы н а р. Але спачатку хачу пераканацца ў вашай адданасці.

К р а б а т. Мы табе адданыя, гаспадар.

М л ы н а р. Я не веру аніводнаму слову.

М а р к а. Мы цябе не падвядзем, гаспадар!

Млынар дастае паясы, вытканыя з чырвоных і чорных нітак, і падпярэзвае хлопцаў.

М л ы н а р. Гэта чарадзейныя паясы. Яны ператвараюць людзей у жывёл. Вы таксама можаце абярнуцца ў каго захочаце. Аднак запомніце: я знайду вас усюды – і пад зямлёй, і пад вадой. Я на тры дні адлучуся на кірмаш. За гэты час вам трэба змалоць мех золата. Калі не зможаце, я знайду іншых памочнікаў.

К р а б а т. Мы зможам, гаспадар!

Млынар абарочваецца ў пугача і, расхінуўшы крылы, вылятае з каморы.

М а р к а *(спалохана)*. Братка, што нам рабіць?

К р а б а т. Спачатку пачытаем Кнігу пазнання.

М а р к а. А мы адчынім куфар?

К р а б а т. Паспрабуем...

Узмахвае рукой з белай апаяскай. Замкі з бразгатам падаюць на падлогу. Крабат дастае з куфра кнігу.

*(Чытае ўголас.)* «Шэсць і не больш — такі млынарскі закон. Шэсць і адзін — адзін лішні. Лішні абарочваецца ў свінню...» *(Марку.)* Схавай кнігу на паліцу. Ты здабывай золата, а я знайду тваю матулю. *(Ператвараецца ў Крумкача і знікае за кратамі.)*

### З'ява пятая

Каля акна стаіць М а т у л я ў чорным жалобным адзенні. На падваконні міргае свечка. У дзвярах з'яўляецца К р а б а т.

К р а б а т. Дзякуй вам, цётухна.

М а т у л я. За што ты мне дзякуеш?

К р а б а т. Я заблудзіўся, але ўбачыў вашу свечку.

М а т у л я *(прыносіць ежу)*. Ты з дарогі, падсілкуйся...

К р а б а т. А чаму вы ў хаце адна? Дзе ваш муж? Дзе вашы дзеці?

М а т у л я. Мой муж загінуў на вайне. Старэйшага сына забралі ў войска, а малодшы пайшоў у белы свет шукаць лепшай долі і не вярнуўся.

К р а б а т. Яго завуць Марка?

М а т у л я *(здзіўлена)*. Ты бачыў Марку?! Што з ім здарылася?..

К р а б а т. Ён трапіў у няволю да млынара-ведзьмака.

М а т у л я. Ты ведаеш, як яго вызваліць?

К р а б а т. Вам трэба прыйсці да млына і запатрабаваць сына. Вядзьмак адчыніць камору. Вы ўбачыце там крумкачоў. Чатыры схаваюць дзюбу пад левае

крыло, а пяты — пад правае. Гэта будзе ваш Марка.

М а т у л я. А што чакае цябе?

К р а б а т. Я сірата, таму застануся ў няволі.

М а т у л я. Сынок, ты не сірата... *(Абнімае Крабата.)* Ты таксама мой сын.

К р а б а т. Дзякуй, мама! На маім крыле вы ўбачыце белую апаяску. *(Паказвае пояс Млынара.)* Да раніцы трэба выткаць два пояскі, падобныя на гэты.

М а т у л я. Я паспею. Вядзьмак не адрозніць.

### З'ява шостая

Парабкі прыносяцьу камору мех золата. М а р к а развязае мех і перасыпае на далонях золата.

М а р к а. Праклятыя вядзьмак!.. Мы працуем ад світання да змяркання, наш пот цурчыць золатам, а ён багацее. Я пакіну сабе адну жменьку. *(Шукае, куды схаваць золата.)*

У камору прылятае крумкач і абарочваецца ў К р а б а т а.

*(Узрадавана.)* Ты знайшоў маю маці?

К р а б а т. Заўтра яна прыйдзе сюды. *(Аддае паясок.)* Завяжы пояс Млынара пад кашулю, а матулiным — падперажы світку.

М а р к а *(падпярэзваецца)*. Давай уцячэм і забярэм золата.

К р а б а т. Млынар нам адпомсціць.

М а р к а. Няхай паспрабуе...

К р а б а т. Ён прывядзе новых парабкаў і нічога не зменіцца. Нам трэба знішчыць яго вядзьмарскую сілу.

У камору прылятае пугач і абарочваецца ў М л ы н а р а.

М л ы н а р *(глядзіць у мяшок)*. Тут не хапае золата!

К р а б а т. Гаспадар, ты вярнуўся раней часу.

М л ы н а р. Вы нікчэмныя лайдакі!

М а р к а. Мы выціснулі апошнія кроплі поту.

М л ы н а р. Вы мяне падманулі! *(Забірае свае паясы.)*

Абарочвае парабкаў у крумкачоў і перасыпае на далонях золата. На парозе з'яўляецца М а т у л я.

М л ы н а р. Хто ты такая?

М а т у л я. Я маці.

М л ы н а р. Што табе трэба?

М а т у л я. Адпусці майго сына.

М л ы н а р. Ідзі прэч, старая! Яго тут няма.

М а т у л я. Яго завуць Марка.

М л ы н а р *(раз'юшана)*. Ты дарэмна прыцягнулася.

М а т у л я. Я не пайду, пакуль не ўбачу сына.

М л ы н а р *(паказвае на крумкачоў.)* Ну, каторы твой Марка? Калі адгадаеш, забярэш, а як памылішся, яму не здабраваць.

М а т у л я *(паказвае на крайняга крумкача)*. Гэта малодшы мой сын.

Крумкач абарочваецца ў Маркуі абнімае Маці.

М л ы н а р. Прэч з каморы!..

М а т у л я *(паказвае на крумкача з белай апаяскай).* А вось мой старэйшы сын.

М л ы н а р. Ты звар'яцела! Ён круглы сірата.

М а т у л я. Няпраўда, у яго ёсць маці. Яна перад табой.

М л ы н а р. Калі ты хлусіш, ён стане ваўком.

М а т у л я. Аддай майго сына!

Крумкач з белай апаяскай расхінае крылы і набывае аблічча Крабата.

К р а б а т. Дзякуй, мама!

М а р к а. Дзе мой заробак?

М л ы н а р. Я цябе апранаў і карміў, таму нічога табе не павінен.

К р а б а т *(хавае пад світку Кнігу).* Млынар, мы хутка сустрэнемся!

Матуля, Крабат і Марка пакідаюць камору. Млынар абнімае мяшок золата.

## З'ява сёмая

Каля печы завіхаецца М а т у л я. За сталом сядзяць К р а б а т і М а р к а.

М а т у л я *(ставіць на стол гаршчок).* Сыночкі, паснедайце. Я самая шчаслівая на свеце.

М а р к а. Заўтра мы купім свіней і загонім да млынара. А сяброў ператворым у людзей.

М а т у л я. У нас няма грошай, сынок.

М а р к а. А што ў гэтым гаршку?

М а т у л я. Звараная бульба.

М а р к а. Пабач, ты памылілася! (*Высыпае з гаршка манеты.)*

М а т у л я *(здзіўлена).* Залатыя дукаты... Адкуль яны ўзяліся?

М а р к а *(смяецца).* Дапамог чарадзейны пояс.

К р а б а т. Апоўначы гэтае золата разліецца слязамі. А селянін, які прадасць нам свіней, застанецца без дукатаў. Вядзьмак з'есць свежаніну, а нашы сябры застануцца ў няволі.

М а р к а. Пачытай Кнігу пазнання. Там напісана, як здабыць перамогу.

К р а б а т. Няхай яны ляжыць у падпечку. *(Аддае Матулі кнігу.)* Я выклічу ведзьмака на бойку.

М а р к а. У цябе няма зброі.

К р а б а т. Затое хопіць сілы, каб скруціць яго ў барані рог.

Матуля кідае Кнігу пазнання ў падпечак і вяртаецца, трымаючы ў руцэ меч.

М а т у л я. Гэта бацькаў меч. *(Аддае Крабату меч.)*

М а р к а. Пабач, які іржавы і тупы.

М а т у л я. Ён спыняў варожую навалу.

К р а б а т. Дзякуй, мама. Цяпер ведзьмаку не здабраваць.

М а р к а. Я пайду з табою!

К р а б а т. Калі я загіну, паднімай людзей на змаганне. Ігакш іх сыны стануць парабкамі.

М а р к а. Я буду побач і прыйду табе на падмогу.

### З'ява восьмая

Разлютаваны М л ы н а р з грукатам зачыняе куфар.

М л ы н а р. Пракляцце, яны ўкралі Кнігу пазнання! А замест чарадзейных паясоў падсунулі мне сялянскія. *(Шпурляе паясы на падлогу.)*

У камору заходзяць П а р а б к і.

1-ы П а р а б а к. Гаспадар, шэсць і не больш — такі млынарскі закон.

2-ы П а р а б а к. А мы засталіся ўчатырох, таму не сыплецца золата.

М л ы н а р. Прыганіце сюды парсюкоў!

Парабкі выконваюць загад. Млынар торкае кійком. Два парсюкі абарочваюцца ў хлопцаў.

М л ы н а р *(хапае за шкірку хлопца).* Ты ведаеш, што ты свіння?

П а р а б а к. Ведаю, мой пане!

М л ы н а р. Ты хочаш быць наглядчыкам?

П а р а б а к. Хачу, мой пане!

М л ы н а р *(дае бізун).* Карай без літасці, каб ніводзін не разгінаўся!

П а р а б а к. Добра, мой пане! *(Замахваецца на парабкаў.)*

М л ы н а р. Дурань, трэба вось так… *(Хвошча бізуном хлопца.)*

П а р а б а к. Я зразумеў, мой пане! *(Няшчадна б'е Парабкаў.)*

Млынар заходзіцца ад рогату. Парабкі выбягаюць. У камору заходзіць К р а б а т.

К р а б а т. Ты рана весялішся, млынар.

М л ы н а р. Аддай Кнігу пазнання, пакуль твая галава на плячах.

К р а б а т. Я не прачытаў яе да канца.

М л ы н а р. Вярні мае паясы, і я дарую табе жыццё.

К р а б а т. Матуліны пояскі прыгажэйшыя. Пакінь сабе іх на памяць. Я прыйшоў, каб вызваліць таварышаў.

М л ы н а р. Адсюль дарогі назад няма.

Вядзьмар кідаецца на Крабата. Хлопец бароніцца, выхапіўшы бацькаў меч. Камору ахінаюць чырвоныя сполахі.

Я цябе спалю, а попел развею па свеце!

На авансцэну выбягае М а р к а. Насустрач яму шугае полымя.

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

### З'ява першая

М а р к а гартае Кнігу пазнання. Побач стаіць М а т у л я.

М а т у л я. Сынок, можа, ты памыліўся? Можа, табе здалося?
М а р к а. Я чуў, як ён зароў: «А твой попел развею па свеце!..»
М а т у л я. Маё сэрца спынілася б, каб загінуў Крабат.
М а р к а. Я кінуўся на падмогу, але трапіў у полымя.
М а т у л я. Цяпер Млынар не абміне нашу хату.
М а р к а. Няхай прыходзіць, я таксама ўмею вядзьмарыць.
М а т у л я *(спалохана)*. Ты навучыўся штукарыць?
М а р к а. Я прачытаў Кнігу пазнання. А яшчэ ў мяне ёсць чарадзейны пояс. *(Узмахвае поясам і знікае.)*
М а т у л я *(азіраецца)*. Куды ты знік?
М а р к а. Я побач з табой.
М а т у л я. Пакінь свае жарцікі…
М а р к а. Паглядзі на стол.
М а т у л я. Я цябе нідзе не бачу.
М а р к а. Чуеш, як звініць камарык?
М а т у л я. Дзе?
М а р к а. На кніжнай старонцы.
М а т у л я *(нахіляецца)*. Ён ледзь прыкметны… Сынок, цябе зловіць павук!
М а р к а *(набывае чалавечае аблічча)*. Няхай паспрабуе!
М а т у л я. Марка, заставайся чалавекам. Пакуль мы разам, вядзьмак не пераступіць наш парог.
М а р к а. Не, я схаваюся там, куды Млынар не знойдзе дарогу.
М а т у л я. А калі з'явіцца Крабат… Што яму перадаць?
М а р к а. Няхай прыйдзе ў каралеўскі палац.
М а т у л я *(здзіўлена)*. У каралеўскі палац?
М а р к а. Мама, ты хутка забудзеш пра гэтую старую хаціну. Цябе чакаюць каралеўскія пакоі.
М а т у л я. Што ты пляцеш? Адумайся, сынок!
М а р к а. Да хуткай сустрэчы, мама!
Марка ўзмахвае чароўным поясам і знікае.

### З'ява другая

На троне сядзіць К а р о л ь. Побач стаіць П е р ш ы  м і н і с т р, трымаючы паперкі.

П е р ш ы  м і н і с т р. Ваша каралеўская вялікасць! Зубонскі цар кланяецца вам і жадае…
К а р о л ь. Мне гэта абрыдла слухаць!..

П е р ш ы   м і н і с т р *(шпурляе паперку на падлогу).* Ваша каралеўская вялікасць! Пузонскі цар кланяецца вам і зычыць...

К а р о л ь *(тупае нагамі).* Я стаміўся! Пакліч скамароха!

П е р ш ы   м і н і с т р. Ёсць, ваша ягамосць! *(Пляскае далонямі.)*

У залу подбегам спяшаецца М а р к а.

М а р к а. Я да вашых паслуг, ваша каралеўская вялікасць!

К а р о л ь. Хутчэй развесялі мяне, пакуль я не лопнуў ад злосці!

М а р к а. Славуты мышыны цырк! Гоп!.. Ля-ля!.. Гоп!.. Ля-ля!..

З'яўляюцца мышыныя акрабаты з прывязанымі да хвастоў банцікамі і пачынаюць цыркавое відовішча.

К а р о л ь *(смяецца).* Якія прыгожыя банцікі!

П е р ш ы   м і н і с т р. Брава!.. Брава!..

К а р о л ь. Прышпілі скамароху медаль.

Першы міністр выконвае каралеўскі загад.

М а р к а *(кланяецца).* Дзякуй вам, каралеўская вялікасць! Гоп!.. Ля-ля!.. Гоп!.. Ля-ля!..

Мышыныя акрабаты, схапіўшы адзін аднаго за хвосцік, водзяць карагод.

К а р о л ь. Ха-ха-ха!.. Якія тонкія хвосцікі!..

П е р ш ы   м і н і с т р. Брава!.. Брава!..

К а р о л ь. Прышпілі скамароху ордэн!

Першы міністр выконвае каралеўскі загад.

М а р к а. Ваша каралеўская вялікасць! А зараз вас пацешыць Мышыны князь!

Марка знікае. Мышыныя акрабаты выцягваюць залатую карэту, у якой важна сядзіць Чорны кот з белым ашыйнікам.

К а р о л ь. Ха-ха-ха!.. Сапраўдны князь!

П е р ш ы   м і н і с т р. Ваша вялікасць, у катоў не бывае ашыйнікаў.

К а р о л ь. Дурань, цяпер такая мода!

П е р ш ы   м і н і с т р. Гэта не князь, а разбойнік. *(Хапае ката за шкірку.)*

К а р о л ь *(абурана).* Што ты робіш, нягоднік?

П е р ш ы   м і н і с т р. Ён хацеў завалодаць вашым каралеўствам.

К а р о л ь *(хапаецца за трон).* Мне страшна... я баюся...

Першы міністр шпурляе ката на падлогу. Праз імгненне каля трона з'яўляецца М а р к а .

П е р ш ы  м і н і с т р *(трасе поясам)*. Я сказаў праўду?
М а р к а *(падае на калені)*. Даруй мне, гаспадар!
П е р ш ы  м і н і с т р. Ты быў і застанешся парабкам.
К а р о л ь. Пасадзі яго на ланцуг!
П е р ш ы  м і н і с т р. Ваша вялікасць, я падрыхтаваў іншы сюрпрыз...

Першы міністр узмахвае чарадзейным поясам і абарочвае Марку ў пугача.

К а р о л ь. А-я-я-яй!.. Гэта д'ябал!..

Расхінуўшы крылы, Марка-пугач знікае з палаца. Першы міністр з рогатам сцягвае маску і ператвараецца ў Ч о р н а г а  м л ы н а р а.

### З'ява трэцяя

На паляну выходзіць К р а б а т з падвязанай рукой. Ён спыняецца, азіраецца вакол сябе.

К р а б а т. Я загнаў Млынара ў кут, але ён вырваўся з каморы. *(Азіраецца.)* Напэўна, ён затаіўся, каб напасці знянацку.

Раптам вакол Крабата пачынае кружыцца П у г а ч.

П у г а ч *(жудліва)*. У-ху-ху-ху-у-у!..
К р а б а т *(выхоплівае меч)*. Цяпер ты не ўцячэш, вядзьмак!

Пугач, працяты мечам, падае на зямлю. З'яўляецца постаць М а р к і.

М а р к а. Даруй мне, брат...
К р а б а т. Марка!.. Марка!.. *(Кідаецца да Маркі.)*
М а р к а. Ты не вінаваты ў маёй смерці...
К р а б а т. Што я скажу Матулі?!

Крабат ідзе, трымаючы на руках Марку. Навокал разлягаецца дзікі рогат, падобны на ваўчынае выццё.

### З'ява чацвёртая

Калодзежны журавель. Два селяніны налiваюць ваду. Падбягае К р ы к у н.
К р ы к у н *(спыняецца)*. Крабат забіў свайго брата! Млынар дараваў яму жыццё, а Крабат забіў...
С т а р ы  с е л я н і н. Млынар — гэта сіла, а мы казюркі. Ён раздушыць нас адным пазногцем.
К р ы к у н. Кароль падарыў Крабату маёнтак! Цяпер ён сядзіць побач з Млынаром!

М а л а д ы  с е л я н і н. Я хацеў да яго далучыцца, але нам не па дарозе.
К р ы к у н. Крабат крыўдзіць бедных людзей!

Да калодзежа падыходзіць К р а б а т.

К р а б а т. Хто табе гэта сказаў?
К р ы к у н. У мяне ёсць дакладныя звесткі.
К р а б а т. Адкуль?.. Мабыць, гэта гандлярская таямніца…
К р ы к у н. Так, так, мая таямніца.
К р а б а т. Дык значыць, ты гандлюеш… А які маеш прыбытак?
К р ы к у н. Я не хачу з табой гаварыць.
К р а б а т *(хапае Крыкуна за каўнер).* А мы папросім. *(Да сялян.)* У яго кішэнях штосьці бразгоча...
С т а р ы  с е л я н і н. І сапраўды, бразгоча.
К р а б а т *(Маладому селяніну).* Вывернi яго кішэні.
М а л а д ы  с е л я н і н *(запускае руку ў кішэнь).* Ого, цэлая жменя срэбранікаў!
С т а р ы  с е л я н і н. Я добра ўмею лічыць. Давай іх сюды!
К р ы к у н. Гэта разбой!

Малады селянін аддае срэбранікі Старому селяніну.

С т а р ы  с е л я н і н *(лічыць грошы).* Пяць, дзесяць, дваццаць, дваццаць пяць, трыццаць…
К р а б а т. Ён прадаўся за трыццаць срэбранікаў. Хто табе заплаціў?
К р ы к у н. Я забыўся...
К р а б а т. Нічога, хутка ўспомніш.

Крабат чапляе Крыкуна да калодзежнага жураўля і апускае ў зруб. Потым выцягвае — мокрага, якануча.
М а л а д ы  с е л я н і н. Успомніў?
К р ы к у н *(заікаецца).* Не-не-не-не....
С т а р ы  с е л я н і н. Шабултыхні яшчэ раз!
К р ы к у н. Мне заплаціў млынар…
М а л а д ы  с е л я н і н. А хто цябе навучыў брахні?
К р ы к у н. М-м-м-лынар...
С т а р ы  с е л я н і н. Перадай, што яму нядоўга засталося баляваць. *(Дае Крыкуну выспятка).*

Крыкун пад галёканне кідаецца наўцёкі.

К р а б а т *(сялянам).* Бывайце здаровыя. Мы яшчэ ўбачымся.
С т а р ы  с е л я н і н. Сустрэнемся каля млына!
М а л а д ы  с е л я н і н *(спявае).*
Пакуль пад ліпай стаіць
Матуліна хата старэнькая,
Пакуль на свеце гарыць
Полымя неўтаймаванае,

Пакуль у сэрцах жыве
Прага да шчасця і волі,
Датуль бузе з намі Крабат!
Наш Крабат-герой!

### З'ява пятая

Каля акна стаіць М а т у л я ў жалобным адзенні. У дзвярах спыняецца К р а б а т.

М а т у л я. Гэта праўда, сынок?
К р а б а т *(схіляе галаву)*. Праўда, мама.
М а т у л я. Раскажы, як загінуў Марка.
К р а б а т. Ён не змагаўся, а стаў каралеўскім скамарохам. Млынар абярнуў яго ў пугача. Я падумаў, што гэта вядзьмак і выхапіў меч... Падайце мне Кнігу пазнання.

Рве Кнігу пазнання і кідае ў печ. Потым шпурляе туды чарадзейны пояс.

М а т у л я. Чаму ты гэта зрабіў?
К р а б а т. Я спаліў вядзьмарскія чары.
М а т у л я. Яны табе больш не спатрэбяцца?
К р а б а т. Чары дурманяць людзей.
М а т у л я. Млынар залье нашу зямлю крывёй.
К р а б а т. Ён не зможа, калі спыніцца Чорны млын.
М а т у л я. Хто яго разбурыць?
К р а б а т. Вашы сыны, мама. *(Выграбае вуголле.)* Гэтыя іскрынкі абуджаюць мужныя сэрцы.
М а т у л я. Яны не пагаснуць, сынок.

Матуля кладзе вуголле ў гаршчок і выходзіць з хаціны.

### З'ява шостая

Каля куфра стаіць М л ы н а р. У камору баязліва заглядвае К р ы к у н.

М л ы н а р. Што ты пранюхаў?
К р ы к у н. Я прынёс добрыя весткі...
М л ы н а р. Кажы хутчэй!
К р ы к у н. Спачатку разлік, Млынар.
М л ы н а р. Каб ты падавіўся!.. *(Шпурляе манеты.)* Што чуваць пра Крабата?
К р ы к у н. Пра яго пяюць песні.
М л ы н а р. Ты абяцаў мне добрыя весткі.
К р ы к у н. Крабат загіне, калі зруйнаваць хату ягонай матулі.
М л ы н а р. Не зруйнаваць, а спаліць!
К р ы к у н. Я гэта зрабіў, засталіся адны галавешкі.

М л ы н а р *(шпурляе манеты)*. Ты самая разумная свіння.

У камору заходзіць П а р а б а к.

П а р а б а к. Гаспадар, спыніўся млын. Людзі асушылі багну.
М л ы н а р. Хто іх прывёў?
П а р а б а к. Маці забітага Маркі.
К р ы к у н. Я думаў, што яна згарэла…
М л ы н а р. Пакліч астатніх парабкаў.
П а р а б а к. Яны далучыліся да непакорных.
М л ы н а р. Я абярну вас у парсюкоў!

Млынар торкае кіёйком. Крыкун і Парабак падаюць на калені, але застаюцца з чалавечым абліччам.

Пракляцце, яны знішчылі мае чары… Затое ў мяне ёсць золата. Цэлы куфар золата! Я пабудую новы млын. Тады ім не здабраваць!

### З'ява сёмая

У камору заходзіць К р а б а т.
М л ы н а р. Крабат, давай сябраваць. *(Працягвае руку.)* Пацісні мне руку.
К р а б а т. Гэта не рука, в воўчая лапа.
М л ы н а р. Ты паверыў дзіцячым казкам. *(Адчыняе куфар.)* Я аддам табе палову золата.
К р а б а т. Гэта не золата, а людская кроў.
М л ы н а р. Хочаш, забірай млын. Толькі адпусці мяне…
К р а б а т. Ты не выйдзеш адсюль жывым!

Вядзьмак хаваецца за куфар. Праз імгненне выскаквае ашчэраны В о ў к, які кідаецца на Крабата.

### З'ява восьмая

У каморы заходзяць М а л а д ы с е л я н і н і С т а р ы с е л я н і н. Пбодва трымаюць у руках драўляныя доўбні.

К р а б а т. Хлопцы, вы якраз паспелі...
М а л а д ы с е л я н і н. Адхіліся, браток!
С т а р ы с е л я н і н. Голымі рукамі яго не возьмеш.
М а л а д ы с е л я н і н. Гэтую пачвару даўно чакае доўбня!

Малады селянін апускае дубіну на воўчую галаву. Разлягаецца жудаснае выццё. Камору ахінаюць прыцемкі. На авансцэне з'яўляецца жаночая постаць.

М а т у л я. Легенда расказвае... Аднойчы прыляцеў зорны камень. Ён грукнуўся аб казачную гару і разламаўся на кавалкі. Так з'явіўся асілак па імені Крабат. Настане дзень і зорны камень зноў паімчыць у неба. А пакуль Крабат жыве сярод людзей, ён зробіць усё, што павінен зрабіць сапраўдны асілак.

Пражэктар выхоплівае ваўчыную шкуру з ашчэранай пашчай

Заслона



## Сяргей ЁРШ





*Нарадзіўся ў 1972 годзе ў Слоніме. Аўтар кніг і публікацый, прысвечаных дзейнасці беларускага нацыянальнага антынацысцкага і антысавецкага Супраціву, гісторыі Слонімшчыны. Адзін з укладальнікаў кнігі творчай спадчыны слонімскага паэта Язэпа Вількоўшчыка "Прыкрыты сэрца боль" (2015). Лаўрэат прэміі імя Францішка Багушэвіча за кнігу "Вяртаньне БНП. Асобы і дакумэнты Беларускай Незалежніцкай Партыі" (1998). Адзін з выдаўцоў і рэдактараў гісторыка-краязнаўчага электроннага месячніка "Слонімскі край" з 2016 года.*

*Жыве ў Мінску.*

# Ліставанне паэта Анатоля Іверса ў мінскіх архіўных зборах

Творчая спадчына слонімскага паэта Анатоля Іверса (Івана Дарафеевіча Міско, 1912 — 1999) ужо часткова даследавана і выдадзена.[1] Аднак даследчую працу трэба працягваць. Аўтару гэтых радкоў пашчасціла адшукаць ліставанне паэта ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі і ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва.[2] Першая яго частка вельмі цікавая, яна адносіцца да другой паловы 1930-х гадоў. Менавіта тады ў заходнебеларускім друку прагучала імя таленавітага паэта Анатоля Іверса. Другая частка ліставання паходзіць з 1960-1970-х гадоў. Яе захаваў літаратуразнаўца з Брэста Уладзімір Калеснік. З лістоў Івана Дарафеевіча відаць, як няпроста яму жылося ў той час. Савецкія ўлады не прызнавалі антыфашысцкую арганізацыю, якой ён кіраваў падчас нямецкай акупацыі, яго звальнялі з працы, стваралі неспрыяльныя ўмовы для творчасці. Паэту Іверсу даводзілася працаваць у лесе, карчаваць пні і ездзіць на курсы "падрыўнікоў"...

## Зорны час слонімскага паэта

З Іванам Дарафеевічам Міско я пазнаёміўся ў 1995 годзе. Ад таго часу рэгулярна заходзіў у яго дом у Слоніме, падоўгу размаўлялі. Мяне найперш цікавілі падзеі Другой сусветнай вайны на Слонімшчыне, якія Іван Дарафеевіч добра памятаў. Цяпер шкадую, што зусім мала цікавіўся міжваенным часам, зорным часам для паэта.

Памятаю, што на паліцы ў кніжнай шафе стаяў камплект віленскага беларускага часопіса "Калосьсе", які выдаваўся ў 1935-1939 гадах. Гэта — найлепшае літаратурна-мастацкае выданне Заходняй Беларусі, каля якога

гуртаваліся маладыя творчыя сілы. У тым ліку і паэт Анатоль Іверс, ён жа Іван Міско. Іван Дарафеевіч вельмі даражыў “Калосьсем”, ганарыўся, што быў сярод яго аўтараў.

Іверс упершыню надрукаваўся ў віленскім часопісе ў канцы 1937 года і ад таго часу яго вершы з’яўляліся ў кожным нумары! Такое стабільнае месца на старонках часопіса мелі хіба толькі Максім Танк і Міхась Машара. Гэта паказвае, што рэдакцыя цаніла талент паэта са Слонімшчыны, старалася яго падтрымаць. Агулам былі надрукаваныя 19 вершаў.

У архіўных зборах Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі ў Мінску аўтару гэтых радкоў удалося перагледзець справу з вершамі і лістамі Анатоля Іверса, дасланымі ў рэдакцыю “Калосься”.[3] Яе сфармавалі ў 1984 годзе і да 2018-га ніхто ў папку не зазіраў! Яшчэ адзін ліст слонімскага паэта ў “Калосьсе” (праз беларускую кнігарню ў Вільні) адшукаў у іншай архіўнай справе з ліставаннем аўтараў і чытачоў у справе падпіскі на выданне.[4] Менавіта з яго і пачнем. Ліст ад снежня 1935 года напісаны на паштоўцы. У ім Іван Дарафеевіч прызнаецца, што выпадкова даведаўся пра існаванне ў Вільні часопіса “Калосьсе”, просіць даслаць некалькі першых нумароў (што і было выканана), коратка, але трапна апісвае сітуацыю беларускага руху на вёсцы. Толькі адрасныя дадзеныя на паштоўцы былі напісаныя па-польску, астатні тэкст — па-беларуску.

Міско Іван с[ын] Дарафея
в[ёска] і гм[іна] Чамяры
пав[ет] Слонім

Прашу передаць гэтую паштоўку ў рэд[акцыю] “Калосься”, за што застаюся вельмі ўдзячны.

І. Міско

Слонім, 19.XII.[1935 г.]

Паважаная Рэдакцыя!

Сучаснае жыццё беларускае вёскі шмат розьніцца ад папярэдняга з прычыны адсутнасьці беларускіх культ[урна]-асьветных арганізацыяў і беларускае прэсы. А нам трэба кніжкі, нам трэба газэты! Тады мы шпарчэй пойдзем наперад у кірунку нац[ыянальна-] вызв[ольнага] руху.

Усё гэта ведаючы і адчуваючы (я прыпадкова даведаўся, што ў Вільні выходзяць “Калосься”)[,] зварочваюся з просьбаю да Пав[ажанай] Рэд[акцыі] выслаць мне пару пробных нумароў Вашае часопісі “Калосься” і то па магчымасьці першых.

З свайго боку, як азнаёмлюся з часопісьсю і як спадабаецца, абяцаю прыслаць падпісную плату і па магчымасьці супрацоўнічаць.

З пашанай

І. Міско[5]

Далей быў працяглы перапынак у кантактах Анатоля Іверса з рэдакцыяй. У 1936 годзе ён крыху друкаваўся ў віленскім часопісе “Шлях моладзі”. У іншай

архіўнай папцы на вузкім аркушыку з вершамі знайшоўся кароткі ліст, ці хутчэй запісачка паэта:

Хацелася б мець лучнасьць з “Калосьсем” і з усімі беларуск[імі] часапісамі, але цяжкія варункі абмежваюць маю прадукцыю і не дазваляюць рабіць выдаткі.

З свайго боку буду старацца ўсё паканаць і раз навязанай лучнасьці з “Кал[осьсем]” не парываць.

Анатоль Івэрс

12.X.37.[6]

Верш “На далёкіх курганах” з гэтага ж аркушыка быў аператыўна надрукаваны ў “Калосьсі”, у чацвёртай кніжцы (нумары) за той год. А вось іншы верш “Золата восені” рэдакцыя не публікавала. Яго Іверс прысвяціў беларускай паэтцы Наталлі Арсенневай (у 1920-я яна жыла ў Слоніме), з творчасцю якой пазнаёміўся ў беларускім друку, у тым ліку і ў “Калосьсі”. Першая яго публікацыя адбылася ў месячніку “Слонімскі край”.[7]

## Золата восені

Прысьв[ячаю]
Н. Арсеньневай

Чырвоным золатам зара,
Лягла на золата асінаў
І павуцінаю зараз
Пасерабрылася краіна.
І ўсьмешкай спозьненаю стрэх
Застылі вёскі ў небасхіле.
Ніхто тых думак не сатрэ,
Што галаву на грудзі хіляць...
Не казкай сьцелюцца лісты
На адцьвітаючым пахмельлі,
Не вецер ў туманох густых
Зару румяную кудзеліць.
То — палыновае быльлё
Шуміць аб доўгім перадноўку —
І павуціньне нібы лён
На ім павісла белым шоўкам.
Якой дарогаю пайсьці
З бяды галодным караванам?
А восень — золатам шасьціць,
А восень — сьцелецца дыванам.[8]

Выглядае так, што рэдактары часопіса былі проста збянтэжаныя гэтым вершам Анатоля Іверса. Яны падкрэслілі ў рукапісе некаторыя радкі, паставілі каля іх пытальнікі, пакінулі свае каментары. У адны з іх чытаем: *“Верш, як цэласьць, з прысьвячэньнем яго Н. Арсеньневай, робіць уражаньне верша*

*іранічнага... гэта нібы пародыя творчасьці Арсеньневай”*. Ёсць заўвага, што аўтар нейкае слова ўставіў проста “дзеля рыфмы”. “Адцьвітаючым пахмельлі” назвалі няўдалай метафарай. *“За кожнае слова ў вершы трэба быць адказным!”* — чытаем на тым аркушыку. Пры гэтым пазначана, што “тэхніка вершаваная добрая”.[9]

На жаль, невядома, ці была ў Анатоля Іверса ад пачатку мэта напісаць пародыю, ці проста атрымаўся такі двухсэнсоўны верш.

Не ўсе рукапісы твораў паэта, якія ў 1938 годзе з’яўляліся на старонках часопіса, знайшліся ў архіўных зборах Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа. А значыць, як мінімум, адзін суправаджальны да вершаў ліст Іверса застаецца нам невядомым. Змяшчаем тут ліст паэта, які ён даслаў разам з некалькімі вершамі ў “Калосьсе” ў канцы 1938 года.

9.XII — 38 г.

Паважаны грамадзянін!

Шчыра дзякую за прысланае “Назустріч”[10], але нажаль так сталася, што я атрымаў вельмі позна ды ў дадатак разарваным. Але мог бы адказаць раней, каб не выбары ў вясковы самаўрад. Вось гэтыя выбары забралі шмат часу і нічога з іх ня вышла. Нашая ліста была № 1. На падставе арт. 24 у выбарнай Камісіі ўсе 40 чалавек зьявіліся і сказалі, што яны добравольна падпісалі дэкларацыі. Аднак камісія 4-х выкрасьліла зусім, а 13 подпісаў трэба было нясьці да натарыуса, каб сьцьвердзіў іх уласнаручнасьць. Кароткі тэрмін і сьвяточны дзень... Уся праца, усе бязсонныя ночы мінуліся, але людзі не могуць супакоіцца — будуць пісаць пратэст. Ліста № 2 — асаднікі, Pacstwowe Szkoia Rolnica w Grzybowie, вучыцель пачатковае школы і ўсе нашыя падхлебнікі. — Камісія подпісаў не бадала.[11] Клікалі нас на вельмі ганебную ўгоду, каб стварыць адну лісту. На сходзе не далі гаварыць.[12]

Просіце, каб напісаў словы ацэны бел[арускага] матэр’ялу ў “Назустріч” і “Калосьсяў”. Пакуль што ўстрымліваюся. Зазначу, што з Вашым матэр’ялам у ва ўсіх часапісах пра Усх[однюю] Беларусь ніхто ў нас не згаджаецца. Коратка пра “Калосьсе”: часапісь з вонкавага выгляду і з парадку укладаньня матэр’ялу — добры... Толькі як-бы (а мо’ і запраўды) існуе напружанасьць паміж паэтамі і крытыкамі. Абшырней можа калі другім разам.

У кастрычніку быў у войску.[13] Час таксама мінуў амаль бязсьледна. Чакаю магчымасьці пабываць у Вільні, бо прычына ёсьць[,] толькі няма грошай.

З прывітаньнем А. Івэрс

P. S!

Паважаны Грамадзянін Рэдактар!

Не адмоўце злажыць падзяку ад майго імені ў рэдакцыі “Шляху Моладзі”[14] за прысланую брашуру “Выбарная ардыноцыя ў самаўрад”. Прыслана была ў час. — А. Івэрс.[15]

Сярод твораў паэта апублікаваных у 1938-м, быў вершы “На бруку”. Высвятляецца, што ў рукапісе ён называўся “На баранавіцкім бруку”, але слова

“баранавіцкім” перакрэслена (відаць, самім аўтарам). Не былі апублікаваныя апошняя страфа і подпіс:

“Вецярок — і я чую сьвітаньне,
Дзе вартуе зару чалавек…
А ўжо сонца разбуджаны танец
Недзе плёскае ў сіняй Няве.
Баранавічы, кастрычнік 1938”.[16]

Значыць, гэты верш быў напісаны Анатолем Іверсам падчас згаданых ім у лісце вайсковых збораў. А ў апублікаваным вершы “Залацілася раніца” няма наступнай страфы з прарочымі словамі:

“Гэта ты, Беларусь, сьмела некалі глянеш чым
ды не сумам васеньнім дарог і асін —
пабягуць цягнікі па балотах-тарфянішчах,
а прапэлеры скосяць блакітную сінь”.[17]

Вершы Анатоля Іверса з’явіліся і ў трох апошніх нумарах часопіса ў 1939 годзе.

**“Павінен ехаць на месячныя курсы кіраўнікоў узрыўных работ…”**

*“Для мяне Валодзя быў не толькі шчырым сябром, але нейчым большым,* — пісаў Анатоль Іверс удаве літаратуразнаўцы Уладзіміра Калесніка (1922 — 1994) ў снежні 1994-га. — *Гэта Ён, нягледзячы на варожныя паклёпы адносна маёй асобы, выцягваў мяне са штучнага балота, падымаў на вышыню ў сваіх літаратуразнаўчых, вядома, праўдзівых творах. Век не забуду”*[18].

У паперах Уладзіміра Калесніка ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва (ф. 161, в. 2, спр. 264) захаваліся лісты і паштоўкі Анатоля Іверса, якія ён дасылаў ў 1966-1987 гадах. Упершыню яны былі апублікаваны аўтарам гэтых радкоў у “Слонімскім краі” ў 2016-м.

* * *

Добры дзень, Уладзімір Андрэевіч!

Рад далажыць табе, што я атрымаў з Мінска “Сцягі і паходні”.[19] Кніжка зрабіла на мяне моцнае ўражанне, яна змястоўная і добра выдадзена. Дзякую за цёплую, ці лепш сказаць за гарачую ацэнку маіх твораў. Рад таксама, што і я крыху дапамог табе фатаграфіяй і артыкулам пра Гальяша Леўчыка.[20] Толькі мала змешчана яго вершаў у зборніку.

Усе мае сябры ў Слоніме таксама задаволены з кніжкі. А рэдакцыя раённай газеты, як бачыш, нават змясціла літаратурную старонку.[21] Газету са старонкай высылаю табе на памяць, каб і ты яшчэ раз парадаваўся нашым поспехам.

Наступнае пісьмо напішу, магчыма, з Мінска. З лютага туды я павінен ехаць на месячныя курсы кіраўнікоў узрыўных работ па карчоўцы пнёў.[22] А пакуль што — бывай! Прывітанні ад нас вашаму сямейнаму калектыву.

Анатоль Іверс
30 студзеня, 1966 г.[23]

Дарагі Уладзімір Андрэевіч!

Віншую цябе і Зосю[24] з Новым, 1967 годам! Жадаю моцнага здароўя, многа шчасця і ўсяго найлепшага. Часта ўспамінаю Брэст, вашу гасціннасць.

Нядаўна паслаў заяву ў выдавецтва наконт зборніка.[25] Ніяк не напішу на машынцы матэрыял. І яшчэ не вырашана самае галоўнае — каго прасіць і хто мог бы быць рэдактарам. З надзеяй паглядаю на цябе. Пісьні мне сваю думку.

Яшчэ раз прыміце самыя найлепшыя пажаданні.

А. Іверс

30/XII [1966 г.] [26]

Дарагі мой дружа Уладзімір Андрэевіч!

Яшчэ ў сакавіку бягучага года я адаслаў свой зборнік у выдавецтва “Беларусь”. Потым атрымаў адказ ад А. Бажко[27], што зборнік уключан на 1970 год [у план выдавецтва]. А. Бажко паведаміў таксама, што кнігу на рэдагаванне мяркуюць аддаць табе. Гэта было б вельмі добра.

У ліпені і жніўні мне давялося пабываць у Мінску (мне баляць вочы, прыязджаў да ўрача). Вядома, зайшоў і ў выдавецтва, гутарыў з Бажком напярэдадні яго адыходу ў рэдакцыю “ЛіМа”. Мне не спадабалася яго размова хоць бы і за тое, што ён наваліўся на Янку Брыля[28], якога я не магу ставіць у ніякае параўнанне з Алесем. Закралася трывога і за будучы мой зборнік, бо, маўляў, хоць Бажко пераходзіць у “ЛіМ”, але ўплывы вялікія мае ў выдавецтве.

Гутарыў я і з Янкам, калі ён вярнуўся з Дзятлаўскага раёна. Янка мяне запэўніў, што ўсё будзе добра. Ён таксама за тое, каб ты рэдагаваў зборнік.

Даражэнькі Валодзя! Прашу цябе быць рэдактарам.

Да пабачэння. Прывітанне жонцы.

А. Іверс

8.IX. [19]68. [29]

Добры дзень, Валодзя!

Учора ноччу прачытаў тваё пісьмо, прыехаўшы з III з’езда Беларускага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, дзе я быў дэлегатам (са студзеня 1976 года працую адказным сакратаром Слонімскага раённага аддзялення Таварыства). І вось выконваю тваю просьбу — высылаю адзіны фотаздымак Г. Леўчыка, які ў мяне яшчэ быў. Гляджу я на гэты здымак і бачу, што тут патрэбна рэтушоўка... Калі зможаш вярнуць картачку, то вярні, можа і мне будзе патрэбна.

Я вельмі рад, што выпускаеш новую кнігу, ды яшчэ са здымкам нашага земляка. Выхаду кожнай добрай беларускай кнігі я буду дапамагаць, чым толькі змагу. Твае ж літаратуразнаўчыя творы чытаюцца з вялікай цікавасцю. Як выйдзе кніга, прышлі мне. “Зорны спеў” у Слонім не прыбыў. Ледзь дастаў яго ў Гродне.

Усё. Бывай! Прывітанне жонцы.

А. Іверс

27.XI. 1976 г. [30]

Паважаны Уладзімір Андрэевіч!

Даўно мы не перапісваліся. Сёння рашыў напісаць табе кароценькі ліст,

хоць думаў зрабіць гэта раней. Хочацца паведаміць, што напярэдадні 60-годдзя Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі нашу Папярочную вуліцу перайменавалі ў вуліцу Івана Якаўлевіча Дабрыяна. Паколькі ты добра яго ведаеш, а я ўспамінаю нашу з табой і Янкам Брылём паездку ў яго калгас, то высылаю табе на памяць паэму "Вуліца Івана Дабрыяна", якую я напісаў. Адразу не мог прывыкнуць, што наша вуліца не так называецца. А з другога боку хваляваў Іван Якаўлевіч, якога я заўсёды ўважаў, паважаў.

Рукапіс паэмы я паслаў у "Полымя", адказу чамусьці не даюць.

Жыву памалюсеньку, крыху пішу вершы, працую адказным сакратаром раённай арганізацыі Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры.

Тваe апошняе кніжкі яшчэ не бачыў, няма ў Слоніме і невядома калі будзе. Папярэдняй таксама не было, але я купіў у Гродне.

Бывай здароў! Прывітанне жонцы!

А. Іверс

5 сакавіка 1978 г. [31]

[1] Сяргей Чыгрын уклаў і выдаў тры кнігі: Іверс А. Аўсяныя росы. — Мінск: Кнігазбор, 2011; Іверс А. З глыбінь жыцця. — Мінск: Кнігазбор, 2012; Жыццё і творчасць Анатоля Іверса. — Мінск: Кнігазбор, 2012.

[2] Паводле гэтых знаходак былі здзейснены дзве публікацыі: Анатоль Іверс: Павінен ехаць на месячныя курсы кіраўнікоў узрыўных работ... // Слонімскі край, 2016, № 4. Травень. С. 14-15; Ёрш С. Ліставанне паэта Анатоля Іверса з рэдакцыяй часопіса "Калосьсе" // Слонімскі край, 2018, № 11. Лістапад. С. 10-13.

[3] ЦНБ НАН Беларусі. Ф. 23, в. 1, спр. 422.

[4] ЦНБ НАН Беларусі. Ф. 23, в. 1, спр. 442, арк. 51, 51адв.

[5] Тамсама.

[6] ЦНБ НАН Беларусі. Ф. 23, в. 1, спр. 422, арк. 2.

[7] Слонімскі край, 2018, № 11. Лістапад. С. 10-13.

[8] ЦНБ НАН Беларусі. Ф. 23, в. 1, спр. 422, арк. 2.

[9] ЦНБ НАН Беларусі. Ф. 23, в. 1, спр. 422, арк. 2адв.

[10] Украінскі часопіс літаратуры і мастацтваў, выходзіў у Львове ў 1934-1938 гадах.

[11] Не вывучала, не даследавала.

[12] І. Міско пісаў: "Літаральна за пару дзён з Іванам Герасімавічам Міско сабраў у вёсцы і на хутарах патрэбную колькасць подпісаў пад спісам кандыдатаў у гмінны самаўрад. І хоць наш спіс падалі першым, улады адмовіліся яго рэгістраваць: маўляў, подпісы маглі быць падробленымі, бо не завераныя натарыусам". Гл.: Анатоль Іверс. Мой жыццяпіс // Жыццё і творчасць Анатоля Іверса.: успаміны, згадкі, рэцэнзіі, прысвячэнні, пісьмы, фотаздымкі. Укладальнік С. Чыгрын. — Мінск: Кнігазбор, 2012. С. 7.

[13] Іван Міско ўспамінаў, што праходзіў вайсковыя зборы ў 27-м палку уланаў ў Баранавічах. Гл.: Жыццё і творчасць Анатоля Іверса... С. 88.

[14] Папулярны заходнебеларускі маладзёжны часопіс, выходзіў у Вільні ў 1929-1939 гадах.

[15] ЦНБ НАН Беларусі. Ф. 23, в. 1, спр. 422, арк. 3, 3адв.

[16] ЦНБ НАН Беларусі. Ф. 23, в. 1, спр. 422, арк. 3.

[17] ЦНБ НАН Беларусі. Ф. 23, в. 1, спр. 422, арк. 3адв.

[18] БДАМЛіМ, ф. 161, в. 2, спр. 264, арк. 25.

[19] Калектыўны зборнік "Сцягі і паходні" (Мінск, 1965), у які ўкладальнік Уладзімір Калеснік уключыў творы заходнебеларускіх паэтаў, а сярод іх і Анатоля Іверса.

[20] Гальяш Леўчык (Ляўковіч, 1880 — 1944), слонімскі паэт, краязнавец, перакладчык.

[21] Маецца на ўвазе "Літаратурная старонка" ў слонімскай раённай газеце "За перамогу камунізма" ад 29 студзеня 1966 года. Яна змяшчала артыкул Васіля Супруна "Рэха змагання. Да выхаду ў свет зборніка вершаў паэтаў былой Заходняй Беларусі "Сцягі і паходні", а таксама дзясятак вершаў слонімцаў, якія былі апублікаваныя ў згаданай кнізе. У літстаронцы апублікаваныя пяць вершаў Анатоля Іверса — "Вёска" (1933), "На этапнай дарозе" (1936), "Аганёк" (1943), "З чужыны" (1937), "Слонім — мой родны горад" (1960).

[22] Пасля звальнення з пасады сакратара гарвыканкама, Іван Міско з дапамогай сябра змог уладкавацца толькі ў Баранавіцкі хімлясгас, пазней працаваў на яго слонімскім вытворчым участку. Аднак у тым жа 1966 годзе зноў уладкаваўся на працу ў рэдакцыю слонімскай раённай газеты. Гл.: Жыццё і творчасць Анатоля Іверса: успаміны, згадкі, рэцэнзіі, прысвячэнні, пісьмы, фотаздымкі /укладальнік С. Чыгрын/. — Мінск: Кнігазбор, 2012. С. 16-17.

[23] БДАМЛіМ, ф. 161, в. 2, спр. 264, арк. 1. Ліст, рукапіс.

[24] Соф'я Міхайлаўна Калеснік, жонка Уладзіміра Андрэевіча.

[25] Маецца на ўвазе кніга "З пройдзеных дарог", якая выйшла ў Мінску ў 1970 годзе. Гэта быў другі зборнік паэта, які з'явіўся пасля першага праз 31 год.

[26] БДАМЛіМ, ф. 161, в. 2, спр. 264, арк. 4. Паштоўка, рукапіс.

[25] Алесь Бажко (1918 — 2013), беларускі пісьменнік, паэт. У першыя пасляваенныя гады дапамагаў органам савецкай дзяржбяспекі выкрываць і ліквідоўваць падпольныя беларускія арганізацыі. З 1962 года быў загадчыкам рэдакцыі мастацкай літаратуры выдавецтва "Беларусь". У 1970-м стаў намеснікам галоўнага рэдактара газеты "Літаратура і мастацтва".

[26] Янка Брыль (1917 — 2006) — народны пісьменнік Беларусі, удзельнік антыфашысцкага партызанскага руху. У адной з запісных кніжак Ул. Калесніка за 1966 год занатаваныя словы Янкі Брыля пра Бажко: "...ён рашыў, што можна са мной расправіцца. ...верны слуга органаў, атрымаў выхаванне. Яшчэ ў 1949 годзе ён паказваў мне пісталет і сам гаварыў, што супрацоўнічае. А сутычка са мною пачалася не з рамана ["Птушкі і гнёзды"], а з "Роздуму і слова". Знялі два артыкулы пасля цэнзары" (БДАМЛіМ, ф. 161, в. 2, спр. 228, арк. 28 адв.).

[29] БДАМЛіМ, ф. 161, в. 2, спр. 264, арк. 5. Ліст, рукапіс.

[30] БДАМЛіМ, ф. 161, в. 2, спр. 264, арк. 15. Ліст, рукапіс.

[31] БДАМЛіМ, ф. 161, в. 2, спр. 264, арк. 17. Ліст, рукапіс.



# ЗМЕСТ

## ПРОЗА

**ДРАМАТУРГІЯ**



**ЭПІСТАЛЯРЫЙ**



Літаратурна-мастацкае выданне

Паланэз

*Слонімскі літаратурны альманах № 1*

Рэдактар *Сяргей Чыгрын*
Адказны за выпуск *Васіль Герасімчык*
Вёрстка *Алеся Рыжага, Ільі Рыжага*
Вокладка *Алеся Рыжага*
*Карэктар Аксана Данілевіч*

Падпісана да друку 30.07.2019 г. Фармат 70х100/16.
Друк лічбавы. Бумага афсетная.
Ул.-выд. арк. 8,4. Ум. друк. арк. 12,19
Тыраж 125 ас. Зак. 77-9/2019

Таварыства з абмежаванай адказнасцю «ЮрСаПрынт».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца,
вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў
№ 1/388 ад 01.07.2014 г.
Вул. Карла Маркса,11, 230015, г. Гродна.
+375 152 77 18 20
+375 295 87 84 11
www.usp.by info@usp.by

